— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

13 СНЕЖНЯ 1996 г. № 50 (3874) Кошт 2 500 руб.









# ТЭАТРЫ — ЯК ЛЮДЗІ

Шчаслівыя тэатры — шчаслівыя і ў самыя скрутныя часы. А падабенства ўнутрытэатральных дачыненняў да сямейных гукае з класіка думку, што шчаслівыя сем'і шчаслівыя аднолькава. Тэатральныя — перадусім работай. Творчай: у мастацтве яны адно без аднаго доўга не жывуць, — работа ды творчасць.

17 лістапада віцебская "Лялька" (тэатр лялек, адпаведна) адзначала тэатральна-сямейнае свята: юбілей свайго мастацкага кіраўніка Віктара КЛІМЧУКА. І (за адным разам) трыццаціоддзе ягонай творчай дзейнасці, і дзесяцігоддзе самой "Librarian"?

Клімчука, жартуючы і не жартуючы, называлі на вечарыне бацькам-заснавальнікам віцебскага лялечнага тэатра (ці не тады ўзнікла ўстойлівая сямейная асацыяцыя?). Бацька-заснавальнік, задаволены шырынёй кола гасцей (вядомасць! падтрымка!), вадзіў іх па тэатры, — нібы паміж іншым звяртаючы ўвагу то на адмысловую батлейку, якая паўстала паводле старажытных узораў шчыраваннем мастака Аляксандра Сідарава, то на адмысловых лялек, часова ў спектаклях не занятых і таму выстаўленых у вітрынах (для агляду? для захаплення!) то на драўлянага (разьбянага) анёла са званком (кідаеш у празрыстую скрыначку грашовую паперку ў падтрымку дзіцячага тэатра — анёл у званок звоніць)... Клімчук вадзіў па тэатры, як па доме... Клімчук вадзіў гасцей па тэатральным доме, шмат расказваў пра мастакоў, пра акцёраў ды пра задумы, якія набліжаюцца да ўвасаблення, так што атаясамленне ягонага тэатра з домам рабілася грунтоўным, трывалым, устойлівым.

На сцэне, ужо падчас віншавання, казалі пра ўлады, "якія шмат зрабілі, каб і вы маглі рабіць", пра пяцьдзесят мільёнаў беларускіх рублёў, пералічаных у фонд падтрымкі дзіцячага тэатра (анёл, пэўна, званіў бы суткі), пра адзіны ў свеце лялечны тэатр, які працуе толькі па-беларуску (ззяў усмешкаю пры гэтым і Геральд Асвяцінскі, дырэктар). Прадстаўніца Фонду Сораса абяцала "паслаць Клімчука яшчэ куды далёка, бо надта ўжо зацікаўлена яго просяць у гэтае далёка". "Сукалі рісу вобразу" (шукалі рысу вобраза) Клімчука ягоныя акцёры,

*(Працяг на стар. 3)*



# КОЛА ДЗЁН

***Завяршаецца трэці паслярэферэндумны тыдзень. І пачынаюцца збывацца самыя змрочныя прагнозы адносна глыбокага эканамічнага крызісу на Беларусі, які ўлады імкнуліся ўсяляк закамуфляваць напярэдадні "плебісцыту". Усё больш грамадзян пачынае разумець, навошта прэзідэнту быў патрэбны выключна абавязковы характар рэферэндуму і чаму яго не задаволіла нават цалкам выйгрышнае пагадненне з апазіцыяй, падпісанае з дапамогай расійскіх міратворцаў. Пратрымацца тры месяцы, не ідучы на непапулярныя меры, прэзідэнт не змог бы. І не зможа пасля "перамогі", пасля анулявання апазіцыі. Беларусь з усё большым паскарэннем скочваецца ў яміну. А наперадзе — зіма... Дапамогі ж чакаць практычна няма адкуль: дзякуючы "ўмелай" міжнароднай палітыцы краіна фактычна апынулася ў блакадзе. Ведаючы гэта, пачынае выстаўляць свае рахункі "сястра" Расія, падштурхоўваючы Беларусь да больш цесных абдымкаў. Банкрутам-эканамістам нічога не застанецца, як правесці трэці і апошні рэферэндум... І тады, нарэшце, беларусы займеюць тое, чаго ім хочацца ўсе пяць апошніх гадоў: будуць не атрымліваць грошы і паліва гэтаксама, як не атрымліваюць жыхары Камчаткі, Далёкага Усходу ці Нечарназем'я, але вінаватай у гэтым будзе Масква...***

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

8 снежня споўнілася 5 гадоў белавежскай Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Ельцын, Краўчук і Шушкевіч прыдумалі ў той дзень (ноч) цывілізаваную форму разводу сям'і савецкіх рэспублік, бо далейшае "сожительство" стала немагчымым. Пяць гадоў — тэрмін зусім невялікі. Але сякія-такія вынікі можна падвесці. Самая відавочная выснова такая: найвышэйшы ўзровень жыцця цяпер у краінах, якія з СССР выйшлі, а ў СНД не ўвайшлі, а самы нізкі — у тых, што і сёння жывуць настальгіяй па "старэйшым браце" і надзеяй на аднаўленне "вялікага і непадзельнага"...

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

З 10 снежня расійскі канцэрн "Газпрам" пачаў скарачэнне паставак газу на Беларусь. Дакладная лічба скарачэння не называецца, але яна будзе набліжацца да той, якая аплачваецца: 50 працэнтаў. Расія больш не хоча пастаўляць газ Беларусі ў доўг (дарэчы, ён перавысіў 200 млн. долараў). Пасля "нулявога варыянта", пасля вываду расійскіх ядзерных ракет "козырных карт" у Беларусі не засталося. Прадаваць і перадаваць "Газпраму" таксама больш няма чаго. Няма валютных рэзерваў, няма залатых запасаў, няма нават замежных крэдытаў. Вычарпаны і ліміт "сяброўства": "дружба дружбой, а табачок врозь", — кажуць расійцы. І чакаюць, што на гэты раз прапануе ім прэзідэнт Лукашэнка... Пры гэтым час для папярэджання-ультыматуму выбраны самы зручны: зіма.

## ЦЫТАТА-ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

"Парламент без апазіцыі і без прадстаўніцтва ад сталіцы — унікальнае вынаходства беларускай дэмакратыі. Цяпер "мяшаць" Лукашэнку больш няма каму. Адзін чалавек стаў поўнаўладным гаспадаром 10-мільённай краіны... Безагаворачная падтрымка Расіяй дзяржаўнага перавароту прывядзе да таго, што цяпер барацьба апазіцыі супраць Лукашэнкі ўсё больш будзе набываць антырасійскую накіраванасць. Знешнепалітычная ізаляцыя, рэпутацыя Паўночнай Карэі ў цэнтры Еўропы стане фактарам, які падштурхоўвае прэзідэнта да канчатковага аб'яднання з Расіяй. Стрэлкі на гадзінніку беларускай дзяржаўнасці, падобна, набліжаюцца да 12. Веймарскі перыяд для нашай краіны скончыўся. Ці дачакаемся Нюрнберга?"

*(З артыкула Валерыя КАРБАЛЕВІЧА "Конец Веймарской Беларуси", "Свободные новости-плюс", N 49).*

## ПРАТЭСТЫ ТЫДНЯ

8 і 10 снежня ў сталіцы Беларусі прайшлі антыпрэзідэнцкія акцыі, якія мелі і непрыхаваны антырасійскі характар. 8 снежня каля 5 тысяч дэманстрантаў з пляца Незалежнасці накіраваліся да расійскага пасольства, дзе чакалі іх калоны амонаўцаў. Упершыню Мінск пачуў дружныя выкрыкі "Ганьба Расіі" і "Рукі прэч ад Беларусі..." 10 снежня, у Сусветны дзень праваў чалавека, на месцы збівання студэнтаў 30 траўня г.г. каля будынка Нацбанка моладзь арганізавала пікет, у якім прыняло ўдзел да 500 чалавек. І першая, і другая акцыі скончыліся арыштамі. 8 снежня арыштавана больш за 20 чалавек, 10 снежня — 14, з іх — 5 студэнтаў факультэта міжнародных адносін БДУ, аднакурснікаў сына прэзідэнта — Віктара...

## АДСТАЎКІ ТЫДНЯ

Як і чакалася, пасля добраахвотнай адстаўкі па прычыне нязгоды з праводзімай прэзідэнтам палітыкай чатырох суддзяў Канстытуцыйнага суда Беларусі на чале са Старшынёй КС В. Ціхінем, падалі ў адстаўку яшчэ тры. І цяпер ужо з 11 суддзяў КС ад пасад адмовіліся 7. Гэта: В. Ціхіня, В. Фадзееў, М. Пастухоў, А. Вашкевіч, М. Серада, С. Цішкевіч, В. Падгруша. Ёсць звесткі, што заяву аб адстаўцы напісаў і суддзя М. Чудакоў. Першапачаткова заявы падаваліся ў Вярхоўны Савет на імя яго старшыні С. Шарэцкага, але таго парламента сёння ў нас ужо няма. Суддзі вымушаны былі перадаць заявы прэзідэнту. Прэс-служба прэзідэнта апаратыўна паведаміла: "А. Р. Лукашэнка задаволіў просьбу В. Г. Ціхіні".

## НАСТРОЙ ТЫДНЯ

Ёсць рэчы, якія сёння заўважаюць усе, нават самыя багатыя: няўхільны рост цэн. Толькі на гэтым тыдні аб'яўлена пра павышэнне кошту бензіну, кошту праезду на міжгародніх і прыгарадных аўтобусах, зноў чакаецца павелічэнне кошту гарэлкі і шампанскага, камунальных паслуг.... І гэта толькі кветачкі рэферэндуму (і толькі ў эканоміцы краіны), ягадкі — наперадзе. Іранізаваць над гэтым не хочацца. І без таго сумна.

## ПАШПАРТЫЗАЦЫЯ ТЫДНЯ

10 снежня Беларусь апошняй з рэспублік былога СССР распачала пашпартызацыю сваіх грамадзян: замену савецкіх пашпартоў на пашпарт незалежнай дзяржавы Беларусь. Прыгадаем, што больш за два гады таму мільёны "незалежных" беларускіх пашпартоў ужо былі аддрукаваны, больш таго, пашпарт N 1 быў уручаны першаму прэзідэнту краіны. Пашпарт з гербам "Пагоня". Некалькі дзесяткаў тысяч такіх пашпартоў былі выдадзены грамадзянам, якія "згубілі" свае савецкія... Астатнія пайшлі ў макулатуру. Гэта толькі адзін прыклад матэрыяльных страт, якія нанёс дзяржаве папярэдні бясплатны рэферэндум, гэта яшчэ адзін доказ таго, што дзяржава, у якой ідэалогія крочыць паперадзе эканомікі, ніколі не будзе багатай...

---

*З нагоды*

# ЁСЦЬ, ВЯДОМА, І РАСІЯ ІНШАЯ, АДНАК...

Калі ў Югаславіі ў выніку фальсіфікацыі выбараў апазіцыя згубіла некалькі дзесяткаў месц у парламенце, на дэманстрацыю пратэсту ў Бялградзе выйшла сто тысяч чалавек. Калі падчас дэманстрацыі паліцыяй быў збіты і арыштаваны студэнт, сорак тысяч бялградскіх студэнтаў выйшлі патрабаваць яго вызвалення. А праз нейкі час да акцый пратэсту далучыліся студэнты горада Нові-Сад.

Калі ж у Беларусі прэзідэнт вырашыў скасаваць парламент, Канстытуцыйны суд, а разам з імі і Канстытуцыю, бараніць дзяржаўны лад прыйшлі да будынка Вярхоўнага Савета дзве-тры тысячы чалавек. Не больш пяці тысяч пасля "рэферэндуму" прыйшлі на мітынг і дэманстрацыю, каб выказаць сваё абурэнне дзяржаўным пераваротам. А 10 снежня ў Дзень палітвязняў пікет у цэнтры Мінска складаўся ўсяго з некалькіх соцень чалавек...

Югаслаўскія падзеі — "кветачкі" ў параўнанні з нашымі "ягадкамі". Але розгалас у грамадстве выклікалі непараўнальна большы. Сто тысяч дэманстрантаў і дзве — розніца ёсць.

Яднае ў дадзеным выпадку Беларусь і Югаславію тое, што адзіная краіна ў свеце, якая падтрымлівае рэжымы ў Бялградзе і Мінску — Расія. Пра ролю Масквы ў беларускім канфлікце сказана шмат. Агульная выснова, Масква выратавала Лукашэнку, бо знайсці ў Беларусі больш прамаскоўскага палітыка немагчыма. С. Букчын у "Белорусской газете" за 2 снежня ідзе далей: "Лукашенко блестяще разыграл "российскую карту". А помогли ему в этом — еще задолго да его президенства — некоторые вожди и активисты БНФ. Да-да, я говорю о той высокомерно-уничижительной антирусской, антироссийской компании, которую они развернули в прессе в конце 80-х — начале 90-х годов". І далей: "БНФ пытался унизить Россию и отвратить от нее народ. Либералы ее попросту прозевали".

Зразумела, што пасля шоку, які выклікалі ў памяркоўных лібералаў "рэферэндум" і яго наступствы, хочацца знайсці вінаватага, а самога сябе прадставіць у найлепшым выглядзе. З прарасійска-ліберальнага пункту гледжання ні Расія, ні зарыентаваныя на Расію палітычныя сілы і сацыяльныя групы ва ўсталяванні дыктатуры ў Беларусі вінаватымі быць не могуць. "Экстрэмісцкі" БНФ для гэтай ролі падыходзіць значна больш. Аднак хацелася б удакладніць, калі гэта БНФ "пытался унизить Россию и отвратить от нее народ", і што гэта за "антирусская, антироссийская компания в прессе в конце 80-х — начале 90-х годов"? У гэты час у прэсе з'явілася шмат матэрыялаў па гісторыі беларуска-расійскіх стасункаў. Так, гэтыя публікацыі моцна адрозніваліся ад таго, што напісана ў падручніку "Гісторыя БССР" пад рэдакцыяй Абэцэдарскага. Але няўжо сп. Букчын лічыць абэцэдаршчыну ісцінай у апошняй інстанцыі?

Дзякуючы публікацыям канца 80-х — пачатку 90-х гадоў мы лепш ведаем сваю гісторыю. А з гісторыі Беларусі не выкрасліць ахвяры, якія несла краіна на працягу стагоддзяў, баронячыся ад Масквы, русіфікатарскую каланіяльную палітыку імператараў і генсекаў, Курапаты і Чарнобыль, за якія павінен несці адказнасць "саюзны цэнтр". Гэта — факты. Дзе тут сп. Букчын знайшоў "антырускую кампанію"? Сказаць праўду пра беларуска-расійскія стасункі — гэта "унизить Россию"? Мне, дарэчы, веданне той акалічнасці, што шмат якія крывавыя, трагічныя старонкі беларускай гісторыі пісаны "рукою Москвы", не замінае захапляцца рускай літаратурай, выяўленчым мастацтвам Расіі, мець сяброў сярод расіян, зычыць Расіі дабра. Нават пасля таго, як Расія паспрыяла ўсталяванню ў Беларусі дыктатуры.

Ведаючы хісткасць сваёй пазіцыі, сп. Букчын апраўдваецца. Я, маўляў, таксама пісаў пра фашызацыю Расіі, аднак "Есть другая Россия. Россия Сахарова и Лихачева. Ее в упор не видели наши национал-радикалы". Мяркую, аўтар памыляецца. Ведаем мы пра гэтую "другую Россию". Нас бы цалкам задаволіла, каб Сахараў быў прэзідэнтам РФ, а Ліхачоў яе прэм'ерам. Але маем рэальную справу зусім з іншай Расіяй. Расіяй Ельцына і Чарнамырдзіна, Зюганава і Жырыноўскага. Мы маем справу з Расіяй, якую дакладна апісаў Зянон Пазняк у сваім вядомым артыкуле пра расійскі імперыялізм. Апошнім часам гэты імперыялізм лічыць нават залішнім карыстацца дэмакратычным камуфляжам і адкрытым тэкстам вярзе пра "жизненные интересы".

Тыя, каго сп. Букчын называе "нацыянал-радыкаламі", былі па сутнасці патрыётамі, рамантыкамі. І калі іх у чымсьці можна абвінаваціць, дык у тым, што "вожди и активисты БНФ" меркавалі аб насельніцтве Беларусі па самім сабе, таму прыпісвалі насельніцтву неіснуючыя якасці — высокі інтэлект, талерантнасць, памяркоўнасць. Звычайная памылка дэмакратаў: яны думаюць, што свабода патрэбна і астатнім. Нацыянал-рамантыкі недаацанілі глыбіню сацыяльнай і нацыянальнай дэградацыі беларускага грамадства. А вось Лукашэнка разлічыў правільна...

Падобны персанаж ёсць у Маякоўскага. Яму "незнание точек и запятых заменяет инстинктивный массовый разум, потому что мамаша батрачка у них, а папаша — рабочий и крестьянин сразу".

Пакуль камуністы, якія і пасля Віскулёў лічылі, што ўсё яшчэ можна вярнуць, змагаліся са сваімі апанентамі — нацыяналістамі, рускамоўныя лібералы і нешматлікія прадпрымальнікі дэманстратыўна дыстанцыяваліся і ад камуністаў, і ад нацыяналістаў, называлі сябе "трэцяй сілай", разважалі аб дэмакратыі ўвогуле, дэмакратыі наднацыянальнай і нават без геаграфічнай прывязкі (мелі на ўвазе абстрактную Беларусь — "Беларусь без беларусаў") — да ўлады сапраўды прыйшла "трэцяя сіла", прычым сапраўды наднацыянальная (ці дакладней — пазанацыянальная)...

І зноў пра ролю Расіі. На думку сп. Букчына, "либералы Россию прозевали". І далей: "Отныне лучшими друзьями России надолго будут еще раз "всенародно избранный и утвержденный" А. Г. Лукашенко и вполне закономерно оживший "политический труп" А.А. Малофеев". А што магло быць інакш? Гэта свядомы выбар Расіі. Расія проста не магла падтрымаць лібералаў, бо такі выбар супярэчыў бы яе інтарэсам. І пакуль Беларусь будзе залежнай ад Масквы, кіраваць намі будуць "палітычныя трупы", і, як было калісь сказана ў летапісе, "мёртвыя будуць хапаць жывых".

Жыве Беларусь! Незалежная Беларусь.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

*Фрагменты*

# ІЗНОЎ ДА ВАВІЛОНСКАЙ ВЕЖЫ

У Святым Пісьме, ці інакш Бібліі, калі не цікавіцца ёю як зборнікам набожных казак, а шукаць у ім змесце Божую Мудрасць, што натхняла годных людзей злажыць гэты твор, можна знайсці ці мала адказаў на праблемы і балячкі, што кваляць прыватнае ў кожнага з нас або нацыянальнае ва ўсіх разам жыццё.

Сёння, у пару, калі нацыянальная бяда не толькі ўзяла верх над прыватнымі жыццёвымі клопатамі, але і стала маткаю амаль усіх іх, варта зазірнуць у Біблію ды пашукаць у ёй адпаведных слоў да таго, што дзеецца ў нашым Краі.

У пошуку гэткага месца ў біблійных сказах сам па сабе прыходзіць згад пра сусветны патоп і ягонае прыраўнанне да тае паводкі, што большую частку стагоддзя была затапіла нашы землі.

Гэтай паводкай была ўлада расійскага камунізму, што нішчыла як нацыянальнае, так і наогул людскае жыццё.

Біблійны Ной з ягоным родам, аднак, калі скончыўся патоп, сышоў з выратавальнага плыўна на падсохлую і гатовую да ўрабляння зямлю, а наш народ з віру апынуўся ў гразі, бо былая ў нас паводка яшчэ далёка не зусім адкацілася. (...)

Зусім, як некалькі Ноевых нашчадкаў ліхія спакусніцкія намовілі будаваць вежы, каб дастаць неба да схову, нас таксама (...) нелюдзі пераконваюць і палохаюць, што нягожа займацца паляпшэннем свайго жыцця, а годна і разумна аддаць майнасць і жыццё на ратунак ад загубы, якая, яны кажуць, адно й чакае, каб рушыць на нас з захаду сонца.

А гэтым ратункам, ці новаю Вавілонскай вежай, паводле іх слоў, будзе ачолены Масквою магутны і непераможны хаўрус, або супольніцтва, а яшчэ лепш задзіночанне славянскіх народаў, у якое, пры нястачы іншых ахвотнікаў, павінны неадкладна ўвайсці беларусы і ўкраінцы.

Памятныя, аднак, на тое, што Вавілонская вежа не ўзнялася высока ад зямлі, бо Бог, падзяліўшы гутарку будаўнікоў на розныя мовы, абярнуў у нішто іх неўпадобныя Яму намеры, пачынальнікі новай гэткай вежы, імя якой — Расійская імперыя, усялякімі нягоднымі спосабамі намагаюцца знішчыць усе іншыя, апрача расійскае, мовы і нацыянальныя асаблівасці суседніх з імі славян ды гэткім чынам, супраць Божае волі, вярнуць хоць падуладную ім частку чалавецтва ў папярэдні да Вавілонскай будовы стан.

А каб даць гэтай злачыннай мане від на павагу і зрабіць яе прынаднай, на падамогу прыцягваюцца даўнія і выпрабаваныя слугі жахлівага маскоўскага самадзяржаўя ды захопніцтва — іерархі і духаўнікі Расійскай Праваслаўнай Царквы з іх, прыхаванай пад пабожнымі хрысціянскімі словамі, расісцкай ідэалогіяй.

І льюцца з амбонаў, з вусных і пісаных зваротаў рэкі павучанняў хамскае непашаны да бацькоў і іх спадчыны, грэблівасці да Богам дадзенай роднай мовы ды рабскае падлізнасці і выслужнасці чужому.

Ды ідзе з ухвалаю і ўдзелам гэтых нябожых слугаў адкрытае, ды ўтоенае змаганне не толькі супраць нядаўна ўзноўленае дзяржаўнае незалежнасці Беларусі, але і далейшага існавання беларускага народа.

Завяршэннем усіх бессаромных крyцельстваў і відных, ды схаваных прымусаў, уваччу гэтых паклонных не Богу, а "Руси" ілжэпастыраў і паможных ім беларускіх здраднікаў было падпісанне 2 красавіка ў іхняй прысутнасці ў Крамлі дамовы на злучэнне Беларусі з Расіяй.

Завяршэнне ў кожнай людской справе бывае, аднак толькі тады, калі яно даспадобы Богу ды ва ўгоду Ягонай волі.

Таму, калі колісь Бог не дазволіў узняцца першай Вавілонскай вежы, што не была па Ягонай мыслі, дык і самай апошняй, стаўленай у новым Вавілоне вежы — маскоўскай імперыі, як ці адной ужо ўперад, Ён не дасць збыцца.

*("Царкоўны пасланец", орган Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, лета—восень 1996 г.)*

**Ад рэдакцыі.** Здаецца, "Царкоўны пасланец" трохі апярэджвае падзеі, калі піша пра "ўлучэнне Беларусі ў Расію" як пра здзейснены факт. Занадта рэзкімі падаюцца і яго выпады супраць праваслаўнай царквы на Беларусі. Але памятаючы, хто стаў поруч з прэзідэнтам, калі ён падпісваў сваю ўласную канстытуцыю, мы ўсё ж друкуем гэты матэрыял (у скарочаным і адаптаваным па правапісе выглядзе).

Памяркуем

# ДА НАСТУПНАГА РЭФЕРЭНДУМУ!

Цікавая навука — псіхалогія... І ў многім прыкладная: дазваляе зразумець, што дзеецца навокал, чым кіруюцца людзі ў сваіх меркаваннях і ўчынках. (Маю на ўвазе заходнюю псіхалогію, а не тую, якую "праходзіла" 20 гадоў таму). Дык вось, паводле амерыканскага вучонага Л. Колберга, існуе некалькі ўзроўняў маральнасці: ад дамаральнага (у дзяцей да 9 год) да канвенцыйнага, калі кіруюцца нормамі маралі дзеля ўхвалы ці з-за выгады і праз іх да вышэйшага, постканвенцыйнага, калі людзі ў сваіх учынках пачынаюць арыентавацца на ідэал, на ўнутраныя прынцыпы. Кожны з нас у ходзе развіцця паступова праходзіць усе ступені, і толькі да апошняй, на жаль, не ўсе дарастаюць. (Так Колберг сцвярджае, не я).

У гэтым пераконваешся, калі сочыш за грамадска-палітычнымі падзеямі ў нашай не то краіне, не то рэспубліцы. Мяркуючы па ўсім, у верхніх эшалонах улады пануе мараль дзяціная, эгаістычная. Як гэта бывае ў малых? Дай цукерку, тады я зраблю тое ці тое, альбо, наадварот, нечага рабіць не буду...

Пытаюцца, скажам, у адной "дзяўчынкі" з райвыканкама (па радыё чула):

— А што калі выбаршчыкі азнаёмяцца толькі з прэзідэнцкім праектам канстытуцыі, а варыянта ВС не пабачаць?

— Нічога страшнага, — прастадушна адказвае яна. — Яны ўсё роўна галасуюць "за" ці "супраць" прэзідэнта...

У такім духу дзейнічала ўся афіцыйная прапаганда. Мелася на ўвазе, што калі прэзідэнт даспадобы, то канстытуцыя яго павінна быць бездакорнай. На любові народнай ўздумалі сыграць. "Выкарысталі" ўсіх бабулек разам з дзядулямі! А называецца гэта проста: падман даверу. Найвялікшы з грахоў.

Вось яшчэ адзін прыклад — з тых, што на памяці. "Хлопчык" з міліцэйскага начальства дае інтэрв'ю пасля падзей на плошчы Незалежнасці 17 лістапада. І кажа прыблізна наступнае:

— Мы абзванілі ўсе траўмапункты сталіцы, ніхто пасля сутычкі туды не звяртаўся. Значыць, сярод удзельнікаў мітынгу пацярпелых няма. А вось сярод аховы правапарадку (так яны сябе называюць. — **Г. К.**) пяць чалавек з цялеснымі пашкоджаннямі рознай ступені.

І думаеш: дык жа і міліцыянеры ў траўмапункты не звярталіся! Аднабокі нейкі крытэрый. А па-другое, няўжо яны пакорна дазвалялі сябе збіваць? Такога і ў пясочніцы не бывае, не тое што пры грамадскім супрацьстаянні.

Страх за пасаду і званне стаў той дамінантай, што кіруе выказваннямі і дзеяннямі большасці службовых асоб на сённяшні дзень. Незапалоханыя засталіся без працы. Але ж і тут не ўсё так адназначна. Пакуль дэпутатаў не зачапілі асабіста, пакуль нішто не пагражала іх дэпутацкаму званню і дабрабыту, яны на многае закрывалі вочы. Здавалі пазіцыю за пазіцыяй, адступалі крок за крокам. Палкоўнікі-кансультанты, мабыць, ведалі пра псіхалагічную тактыку, якая называецца "нага ў дзвярным праёме": калі чалавек ідзе на дробныя ўступкі, то ён саступіць і ў прынцыповых пытаннях. А ўсё пачалося з першага рэферэндуму. Правільна сказаў Ніл Гілевіч на Кангрэсе ў абарону Канстытуцыі: ужо той, першы рэферэндум быў непатрэбным, абсурдным і подлым. Але нацыянальныя сімвалы і родная мова здаваліся дэпутатам нечым завельмі абстрактным і далёкім, каб за іх змагацца. І толькі тады, калі паўстала пагроза іх персанальным лёсам, адны заварушыліся і згрупаваліся дзеля адпору, а другія здаліся на міласць пераможцы. Толькі штосьці не было энтузіязму ў зале, дзе прымалася новая канстытуцыя. Перабежчыкі выйгралі сёння, але могуць страціць заўтра. Як той казаў, няпраўдай свет пройдзеш, а назад не вернешся...

Яшчэ цікавей было назіраць, як прэзідэнта з парламентам мірылі "старэйшыя браты". Перш А. Любімаў арганізаваў тэле-шоу з узелам ЛДПРаўцаў (ён нераўнадушны да блазнаў). Нашых дэпутатаў размясцілі сярод безаблічнай масоўкі: замнога ў іх сур'ёзу. Гнюснае, скажу вам прама, было відовішча! "Думаўцаў" менш за ўсё хвалююць праблемы Беларусі. Як сцярвятнікі, яны зляцеліся да напаўжывой незалежнасці, і адзін з іх усё перапытваў у Лукашэнкі з недаверам: "Дык ці збірацца нам 2 мільёны подпісаў за аб'яднанне?" Не верылася яму, што можна вось так, за газ і нафту, аддаць Свабоду. Тое, за што іншыя народы кладуць лепшых сваіх сыноў...

Можна, усё можна, калі на першым плане шкурныя, а не дзяржаўныя інтарэсы. Можна прымаць прысягу на адной канстытуцыі, а потым гвалтам увесці другую. Можна з дапамогай падатковай інспекцыі выварочваць кішэні прадпрымальнікаў і прадпрыемстваў на "бясплатны" рэферэндум. Можна прыпісаць сабе адзіны голас "супраць" Белавежскіх пагадненняў (які на самай справе належаў іншаму). Можна адмяніць імпічмент самому сабе. Можна зрабіць спробу подкупу старшыні Цэнтрвыбаркама. Можна замест скрынак для галасавання апячатаць кабінеты парламентарыяў. А колькі ж яшчэ дзівосаў мы не ведаем!..

На чарговы рэферэндум, мабыць, вынесуць прапанову адмяніць слова "сумленне". Нашы тутэйшыя недарослі прагаласуюць і за гэта.

Дзецям, што б яны ні натварылі, мы, паўшчуваўшы, даруем. Бо ведаем: яны падрастуць, паразумнеюць. Калі не мы, дык жыццё навучыць. Горш, калі дарослыя "дзядзі" і "цёці" глухія да навукі жыцця, да законаў, якія чалавечая супольнасць выпрацоўвала тысячагоддзямі. І яны ўжо не падрастуць.

...Аднаго не кажа нам добрая навука псіхалогія: адкуль яе, высокую мараль, узяць. Мо яна ў кожнага з нас, як грошы — ці ёсць, ці няма? Ну, а калі няма, то аніякая інспекцыя не вытрасе...

**Г. К.**

Вечарыны

# "СТРАЦІМ — ЛЕБЕДЗЯ СПЕЎ..."

Так назвалі арганізатары вечарыну, прысвечаную 105-годдзю Максіма Багдановіча, якая адбылася ў Доме літаратара 9 снежня — у Дзень нараджэння Паэта. Ладзіў імпрэзу Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Вось чаму ўступнае слова, як і належыць, узяў дырэктар музея Алесь Бяляцкі.

Да гонару арганізатараў — вечарына прайшла на адным дыханні і нагадвала прыгожа сплецены літаратурна-мастацкі вянок у традыцыях самога Багдановіча.

Вялі праграму артысты-купалаўцы — Віктар Манаеў і Алена Сідарава. У іх выкананні гучалі вершы паэта і цёплыя пранікнёныя маналогі-рэтраспекцыі пра жыццё і лёс Максіма Багдановіча.

Ушанаваць "імянінніка" прыйшлі слынныя майстры беларускай паэзіі: Ніл Гілевіч, Алесь Разанаў, Леанід Дранько-Майсюк. Ад маладзейшага пакалення літаратараў вітаў Максіма-кніжніка паэт Міхась Скобла.

А яшчэ на вечары гучала шмат песень. Доўга не адпускалі са сцэны ўдзячныя слухачы бардаў Алега Атаманава, Алеся Камоцкага, Вальжыну Цярэшчанку, Эдуарда Акуліна. Усцешылі прысутных і заслужаны артыст Беларусі — Віктар Скорабагатаў, які праспяваў вершаваны цыкл Багдановіча "У зачараваным царстве".

І сапраўды, перапоўненая зала Дома літаратара, якая ў гэты вечар так і не змагла ўмясціць усіх жадаючых, амаль дзве гадзіны нагадвала тое "зачараванае царства", з якога з'явіўся для нас і якое пакінуў нам у спадчыну Страцім-лебедзь беларускай паэзіі — вечна малады Максім Багдановіч.

**Н. К.**

Выставы

# З БЕРЛІНА — У МІНСК

***У музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстава "Нямецкая прапаганда на Беларусі 1941—1944. Канфрантацыя паміж прапагандай і рэчаіснасцю".***

Гэтую экспазіцыю падрыхтавала таварыства "Кантакты" ў садружнасці з праектнай групай Аддзялення палітычных навук Свабоднага універсітэта ў Берліне і архівамі ды музеямі Беларусі.

На выставе паказаны закрытыя раней, малавядомыя дакументы і агітацыйныя плакаты, якія выдаваліся немцамі падчас вайны. Асноўныя тэмы экспазіцыі — антысеміцкая і антыбальшавіцкая прапаганда, барацьба з партызанамі, вываз на прымусовую працу ў Германію, палітыка калабарацыянізму і г. д. — усё гэта добра ілюструецца фотаздымкамі і статыстычнымі звесткамі.

Можна меркаваць, што фашысцкая прапаганда ў Беларусі часам мела поспех — асабліва сярод тых, у каго камуністы забралі зямлю і маёмасць, ці расстралялі, адправілі ў лагеры родных людзей. Некаторыя нямецкія плакаты, асабліва што тычацца Сталіна і бальшавіцкай сістэмы, мусілі выглядаць даволі пераканаўча. "Сталин окружил вас каменной стеной. Он знал, что при малейшем знакомстве с другим миром вы обнаружите весь подлый обман большевистского строя", — сцвярджалася ў адным з іх. Акрамя таго, у шматлікіх прапагандысцкіх дакументах гаварылася: "Германія — самая сацыялістычная краіна на зямлі — павінна, разам з абудзіўшыміся народамі, выратаваць Еўропу ад сусветнай чумы бальшавізму"; "Сталін сярод капіталістаў — Гітлер сярод працоўных"; "Вельмі і неспадзяваны падарунак непераможнага вермахта, роспуск калгасаў, зрабіў шмат каго з беларусаў шчаслівымі"; "Прыгон і знішчэнне даў вам Сталін!" і да т. п. Тыя, што "шчыравалі" ў агітацыйна-прапагандысцкім накірунку, "тлумачылі" неабходнасць усталявання "новага парадку" і прыходу фашызму на замену камунізму, добра ведалі, што папулісцкія абяцанні, заклікі і лозунгі часта спрацоўваюць вельмі ўдала...

Раней за беларусаў выставу змаглі ўбачыць у Берліне, бо працавалі ў нашых архівах (у асноўным — з недаследаванымі дакументамі) нямецкія студэнты. Яны, пад кіраўніцтвам дацэнта доктара Ёханэса Шлотца (кіраўніка праекта), спецыяльна для гэтага шэсць разоў прыязджалі да нас. Дарэчы, у Берліне сп. Шлотцам быў выдадзены якасны беларускамоўны каталог выставы.

**Аляксей ШЭІН**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Фантасмагарычная гісторыя ў стылі машыны часу. 1916-ы, Распуцін у Расіі не забіты, цар адракаецца ад прастола, і трон займае мужык. Яшчэ адзін Грышка Атрэп'еў? Не, у машыны часу ёсць свой эквівалент. Расія абвяшчаецца рэспублікай, і абіраецца прэзідэнт. Так, той самы Распуцін. Ды машына раптам ламаецца, і ўладу пераймаюць бальшавікі. Што далей адбываецца? А нічога не адбываецца. Гадзіннікі спыняюцца, люстры перкручваюць рэчаіснасць, прышласць перацякае ў прошласць, прошласць — у прышласць, і гэта, мабыць, ва ўсёй гісторыі самае фантасмагарычнае.

●

— Я іх навучу спалучацца ў букеты, — казала дама, абрываючы кветы. — Будзеце любавацца кветамі тымі, а хто да букетаў называў іх жывымі?

●

І раней былі святы друку, ды да "Праўды" вяртаюць фэст. Хай мацней гучыць наш пратэст. Бо не проста друку прысвячаем мы фэст, а свабодзе друку!

●

Люстэркі толькі паказваюць? Архімед сказаў: "Як калі. Бывае, люстэркі падпальваюць варожыя караблі". Усё разлічыў вучоны. Ярка свяціла сонца, рымскія галеры на штурм Сіракузаў йшлі. "Агонь!" — загадаў феерверкер, успыхнулі люстэркі, і ў полымі і дыме на дно пайшлі караблі. Нейтральныя люстэркі? Не гаварыце, не паверу!

●

Паводле Бернарда Шоу. Ёсць пяцьдзесят спосабаў сказаць "так" і пяцьдзесят спосабаў сказаць "не", і толькі адзін спосаб напісаць гэта. Але кожны чытае потым свае "так" і "не".

●

Параднае збудаванне — "Акадэмія кіравання". Былая высокаідэйная "Вышэйшая партыйная". Надпіс золатам, як наколаты: "Акадэмія кіравання пры прэ"... Літары відаць не ўсе, ды прэзідэнт у курсе — ягоная кузня. А што абсурдны назоў, дык ясна і без шрыфту: акадэмія Свіфта.

●

— Варта спусціцца ў вулічны люк — і трапляеш у іншыя цывілізацыі. — А як бы гэта без каналізацыі, — мнецца хлапчук. — Проста, — кажа фантаст, — у неба запускаецца баласт, ляціш сабе, качагарыш. І марыш. Куды табе? На Стажары? Фантазія — не прымус... — Мне б на Канары, — адказвае новы беларус.

# ТЭАТРЫ — ЯК ЛЮДЗІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

сыходзячы з апошняй прэм'еры паводле японскіх казак. Адмыслова зайздросціў дырэктар Дзяржаўнага тэатра лялек Яўген Клімакоў,у чым шчыра прызнаваўся, віншуючы юбіляра і жадаючы яму здароўя, "як самага неабходнага набытку ў тэатры"... Даводзілі сваю бясконцую адданасць крытыкі Уладзімір Мальцаў і Таццяна Ратабыльская, заўважаючы, што "мастак чуе час, але гэта зусім не азначае, што ён мусіць маршыраваць у нагу з часам", што спектаклі ў Клімчука — "пра недасягальнасць ідэалу", "вытанчаныя, памастацку шчодрыя...", што сам Клімчук — "ідэальнае спалучэнне якасцей мастака і арганізатара"...

Нават лялечная Батэрфляй у руках Алега Жугжды (паплечніка, калегі) выказала і акцёрскую любоў да рэжысёра-настаўніка, і ўсю драму акцёрскай незапатрабаванасці, і ўсю трагедыю нескарыстанасці, разыграла, давяла і змусіла Клімчука прызнацца ў фінале (у адказе "бацькі" на пытанні, наўпрост не зададзеныя "дзецьмі"): "Мы заўсёды такія, як і людзі вакол нас...". Клімчук казаў пра людзей тэатра. А мо і пра тэатры, — яны такія самыя, як і людзі...

Дадаць да апісання Клімчуковай вечарыны можна хіба наступнае: студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў, тыя, каго мы заўтра назавём крытыкамі або тэатразнаўцамі, выйшлі на сцэну ўслед за сваімі настаўнікамі. Яны віншавалі (дарылі, прамаўлялі, дэкламавалі), але скончылі высновай... пра тэатр — лепшы на ўсе часы й бесчасоўі. Пра шчаслівы тэатр.

**Ж. Л.**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

Варункі

# СУМНЫЯ СНЫ

**Памятаю пачатак снежня гадоў пяць таму, як каля Чырвонага касцёла, тагачаснага Дома Кіно, галадалі вернікі. Так яны змагаліся за вяртанне святыні. Як і цяпер, тады ішоў мокры снег, а яны сядзелі ў алюмініевых шэзлонгах, апранутыя ў цёплыя паліто, шапкі і валёнкі, закутаныя ў поліэтылен, каб не прамокнуць: сталая кабета і юнак.**

**Вернікі тады адваявалі касцёл. Як добра, думаю я, інакш бы там зараз баляваў Юра Азаронак. А так цяпер вакол касцёла і ў ім — інакшая аўра. Арханхел Міхаіл на цвінтары, насупраць гарсавета, энергічна таўчэ дзідаю змея, на якім паблісквае цяжкая мядзяная луска. Гэтая сімвалічная выява барацьбы Дабрыні са Злом — набалелая тэма ў жыцці нашай краіны.**

**Усярэдзіне касцёла — мармур, ляпніна, надпісы па-беларуску. Я ж спускаюся ў дольную залу, дзе ў тэатры аднаго акцёра з паэтычнаю паганскаю назваю "Зніч" ставіцца монаспектакль па вершах Янкі Купалы "Мне сняцца сны аб Беларусі..."**

**Цёмна-сінія раскладанкі хаваюць выступоўцаў, якія яшчэ рыхтуюцца. На сцэне — крэсла з кінутым беларускім ручніком і скрыпка без струнаў. Вось спачатку гасяць, а потым зноў запальваюць святло, і на сцэну выходзіць Галіна Дзягілева, бярэ бясструнную скрыпку ў рукі і пачынае гаварыць. Голас акцёркі — найвялікшы набытак тэатра. Глыбокі і насычаны своеасаблівай трагічнай сілаю, маючы адметную афарбоўку, ён неадольна прыцягвае ўвагу. Я на выбар выпісваю радкі, якія гучаць са сцэны: "ніколі не быў контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся". "Залягла як пасцель лебядзіная бель" — гэта Купала. "Вораг на свабодзе заўсёды небяспечны" — а вось гэта Берман, нарком унутраных спраў Беларусі ў 30-х гадах.**

**Монаспектакль скрозь сплецены з вершаў, якія гадзіну гучаць беспярэпынна. Гэта складана і для акцёра, і для слухача. Недарма ў "Знічы" за яго бярэцца толькі сама спадарыня Галіна. Але з такім голасам ёй гэта пад сілу. Слухаючы яе, я пераканаўся, што найвышэйшае майстэрства акцёра-чытальніка палягае не ў тым, каб слушна вытрымаць рытм і інтанацыю. Галоўнае — перадаць жар душы паэта, ажывіць сухія кніжныя радкі. Пацвярджэнне маіх слоў — поўная цішыня сярод вучняў, якія заварожана назіралі за сцэнаю.**

**Удала падкрэсліў майстэрства актрысы цымбаліст Алесь Лявончык, плятучы звонкую, як крынічная вада, нягучную мелодыю.**

**Спектакль упершыню быў пастаўлены ў 1989 годзе. Праз вершы Купалы ў спектаклі закранаюцца тэмы адносінаў да беларускай мовы, годнасці беларуса, любові да Бацькаўшчыны. Падаецца, што ён будзе актуальным яшчэ не адзін год.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## І З БОЛЕМ, І З ЛЮБОЮ

**"Беларуская хатка" — так неафіцыйна называецца гэты дамок у Мінску, што прытуліўся сярод камяніц, непадалёку ад галоўнага корпуса Беларускага універсітэта культуры. Колісь у ім кватаравалі Змітрок Бядуля і Максім Багдановіч, а цяпер месціцца экспазіцыя Літаратурнага музея М. Багдановіча, што і вяртае да даўніх, але такіх памятных падзей. І па традыцыі ў "хатцы" ладзяцца шматлікія мерапрыемствы, скіраваныя на далейшае абуджэнне нацыянальнай свядомасці. Але нядаўняя сустрэча, якая адбылася тут, усё ж стала крыху незвычайнай.**

**Сюды завіталі студэнты завочнага навучання разам са сваімі выкладчыкамі. І прыйшлі не проста пазнаёміцца з экспазіцыяй, больш даведацца пра жыццёвы і творчы шлях Максіма-Кніжніка. У сценах "хаткі" прайшоў паэтычны спектакль, у аснову якога былі пакладзены творы двух слынных паэтаў — паэма "Чорная быль" Сяргея Законнікава і казкі "Нарачанская чайка" і "Лебядзіная вернасць" Валянціна Лукшы. Здавалася б, па сваёй тэматыцы гэтыя творы розняцца. І разам з тым яны — падобныя. Падобныя трывожнай заклапочанасцю аўтараў за лёс Бацькаўшчыны, пра якую яны прамаўляюць і з болем, і з любоўю.**

**Прыцягам сустрэчы стала выступленне гаспадара "хаткі" Эдуарда Акуліна. Афіцыйна ён дырэктар яе, а па прызванні — паэт і бард. Э. Акулін расказаў пра сябе і пазнаёміў прысутных з лепшымі сваімі вершамі, песнямі. Тым самым зноў гучала тэма Бацькаўшчыны, нацыянальнага Адраджэння.**

**Н. К.**

## ТОЛЬКІ БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА!

**У Саюзе кампазітараў адбылося сапраўднае свята беларускай музыкі. Яго ініцыятарам стаў дацэнт кафедры фартэпіяна Акадэміі музыкі Барыс Бергер, які ўжо шмат гадоў займаецца прапагандай творчасці беларускіх кампазітараў як выканаўца (мае запісы на радыё) і як педагог. Паказчыкам чулага, неабыякавага стаўлення піяніста да беларускай музыкі з'явілася сама ідэя арганізацыі такога тэматычнага канцэрта.**

**Выканаўцамі твораў беларускіх кампазітараў сталі практычна усе студэнты класа Б. Бергера, а гэта — 22 чалавекі. Сярод іх — музыказнаўцы, прадстаўнікі аддзяленняў харавога дырыжыравання, кампазіцыі, народнага і струннага. На працягу больш чым дзвюх гадзін гучалі творы (у асноўным мініяцюры) А. Багатырова, М. Аладава, Г. Вагнера, П. Падкавырава, В. Залатарова, Э. Тырманд, Д. Смольскага, І. Лучанка, Я. Глебава, Д. Камінскага, А. Клумава, В. Войціка, К. Цесакова, А. Хадоскі, Г. Гарэлавай, М. Літвіна, А. Чыркуна, В. Карэтнікава, У. Солтана, А. Друкта, У. Прохарава.**

**Сярод слухачоў былі і самі аўтары: А. Багатыроў, Г. Вагнер, Г. Гарэлава, В. Войцік, У. Солтан, М. Літвін і інш. Сама ідэя канцэрта іх прыемна ўразіла, што і адзначыў загадчык кафедры кампазіцыі акадэміі А. Багатыроў, які выступіў са словамі падзякі Б. Бергеру і ўсім выканаўцам. Такім чынам, намаганнямі кафедры агульнага фартэпіяна Акадэміі музыкі адбыўся першы канцэрт, складзены з твораў беларускіх кампазітараў. Ці будзе працяг? Хочацца спадзявацца.**

**Наталля КСЕНЦ**

## "КАПРЫЗ"



**Некалькі гадоў назад восем дзяўчат арганізавалі пры Брэсцкім клубе чыгуначнікаў ансамбль эстраднага танца "Капрыз". У харэаграфічныя кампазіцыі, якія выконваюць дзяўчаты, уваходзяць фрагменты як эстрадных, так і класічных танцаў. Добра падабраныя касцюмы дапаўняюць уражанні ад выступленняў гэтай цікавай групы. Дзяўчаты ўжо выступалі на многіх брэсцкіх сцэнах, выязджалі са сваёй праграмай у раёны вобласці.**

*На здымку: пасля рэпетыцыі.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

*Меркаванне*

# НАД ПРОРВАЙ

Аднойчы на пероне станцыі "Масюкоўшчына" міжволі пачуў гаворку пра беларускую мову двух сталых мужчын-дачнікаў. Гаварыў больш адзін — хударлявы мужчына ў светлым, моцна паношаным касцюме з латкамі на той частцы штаноў, якая найбольш "працуе" ў людзей сядзячых прафесій. Мужчына эмацыянальна пераконваў свайго субяседніка, што беларуская мова мае толькі дзесяць працэнтаў сваіх слоў, што ён ёю не аваладаў толькі таму, што яна надта ж падобная на рускую, і з-за гэтага блытаўся ў словах, не ведаў, якое сказаць. Яшчэ ён казаў, што ўвогуле беларускамоўная праблема надумана, што ні Шушкевіч, ні Пазняк не размаўляюць на чыстай беларускай мове, што Купала і Колас былі палякамі. Адным словам, з яговых вуснаў лілося нешта блытанае. Адчувалася, што ён і сам не надта ўпэўнены ў сваіх развагах, але такога тыпу людзі звычайна адстойваюць з пенай на губах нават абсурдныя ідэі, каб толькі апраўдаць нейкія свае памкненні. Прычым такога роду прамоўцы — не дурныя людзі, у іхняй галаве нямала самых розных ведаў. У любы момант яны могуць эфектна выхапіць бліскучы факцік, неабвержны факцік. І калі суразмоўца — не дока ў спрэчках, знайсці контраргументы няпроста.

Для чаго я пра ўсё гэта прыгадаў? Ці ж мала такіх мужчын і жанчын, больш ці менш разумных, як гэты дачнік-філасоф? Вось таму і прыгадаў, што іх — шмат. Маўчаць сёння — грэх перад мінулым, цяперашнім і будучыняй. Пасля сумнавядомага рэферэндуму і палітыкі ўладнай вярхушкі стварыліся ўмовы для правядзення нахабнай, хоць і не надта смелай (адчуваюць, што на святое замахваюцца!) кампаніі. І ажывіліся такія вось людзі — ворагі беларушчыны. Яны "выступаюць" на пероных, у вагонах цягнікоў і электрычак, нярэдка вылазяць на старонкі газет і на радыё. Словы іх, як кажуць, носіць вецер, але, трэба прызнаць, іх той-сёй і слухае, а потым нават пачынае і падтрымліваць. Нападкі на мову перакідаюцца на гісторыю, сімволіку, увязваюцца з настальгіяй па часе, калі была танная кілбаса, мора гарэлкі і віна...

Людцы добрыя, была ў пэўныя часы гэтая кілбаса там-сям, але ўспомніце сваё жыццё, адкіньце ляноту і павуцінне звілінамі: а яшчэ што было да кілбасы? Гарэлка? Наеліся кілбасы, напіліся гарэлкі, і ўсё?

Чую загартаваныя, як сталь, галасы: а кнігі, а фільмы якія былі?! Усе пагалоўна вучыліся!!! Не адмаўляю, кнігі былі, і фільмы харошыя былі. Тут трэба пагадзіцца, многа было добрага, хаця нямала і хлусні-ружовага да прымітывізму, як песні пра хрушчоўскую кукурузу і тыражы знакамітай брэжнеўскай трылогіі. Так, усе вучыліся. Але ж як часам вучыліся і як выкарыстоўваўся навуковы патэнцыял? Мо таму і здарыўся Чарнобыль? Мо таму п'ём і ядзім прадукты з усімі элементамі табліцы Мендзялеева?

А як нашы бацькі працавалі ў вёсках? З самай раніцы і да позняга вечара за галачку на канцылярскай паперыне! Усе сілы і здароўе аддалі калгасам, а што займелі? Што добрага бачылі? У маёй вёсцы Хрыстова, дзе нарадзіўся і дзе прайшлі гады маленства, памерла многа жанчын і мужчын ад раку. Памiралі ў асноўным тыя, хто меў дачыненне да ядахімікатаў — працавалі ж без рэспіратараў і фільтруючых павязак. Так цаніліся людзі, такая была культура працы. Мой дзядзька Стась з прычэпа-сеялкі з хімікатамі свістаў у пальцы, калі трэба было, каб трактарыст спыніў трактар. Дамоў ён прыходзіў у той вопратцы, у якой працаваў — яна страшэнна смярдзела. Страшэнна пакутліва і памёр дзядзька ад раку крыві ў 72 гады, хаця па фізічных даных і моцы арганізма мог жыць намнога больш.

Што й казаць, надта добра жылі! Уцякалі, як прусакі, у гарады, уладкоўваліся на цяжкіх малааплатныя работы на заводах, тусаваліся ў інтэрнатах, мучыліся на прыватных мініметрах, чакалі па некалькі дзесяткаў гадоў уласны куток. Разваліваліся маладыя сем'і, разбіваліся чалавечыя лёсы.

А лячылі нас як? Усё на словах аддавала партыя роднаму народу, ды толькі параўнайце паміж сабой былыя партыйныя апартаменты і звычайныя лячэбныя ўстановы, асабліва на перыферыі. Мне крыўдна за майго тату-франтавіка, які перад смерцю мучыўся ў Пастаўскай раённай бальніцы ў палаце, дзе пакутавалі разам з ім яшчэ чалавек дзесяць. Мне крыўдна і за маму, якая ў мінулым годзе памірала ад інсульту ў Дунілавіцкай бальніцы таго ж Пастаўскага раёна. Няма кропельніц, няма лякарстваў, дапатопныя абшарпаныя ложкі з панцырнымі сеткамі, і якія правісаюць, як гамакі, шчыліны ў вокнах — усяго не пералічыш...

Той-сёй можа сказаць: але ж твае маці і бацька памерлі ў новыя, перабудовачныя часы. А заадно і спытаць: ці лепш цяпер жывецца, пры дэмакратах? Адкажу. Жывём дрэнна, вельмі дрэнна. Ды назад у балота — не хачу. І вам, даражэнькія, дарогі туды няма. А жывём так дрэнна таму, што пакуль у нас баль правіць не дэмакратыя, а анархія і злачыннасць. Ва ўладных структурах у асноўным усё тыя ж партыйныя ўмельцы не рабіць справу, а прыгожа пустасловіць і набіваць кішэні ды чэрава за кошт "любімага" народа.

І яшчэ. Трэба ўсвядоміць, што манная каша можа зваліцца з неба толькі ў казцы. Большасць народу на ўра прыняла ломку гнілога ладу, пра які з іроніяй, гневам і адчаем гаварылі калісьці на кухнях, пра які складалі анекдоты. Прынялі на ўра, зрабілі некалькі крокаў па бервяне над прорвай і... спужаліся! Хто праходзіў над рэчкай, добра ведае, што звычайна бывае ў такіх выпадках. Самае бесперспектыўнае — рабіць спробу развароту на 180 градусаў. Адзінае выйсце — пераліцца страх і, балансуючы, ісці да другога берага.

Дык адкінем жа страх! Мы ж павінны будаваць новы дом. Старога ўжо няма. Мо й не так яго трэба было разваліваць, але што зроблена, тое зроблена. Няўжо мы бухнемся ў прорву, выкараскаемся з руін і з друзу, пачнём аднаўляць гнілы будынак? Хоць і цяжка, хоць і не так хутка, як хацелася б, але трэба будаваць новы дом. А інакш прыйдзецца мерзнуць на вуліцы ці прасіцца ў нечыя пакоі. Хто жыў у чужых людзей і нават у сваіх блізкіх родзічаў, ведае: усё-такі там ты не гаспадар і паўнацэнна жыць не зможаш, як добра да цябе не адносіліся б.

Верыцца, што будзе ў нас новы дом. Аднак пакуль што мы над прорвай, у той час, калі іншыя (прыбалты, напрыклад) ужо даўно апынуліся на другім беразе і закладваюць падмурак. Вядома ж, у іх былі менш падсечаны карані, повязі з бацькоўскай зямлёй, з мінуўшчынай, у іх квітнеюць мова і культура, якімі яны не пагарджаюць, а шануюць і ўзносяць на новыя вышыні. Толькі тады, калі мы зразумеем нарэшце, што мова, культура, сімвалы продкаў — гэта святое, гэта наш дух, а які дух — такое і здароўе, толькі тады ёсць у нас будучыня. А інакш — існаванне і выміранне, паступовая дэградацыя ў чужых пакоях.

Няхай не цешацца ў часовай эйфарыі нашы "дабрадзеі" і не крычаць, што народ не падманеш, што народ робіць правільны выбар. Я маю на ўвазе рэферэндум. Народы не раз падманваліся палітычнымі дэмагогамі і маньякамі. Часам народы ў гіпнатычным парыве рабілі нешта надараваальнае і антычалавечае. Дастаткова назваць гітлераўскую Германію, сталіншчыну. І ўсё ж народы вяртаюцца да здаровага сэнсу, які вякамі дыктуецца лепшымі прадстаўнікамі духоўнага і культурнага жыцця чалавецтва. Зразумее і беларускі народ значэнне мовы, якая прарываецца праз вякі. А што датычыцца вынікаў рэферэндуму-95, дык для многіх у нашай краіне беларуская мова — не матчына мова. Гэта па-першае. Па-другое, вытравілі яе ў многіх з душы. Па-трэцяе, многіх зрабілі абыякавымі да ўсяго і нават да свайго і сваіх дзяцей лёсу. Спрацоўвае псіхалогія саўковага чалавека, навошта натужвацца, думаць — за мяне падумаюць там, наверсе. Галасавалі не за лепшае, а за звыклае. Упэўнены, што калі б вынеслі на рэферэндум пытанне аб курыве і гарэлцы, большасць прагаласавала б на карысць гэтых прадуктаў, хаця тая ж большасць разумее іх шкоду.

Сапраўдныя лідэры дзяржавы і нацыі ніколі не вынеслі б пытанні, якія былі на рэферэндуме, для масавага абмеркавання. Сапраўдныя лідэры павінны весці свой народ да святога па нялёгкай дарозе ў рай, а не прывіваць ляноту і шукаць лёгкія сцяжынкі ў пекла.

Хочацца верыць, што адхлыне хваля, якую ўзнялі ўчарашнія барацьбіты за камунізм і якая выплеснула на зямлю крывадушша, падман, абыякавасць, нахабнасць. І пачнуць у душах выспяваць новыя пачуцці, новыя памкненні. Толькі трэба павярнуцца тварам да сваіх далёкіх продкаў, адчуць іх дух, іх культуру. І будзем мы жыць, як жывуць людзі ў цывілізаваных краінах: цаніць, шанаваць сваё і ў той жа час дружыць з іншымі, паважаць іхняе. А не так, як было ў Савецкім Саюзе: штодзённа талдычылі савецкаму люду аб самым лепшым у свеце грамадстве, аб інтэрнацыяналізме і ў той жа час трымалі сваіх грамадзян у ізаляцыі. Нешта падобнае прапагандуюць сёння старонікі яднання славянскіх народаў. У імя чаго? А як быць з іншымі славянамі, мовы якіх таксама блізкія да той жа рускай? А як быць з неславянамі? Няўжо будзем даказваць разам са старэйшым братам, што Чачня па канстытуцыі — Расія?

Цяжкія выпрабаванні чакаюць беларускі народ, бо ў многіх з нас за плячамі гарбы савецкай сістэмы. Але цешыць сэрца адна думка: у гарбатых бацькоў не заўсёды гарбатыя дзеці.

**Янусь МАЛЕЦ**

*ЧЫТАЧ — ПРА "ЛІМ"*

# ДАРАДЦА І СУБЯСЕДНІК

Знаёма з "ЛіМам" з юнацтва, выпісвала і чытала яшчэ школьніцай. Ён стаў для мяне ў тыя гады носьбітам і ўвасабленнем годнасці беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, беларускага слова, ён быў маім дарадцам і шчырым субяседнікам. Ён застаецца для мяне і сёння жывой крынічкай беларушчыны. Гэта імклівая, прамяністая крынічка супакойвае радасцю і надзеяй на святло ў долі Бацькаўшчыны.

Так, "ЛіМ" — газета элітарная. Але "ЛіМ" зразумелы і адкрыты ўсім. Цвёрдасць, а сёння і смеласць, у змаганні за беларускую нацыянальную ідэю, за правы беларускай мовы, боль за пакуты роднай зямлі, за падманутыя надзеі спрацаваных на гэтай зямлі людзей — гэта "ЛіМ" сённяшні, "ЛіМ" — наш сучаснік. Мне не хацелася б адчуваць будзённасць, палітычную і эканамічную нязладжанасць нашага жыцця на старонках газеты "Літаратура і мастацтва", хацелася б захапляцца толькі вольным духам літаратурнай стыхіі, жыццяпісам мастакоўскіх выстаў, самых розных школ і згуртаванняў, навінамі тэатральных і канцэртных залаў, адкрыццямі ў гісторыі літаратуры і мастацтва. Але пакуль час такі — хачу "ЛіМ" бачыць такім, які ён ёсць сёння.

**Ганна ЗАПАРТЫКА,**
**дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва**

●

"ЛіМ" стаў часткай майго жыцця. Кожную пятніцу бегаю па кіёсках, каб набыць любімую газету і прачытаць "Кола дзён", інтэрв'ю М. Замскага, артыкулы Л. Лыча, матэрыялы ў рубрыках "Меркаванні", "Проза" і інш.

Хацелася б даведацца са старонак газеты пра творчасць прадстаўнікоў мастацтва, беларускіх дыяспар на Захадзе, пра творчасць беларускіх пісьменнікаў на Беласточчыне, іх узаемадносіны з польскімі ўладамі. Цікава было б атрымаць аб'ектыўную інфармацыю пра жыццё і творчасць прадстаўнікоў культуры у Заходняй Беларусі да 1939 года і ў ваенныя перыяд.

І яшчэ. Матэрыялы на сацыяльна-палітычную тэматыку заўсёды прываблівалі мяне. А каб з імі выступалі і аўтары з глыбінкі, было б яшчэ лепш. Няма таксама матэрыялаў пра адносіны да беларускай культуры прадстаўнікоў і першых асоб Адміністрацыі прэзідэнта і Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Валерый МІХАЙЛАЎ,**
**ваеннаслужачы**

●

Выпісваю і чытаю "ЛіМ" гадоў дваццаць, як толькі сама стала настаўніцай. Чытаю ўсё, ад першай да апошняй старонкі. Гэта крыніца маіх духоўных сіл, я ўсёй душой прымаю пазіцыю "ЛіМа". Знаходжу тут усё — ад сур'ёзнага артыкула, цікавага апавядання да дасціпнага гумару. Я вельмі люблю "Долю праўды" М. Коўзкага, з чаканнем нейкага адкрыцця чытаю інтэрв'ю М. Замскага, артыкулы А. Марціновіча. З прозы найбольш спадабалася нядаўняе апавяданне М. Вайцяшонак "Сухія навальніцы". У літаратурных старонках заўсёды знойдзеш навінкі літаратуры, аднак перакладаў з замежных моў на беларускую мову малавата. Хацелася б, каб гэты прагал быў запоўнены.

**Алена ТАБОЛІЧ,**
**выкладчыца Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага інстытута**

●

Мне вельмі блізкі ваш дэвіз — "—Каго любіш? — Люблю Беларусь!"

Дзейнасць "ЛіМа" прасякнута любоўю да Беларусі, свайго народа, сваёй працы. А ўсё тое, што робіцца з любоўю і стараннем, чакае поспех. За гады выпрацаваліся ўменне і свой стыль.

Мне імпануе, што "ЛіМ" на сваіх старонках не баіцца ўздымаць вострыя праблемныя пытанні, разгортвае дыскусіі і абмеркаванні, што ні адна больш-менш значная падзея культурнага і літаратурнага жыцця не застаецца па-за ўвагай тыднёвіка. Акрамя гэтага, на старонках "ЛіМа" ёсць шмат прыемных "дробязей", якія робяць цікавымі зносіны з ім.

Радуе, што ў апошні час "ЛіМ" усё большую ўвагу пачаў надаваць моладзі: з'явілася шмат цікавых публікацый маладых аўтараў, друкуюцца творы маладых паэтаў і празаікаў.

**Міхась БАШУРА,**
**паэт**

*Раней было вельмі модна выступаць у перыядычным друку з публікацыямі, якія мелі назву: "Што дала Савецкая ўлада працоўным?" Цяпер такога не сустрэнеш. Няма ўжо Савецкай улады, жыццё наша апынулася ў руках прэзідэнцкай вертыкалі. А пасля рэферэндуму наогул роля народа ў кіраванні краінай зведзена да мінімуму, стала намнога слабейшай, чым за Саветамі. Таму — што ж зараз згадваць тую ўладу!*

*Што ж да леташняга рэферэндуму, першае пытанне якога датычыла беларускай мовы, дык пра гэта, лічу, архіактуальна гаварыць. Не дапускаю і думкі, што людзей зусім не цікавіць, што ж даў рэферэндум стагоддзямі нявечанай беларускай мове. Аднак жа больш як за паўтара года ніхто не пастараўся адказаць людзям на іх заканамернае пытанне: "Што даў рэферэндум беларускай мове?" Пры такім магільным маўчанні міжволі ўзнікае думка, што ў беларускай мовы няма надзейных заступнікаў ні з боку дзяржаўнай улады суверэннай Рэспублікі Беларусь, ні з боку інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі ці кафедраў беларускай мовы і літаратуры вышэйшых навучальных устаноў. Не мае права маўчаць і велізарная армія заслужаных дзеячаў культуры Рэспублікі Беларусь ці асобаў, якія на лацканах сваіх пінжакоў носяць медаль Францішка Скарыны альбо беражліва хаваюць яго ў шкатулках. Хто-хто, а гэтая элітарная частка інтэлігенцыі павінна стаць гарой у абарону беларускай мовы, паказаць асабісты прыклад сваім шараговым калегам, як трэба высока трымаць яе прэстыж дзеячам культуры. Спадзяюся, што прадстаўнікі заканадаўчай і выканаўчай улады, кіраўніцтва інстытута мовы і кафедраў усё ж сядуць за "круглы стол" і прааналізуюць здабыткі, якія атрымала беларуская мова ад рэферэндуму. А калі такія здабыткі не выявяцца ці будуць вельмі мізэрнымі, удзельнікі "круглага стала" выпрацуюць рэкамендацыі па карэнным паляпшэнні становішча, бо нельга ж дапусціць, каб ад затрат такіх велізарных фінансавых сродкаў на правядзенне рэферэндуму беларуская мова, як мова карэннай нацыі, нічога не атрымала ад яго.*

*Ну а пакуль што на пытанне: "Што даў рэферэндум беларускай мове?" пажадалася адказаць мне. Можа, гэта мая і залішняя смеласць, бо вялікай палітыкай ніколі не займаўся, ды лепш хоць што-небудзь сказаць, чым маўчаць, як вады ў рот набраўшы.*

# ШТО ДАЎ НАШАЙ МОВЕ РЭФЕРЭНДУМ-95?

## СІМБІЁЗ НАВУКОВАГА АНАЛІЗУ З КРУПІНКАМІ ІРОНІІ

### 1. РЭФЕРЭНДУМ — ІНІЦЫЯТЫВА САМОЙ ДЗЯРЖАВЫ

З прыняццем у студзені 1990 года Закона "Аб мовах у Беларускай ССР" упершыню за ўвесь пасляваенны перыяд у нашага народа ўзнікла рэальная магчымасць выратаваць сваё роднае слова, а разам з ім і самога сябе ад канчатковай асіміляцыі. Доўгі час гэтая ганебная палітыка праводзілася ў нас у форме паланізацыі і русіфікацыі, а за апошнія паўсотні гадоў — выключна толькі ў форме русіфікацыі.

Вяртанне на схіле XX стагоддзя роднага слова беларусаў на свой пачэсны пасад адбывалася з неверагоднымі цяжкасцямі, вельмі павольна. Замінала не толькі істотная асіміляцыя простага, радавога народа, але і шырокага кола дзяржаўных дзеячаў, інтэлігенцыі. Менавіта гэта элітарная частка грамадства першай зразумела незваротны характар адраджэння беларускай мовы, паверыла, што з цягам часу ў дзяржаўным, грамадска-палітычным жыцці, дзейнасці ўсіх прадпрыемстваў і ўстаноў яна зойме такое ж месца, як і руская, а затым выйдзе і наперад, што зусім заканамерна, бо на гістарычнай тэрыторыі беларусаў мае права быць дзяржаўнай толькі іх, а не якая-небудзь іншая мова.

Гэтак лічылі і зараз лічаць нацыянальна-самасвядомыя беларусы, заклапочаныя лёсам сваёй роднай мовы. Але зусім інакш глядзелі і глядзяць на яе тыя, хто не ўсцярогся ад культурна-моўнай асіміляцыі, захварэў на нацыянальны нігілізм. Для іх даражэй за родную мову была і ёсць тая мова, на якой яны вучыліся ў агульнаадукацыйных школах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах (а ў апошніх двух звёнах адукацыі выкарыстоўвалася толькі руская мова!), а затым ужывалі ў міжасобных зносінах, службовым справаводстве (напярэдадні рэферэндуму беларуская мова рабіла толькі першыя крокі па абслугоўванні гэтай сферы дзейнасці). Захаванне за рускай мовай усіх атрыманых ёю ад савецкай каманднa-бюракратычнай сістэмы функцый стала задачай N 1 для дашчэнту асіміляванай часткі дзяржаўнага апарату (на вялікі жаль, гэта пераважная большасць работнікаў) і вернай яму інтэлігенцыі, якая атрымала ад улады шырокія магчымасці для вядзення ідэалагічнай работы ў масах з мэтай схілення іх на карысць рускай мовы. Адарваная ад нацыянальных культурна-моўных традыцый частка інтэлігенцыі разгарнула такі наступ на іх, што перасягнула ўсе "дасягненні" тых, хто змагаўся з беларускасцю ў самыя цяжкія гады нашай гісторыі. Дагаварыліся да таго, што захаванне статуса дзяржаўнай толькі за беларускай мовай нібыта прывядзе да адрыву Беларусі ад Расіі з яе багатай сыравіннай базай, а гэта значыць стане прычынай немінучага эканамічнага заняпаду нашай краіны.

Палічыўшы, што беларускі народ, дзякуючы такой масіраванай ідэалагічнай апрацоўцы, не праявіць асаблівага непакою за лёс роднага слова, кіраўнік дзяржавы не стаў чакаць, што хтосьці пакліча людзей шляхам рэферэндуму вызначыць месца беларускай і рускай моў у грамадскім жыцці, а зрабіў гэта сам, аднаасобна. Яшчэ і па сённяшні дзень ён ставіць сабе ў заслугу арганізацыю плебісцыту. І гэта вельмі добра. І сённяшнія, і заўтрашнія пакаленні беларусаў павінны ведаць, хто занёс дамоклаў меч над іх неацэнным скарбам. Сама дзяржава ў асобе яе прэзідэнта! Такога яшчэ не ведала гісторыя. Цяжка некалі будзе паверыць нашым нашчадкам, але гісторыкі, разгарнуўшы архіўныя справы, старонкі газет і часопісаў 90-х гадоў XX стагоддзя, без асаблівых цяжкасцяў дакажуць ім, што ідэя рэферэндуму распрацоўвалася ў верхніх эшалонах дзяржаўнай улады, а не якімі-небудзь другараднымі афіцыйнымі ўстановамі ці апазіцыйнымі да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння групоўкамі.

### 2. ЦІ МОЖНА ДАКАРАЦЬ НАРОД ЗА ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМУ?

Даць адназначны адказ на гэтае пытанне няпроста. Тлумачыцца гэта перш за ўсё некарэктнасцю пытання, пастаўленага ў рэферэндуме. Прашу ўдумацца. Ці ж не цынічна дзяржаве, заклапочанай у тым, каб не даць сірочай беларускай мове хоць на ёту пацясніць пануючую ў нашым краі рускую, пытацца ў народа аб згодзе даць ёй роўны статус з беларускай? Дзе і ў чым гэтыя мовы няроўныя паміж сабою? Пра гэта не гаварылася ні слова. На ўвесь голас трубілі толькі аб прагрэсіўным значэнні рускай мовы для духоўнага жыцця беларусаў у мінулым, на сучасным этапе, а яшчэ больш — у будучым, а самі ўмовы рэферэндуму людзі разумелі, хто як мог. Гэтак жа па-рознаму разумеюцца і самі вынікі рэферэндуму. Дзяржава, да прыкладу, лічыць, што ад апошняга яна атрымала ўсе правы, каб па-ранейшаму беларускую мову трымаць на задворках, а рускую непадзельна выкарыстоўваць ва ўсіх вядучых сферах дзейнасці чалавека, бо каб справа выглядала інакш, улада хоць дзесьці ў грамадскім жыцці падрыхтавала б палігон для беларускай мовы. Ён адсутнічае.

У той жа час на вынікі рэферэндуму можна глянуць зусім па-іншаму, чым гэта робіць дзяржава, і тады не будзе аніякіх падстаў абінавачваць народ у абыякавасці, невуцтве, што нібыта не дазволіла яму правільна зарыентавацца пры адказе на моўнае пытанне рэферэндуму. Не супадае з афіцыйнай ацэнкай апошняга і мой пункт гледжання. Да правядзення рэферэндуму я быў цвёрда перакананы, што мой народ куды больш любіць і паважае, даражыць рускай мовай, чым гэта аказалася на самай справе. Як ні кажыце, на ёй жа за савецкі час у агульнаадукацыйных школах, тэхнікумах і інстытутах навучана не адно пакаленне беларусаў. Пра ўмацаванне пазіцый, пашырэнне сацыяльных функцый



*Фота А. Мацюша.*

рускай мовы на Беларусі гэтак старанна клапаціліся дзяржаўныя і партыйныя структуры! А што ж паказаў рэферэндум? Ды тое, што 83 працэнты людзей, прыняўшых удзел у ім, сярод якіх абсалютную большасць складалі беларусы, пажадалі адну з самых распаўсюджаных і развітых у свеце моў — рускую звесці ў нашай дзяржаве да таго сірочага, бядотнага становішча, у якім ужо тры стагоддзі знаходзіцца беларуская мова. Яны проста выкінулі рускую мову на задворкі, дзе раней тулілася толькі адна беларуская. Выказаўшы жаданне надаць рускай мове статус роўнай з беларускай, людзі гэтым самым пагадзіліся з тым, каб і руская мова не выкарыстоўвалася ў аўдыторыях вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, у навукова-даследчых інстытутах, вайсковым жыцці, толькі ледзь-ледзь гучала на сесіях рэспубліканскага, абласных і мясцовых Саветаў, у класах агульнаадукацыйных школ, на сцэнах опернага тэатра, тэатра музычнай камедыі; каб у час радыё- і тэлеперадач на пастаўленае па-руску пытанне даваўся адказ толькі па-беларуску. Здаецца, што горшага варыянту ўраўняць рускую мову з беларускай, дакладней кажучы, унізіць, ужо і нельга было прыдумаць дзяржаве. І народ падтрымаў яе.

Што ні кажыце, браткі, але рэферэндум падкінуў усім нам вельмі багата і складаных, і недарэчных праблем. Не хацеў бы пакрыўдзіць свой народ, аднак мяне ўсё больш і больш адольвае неадчэпная думка, што мо і гэтым разам ён памыліўся, як гэта ўжо не раз здаралася, да прыкладу, у час усенароднага ўхвалення хрушчоўскіх прапаноў аб ліквідацыі МТС, што выклікала велізарныя цяжкасці з рамонтам сельскагаспадарчай тэхнікі; аб скасаванні міністэрстваў і пераходзе да галіновага кіравання эканомікай праз Саветы народнай гаспадаркі ці ў час абмеркавання праектаў новай (1961) Праграмы КПСС (хрушчоўскі варыянт), новай (1977 г.) Канстытуцыі СССР (брэжнеўскі варыянт) і, нарэшце, гарбачоўскага праекта Праграмы КПСС. Словам, народ з гэткай жа лёгкасцю памыляецца, як і яго лідэры і геніі. Нездарма ж народ даволі часта даваў дазвол сваім правадырам учыняць кровапралітныя войны, слепа ішоў за імі на барыкады рэвалюцыі, пасля якой не раз распачыналася барацьба з самім жа людам. Таму няма чаго здзіўляцца, што і нашым сучасным палітыкам параўнальна лёгка ўдалося збіць з панталыку людзей, схіліць іх на сапраўдную барацьбу з рускай мовай з мэтай давядзення яе да таго жабрацкага стану, у якім стагоддзямі знаходзілася беларуская мова. Ці ж на такую моўную роўнасць трэба было работнікам дзяржаўнага апарату, сродкам масавай інфармацыі гэтак актыўна арыентаваць народныя масы?! Тое, што ў вярхах улады моцна дбалі пра роўнасць моў, гэта вельмі пахвальна. Але ж, на добры розум, трэба было б за базавы паказчык браць не занядбаную (беларускую) мову і падганяць да яе пануючую (рускую), а, наадварот, занядбаную мову цягнуць да ўзроўню пануючай у нашай краіне, а то неяк не па-людску атрымліваецца: арыентуемся не на лепшае, больш прагрэсіўнае, а на горшае, больш адсталае. Міжвольна падумалася, мо нашы дзяржаўныя дзеячы і ў сферы эканомікі таксама дзеля ўзору ўзялі колькі гадоў таму самую адсталую азіяцкую ці афрыканскую краіну і так настойліва вядуць — прычым не без поспеху! — Беларусь да яе ўзроўню.

Шкада, што мы вельмі рана забыліся на тую досыць пазітыўную практыку, якой яшчэ зусім нядаўна займаліся КПСС і савецкі ўрад. Нагадаю, што яны, але ўжо ў галіне эканомікі і культуры, вялі палітыку выроўнівання ўзроўняў усіх савецкіх нацый і народнасцей, аднак за эталон бралі не самую адсталую з іх, а, наадварот, найбольш развітую і імкнуліся да яе ўзроўню наблізіць усе астатнія. Зыходзячы з такой пазітыўнай практыкі, і нашым палітыкам трэба было б з дапамогай плебісцыту падганяць статус не рускай мовы да беларускай, а рабіць наадварот, тады б і адна і другая з цягам часу сталі б аднолькава прэстыжнымі і распаўсюджанымі ў нашым грамадстве. Няўжо не разумелі ва ўрадавых колах, што калі пойдзем курсам, вызначаным рэферэндумам, абавязкова загубім разам з роднай беларускай і рускую мову? Праўда, у апошняй яшчэ засталася б велізарная па плошчы Расія, а ў першай жа — толькі мізэрныя кавалачкі этнічнай беларускай тэрыторыі ў суседніх краінах.

Пасля ўсяго вышэйсказанага, думаю, чытачу добра зразумела, чаму я, у адрозненне ад многіх, зусім не лічу, што беларускі народ сваёй згодай ураўняць статус рускай мовы з беларускай моцна зганьбіў, паказаў сваю абыякавасць да роднага слова. Не, ён проста выказаў зусім натуральнае ў нашых надзвычай цяжкіх для нацыянальнага выратавання варунках пажаданне: звесці рускую мову да нулявога цыкла, у якім ужо такі працяглы час знаходзіцца беларуская мова, бо, толькі выключыўшы першую з усіх сфер грамадскага жыцця (як гэта свядома на самым высокім дзяржаўна-партыйным узроўні зрабілі з беларускай), адкрыецца рэальная магчымасць для паспяховага

*(Працяг на стар. 14—15)*

## СОННІК СВОЙ, БЕЛАРУСКІ...

**Выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына" парадаваў яшчэ адной кнігай — выйшаў "Беларускі народны соннік". Не хацелася б, каб сёй-той у гэтым убачыў звычайную даніну модзе — хто толькі сёння соннікаў не выдае! Тым больш лёгка папракнуць выдаўцоў у жаданні выпусціць тое, што хутка разыходзіцца. Што да апошняга, дык "зарабіць" сёння можна яшчэ хіба толькі на "паталагічна-парнаграфічным" чціве, хоць і яно сёння ўжо не вельмі дае прыбытак. А наконт першага папроку...**

**Назва ўзята невыпадкова такая — "Беларускі народны соннік". Так, соннік гэты свой, беларускі, пра што і нагадвае ў прадмове яго ўкладальнік Уладзімір Васілевіч: "Адразу трэба агаварыцца, што "Беларускі народны соннік" істотна адрозніваецца ад папярэдніх, сумніцельных перадрукаў, прынесеных з усяго свету разам з патокам бульварнай літаратуры, якою захлынуўся ўвесь наш кнігагандаль. Адрозніваецца ўжо тым, што сабраны ў гэтай кніжцы матэрыял быў у розны час запісаны непасрэдна з вуснаў народа — а гэта значыць як бы з'яўляецца часткаю яго творчасці. Як пісаў яшчэ ў мінулым стагоддзі вядомы беларускі фальклярыст М. Я. Нікіфароўскі, "На народных тлумачэннях сноў не адбіліся соннікі маскоўскага рынку", і сёння гэта пацвярджаецца яшчэ ў большай ступені".**

**Пры складанні СОННІКА выкарыстаны працы П. Шэйна, Е. Раманава, Я. Ляцкага, А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага, М. Багдановіча, Ч. Пяткевіча, К. Машынскага, А. Шлюбскага, таго ж М. Нікіфароўскага і іншых. А матэрыялы, узятыя з іх, пададзены такім чынам, што ім зручна карыстацца. Прадстаўлены раздзелы "Агульныя павер'і", "Прырода", "Чалавек", "Дзеянні", "Хата, гаспадарка, прылады працы", "Стравы", "Адзенне, абутак, аздабленні", "Жывёлы", "Расліны", "Духоўныя прадметы", "Рознае"...**

**Ну а сны, як вядома, бываюць розныя. Ёсць нямала і, так бы мовіць, жаданых. Соннік і тут гатовы прыйсці на дапамогу, даючы параду з "Матэрыялаў для народнага снатлумачэння" М. Нікіфароўскага, апублікаваных у "Этнографическом обозрении" ў 1898 годзе, кн. XXXVI: "Каб бачыць жаданыя сны, трэба класці пад падушку на ноч прадметы, якія выкарыстоўваюцца для расчэсвання валасоў: грабянец і шчотку".**

**Дык — прыемнага чытання і прыемных... сноў!**

**А. М.**

## БЕЛАРУСКІ ГАБЕЛЕН У ФРАНЦЫІ



**У Францыі ў Сант-Эцьене адбылася выстаўка работы беларускай мастачкі Вольгі Дзёмкінай. Гэта была яе першая персанальная выстаўка за мяжой.**

**Закончыўшы Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка, Вольга паступае на аддзяленне тканін і мадэлявання адзення Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, а пасля яго заканчэння — у аспірантуру Акадэміі мастацтваў. І адначасова тэарэтычнымі ведамі яна імкнулася знайсці сваё месца ў мастацтве. Вольга займалася стварэннем касцюмаў для розных фальклорных калектываў, захаплялася жывапісам, батыкам, габеленамі. Але менавіта габелены прыцягвалі яе сваім каларытам фарбаў, унікальнасцю кожнага вырабу. Шырокая адукацыя, прыродны талент і працавітасць зрабілі сваю справу.**

**Запрашэнне на выстаўку ў Францыю, дзе больш за чатырыста гадоў таму нарадзілася майстэрства габелена, было нечаканым і прыемным, бо гэта краіна, дзе спешчаны ўсім "самым-самым" у мастацтве.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

# КРЫЖ ПРАЗ УСЁ ЖЫЦЦЁ

КНІГА В. КОЎТУН "Крыж міласэрнасці" павінна была з'явіцца ў нацыянальнай літаратуры. Каб ведаць, як рухацца наперад, якіх духоўных арыенціраў прытрымлівацца, неабходна найперш спасцігнуць праўду мінулага — маральную і духоўную, агульначалавечую і грамадскую, праўду асобнага чалавека і праўду цэлага народа, агульнанацыянальную. Гэтую праўду разам са сваёй гераіняй Алаізай Пашкевіч (Цёткай) шукае і В. Коўтун у дылогіі "Крыж міласэрнасці", шукае духоўнае апірышча, якое б дапамагло нам выжыць зараз, выйсці з таго тупіка, у якім мы ўсе апынуліся.

Кніга аднолькава і дакументальная, і "чыста" мастацкая. Часам нават нельга зразумець, дзе канчаецца дакумент, гістарычны факт і пачынаецца "творчасць" — настолькі пісьменніца насычае вымысел праўдай гістарычнай, настолькі яны знітаваныя. Адметнасць жанравага афармлення яшчэ і ў тым, што твор гэты, які вельмі моцны ў плане псіхалагічным, больш адпавядае прозе інтэлектуальнай. Знешне па форме, асабліва кніга першая, ён уяўляе сабою шырокую плынь свядомасці, аб'ектываваную аўтарскую і суб'ектываваную, галоўнай гераіні. Яны як бы перабіваюць і дапаўняюць адна адну, дагаворваюць адна за адну. Яны адно духоўнае і маральнае цэлае, але не аморфнае, не застылае, а эмацыянальна рухомае і зменлівае. Яны ў напружаным пошуку, у спрэчцы — з сабою, са сваім "я", з акаляючым светам, але не для таго, каб гэтым свет аддаліць ад сябе, а наадварот, каб яго наблізіць, каб зліцца з ім у адно, растварыцца ў ім.

"Крыж міласэрнасці" — мастацкае адлюстраванне палемікі пачатку XX стагоддзя, напярэдадні першай рускай рэвалюцыі 1905 года. Можна нават сказаць, што філасофская думка як адбітак грамадскай свядомасці з'яўляецца адным з паўнапраўных структурных элементаў твора — настолькі выразна і выяўна яна пульсуе ў ім. І ўсё гэта з адной мэтай, адным жаданнем — наблізіцца да ісціны, рэальнай, жыццёвай, але і эстэтычнай таксама, зразумець сэнс жыцця асобнага чалавека і народа беларускага ў цэлым. Пафіласофску глыбока і даследна падаецца бурлівае жыццё, калі "уся руская моладзь ускіпела так, што кіпенне часам даходзіць да бурлення". Аўтарка, як і яе гераіня, успрымаюць свет і людзей не столькі рацыяналістычна, разумова, колькі душою, думаюць і спрачаюцца сэрцам.

Тэма рэвалюцыі — не толькі фон, на якім адбываецца, працякае працэс духоўнага станаўлення галоўнай гераіні. Яна — асобная сфера пісьменніцкай увагі. У палеміку па гэтай тэме ўцягнуты амаль усе героі. Яе абмяркоўваюць на ўсіх мітынгах і сходках, сярод рабочых і інтэлігенцыі, але найбольш актыўнай была, вядома, студэнцкая моладзь.

І побач з гэтым — пульсуючая думка аб неабходнасці нацыянальнага адраджэння "паўночна-заходняга краю". Толькі які шлях выбраць? "Вы хочаце, панове, каб гэты край — без хамута? Ідэалізм!" — гэта голас Іосіфа Вінклера, аднаго з кіраўнікоў тэрарыстычнай суполкі "братоў-апосталаў". Без "хамута" нельга, але чый "хамут" лепшы — расійскі, польскі ці, можа, наогул нямецкі?" Нямецкі нават лепш, "нямецкую мову наш народ ніколі не прыме, асіміляцыя тут немагчыма. Немец хутчэй штурхне тутэйшы люд да нацыянальнага яднання". А можна і палякаў прызнаць, яны "усё ж больш культурная нацыя, якая паважае і сябе і іншых", не тое што "дзікуны" руския, "хто яшчэ так аплёўвае сваіх святароў, як расіяне сваіх барадатых папоў?"

Удзельнікаў агульнай дыскусіі можна падзяліць на два лагеры: сацыял-дэмакратаў, дэмакратаў-асветнікаў, нацыянальных адраджэнцаў, якія былі стрыжнем Беларускай рэвалюцыйнай грамады (пазней яна стала называцца сацыялістычнай). Другі лагер прадстаўляюць тэрарысты на чале з ідэйнымі лідэрамі Вінклерам і Малецкім, вобразы якіх цікава заяўлены ў рамане.

Тэрор як метад змагання амаральны і антынародны. Ён антыгуманны па сваёй сутнасці. "Мы хрысціяне, разумееш? — намагаецца данесці сваю пазіцыю Алаіза Рамуальду Малецкаму, як раней спрабавала нешта вытлумачыць, але таксама безвынікова, анархісту Стасю. — І наш народ не прыме ніякага, ніякага пасягнення на чалавечае жыццё... Народ вас проста ўзненавідзіць". Пісьменніцкая цікавасць да насілля як з'явы сацыяльнай і гістарычнай вялікая. Твор пісаўся ў часы аб'яўленай перабудовы. Праз кроў і насілле прыйшлі да ўлады бальшавікі, крывёю і насіллем трымаліся яны амаль семдзесят год. Праблема насілля застаецца актуальнай і ў нашы часы. "Тэрор, па сутнасці, самая важная сіла рэвалюцыі, яе ідэйны патэнцыял... змаганне за свабоду заўсёды, здаўна ўзрастала на крыві! Нават на трупах... на трупах цэлых эпох, нацый, культур! Свабода вышэй культуры!" У гэтых словах бачыцца таксама галоўны кіруючы лозунг бальшавікоў-фанатаў, якія прыйшлі ў рэвалюцыю ўслед за тэрарыстамі і пераймалі іх лозунгі.

Спасцігаючы ўнутраны дэградуючы сэнс рэвалюцыі 1905 года, у параўнанні з паўстаннем 1863 года, пісьменніца заўважаць, што скончыўся рамантычны перыяд народных рэвалюцый, авеяных высокай духоўнасцю. На змену яму прыйшоў новы перыяд — бездухоўны. Новыя барацьбіты былі далёкімі ад народа, хоць і прыкрываліся яго імем. Гэта вялікае і смелае адкрыццё рамана. Магчыма, праз сваю смеласць яно і пададзена вуснамі Паэткі былога рамантызаванага веку Элізы Ажэшкі. "Вялікая гродзенская самотніца" не верыла ў надыходзячую рэвалюцыю, не верыла ў ідэю сацыялізму. І тут яны розныя былі з Алаізай. Каб змяніць чалавечую натуру, давесці яе да Боскай дасканаласці, патрэбны і час і сур'ёзная асветніцкая праца. Ажэшка пагаджаецца, што народнае жыццё мае патрэбу ў аднаўленні. "Але ж — не з прымусу! А з волі людскай". Рэвалюцыя 1905 года — гэта паўсюдны прымус, насілле, кроў. Лозунгам рэвалюцыі, прапагандай не стала сытасць, патрэбы цела цалкам засланілі патрэбы духу. Зніклі лозунгі "Будзь справядлівы!", "Будзь міласэрны", "Будзь літасцівы!". Не, вялікая паэтка не супраць патрабавання хлеба для людзей, яна пра іншае: "Гіне паэзія, нішчацца прадметы найчуллейшых замілаванняў. Плывуць рэкі крыві", а "дух народа купаецца ў атруце нянавісці і збродні, хоць многія і называюць гэта патрыятызмам". Ажэшка належыць да пакалення інтэлігенцыі сярэдзіны XIX стагоддзя, да якога, дарэчы, належаць браты Малецкія, адвакат Урублеўскі і іншыя. Яны ішлі ў рэвалюцыю з верай у народ, з высокімі парываннямі. Ішлі з любоўю — глядзелі "на родную зямлю, як на мілае аблічча маці", а ў далёкім небе бачылі "дзве вялікія зоркі, якія маюць імёны: "Справядлівасць і Свабода!" Яны не перамаглі, "да велічнага пераможнага пажару нас не дапусціла замкнутая мужыцкая хата". Але тым не менш, менавіта "яны былі сарцавінай айчыннага дрэва", таму і "згарэлі на ахвярным шчыце. Глорыя вікціс! Слава пераможаным!" І зоркі тыя не згаслі, яны вечныя, і любоў ад гэтых зорак — таксама вечная, "сотні змагароў прынялі гэтую любоў разам з крывёю папярэднікаў. І разам са сваёй аддалі і яшчэ будуць аддаваць нашчадкам".

На фоне гістарычнай і рэвалюцыйнай дысгармоніі, у процівагу ёй, паўстае трагічны вобраз паэткі зямлі беларускай — Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Як аўтарскае імкненне ўнесці свет вялікай і разам з тым трагічнай гармоніі, свет вялікай любові — да зямлі роднай, да народа спакутаванага і ўсё яшчэ цёмнага, да бацькаўшчыны панішчанай. Алаіза таксама рамантык, яна духоўны спадкаемца сваёй настаўніцы Элізы Ажэшкі.

Але, у адрозненне ад іншых "барацьбітоў" за народную рэвалюцыю, прасякнута верай у свой народ, ведае яго жыццё, бо прайшла праз яго — і калі вучылася ў Вільні і на курсах Прозаравай, і калі была ў Пецярбурзе курсісткай прафесара Лесгафта, і тады, калі працавала на пошце і ў лячэбніцы, і нават тады, калі наведвала трупярні, лепразорыі, ратавалася сама і ратавала іншых ад страшнай паводкі на Няве 1903 года. Жыццём былі і яе школкі і яе палітычная дзейнасць. Яна змалку зведала, што "як ты з людзьмі, так і людзі з табою. Такі закон прыроды". Алаіза любіла свой народ, як любіла бацькоў сваіх — няхай яны былі часам і несправядлівымі, часам жорсткімі. Яна ўпітала ў сябе прыгажосць навакольнага свету. Вельмі сімвалічна, што Алаіза, дзіця прыроды, найчуйная частка яе, менавіта ў лесе, у сваім бярозавым гаі, адчула сваё зямное наканаванне: "Перабіваючы рыфмы, што, здаецца, скláліся яшчэ

*В. Коўтун. "Крыж міласэрнасці". Раман. Кніга першая: Мн., "Мастацкая літаратура". 1988. Кніга другая: "Полымя", 1995, NN 7, 8; "Полымя", 1996, N 7.*

# ПАКАЛЕННЕ З АБПАЛЕНЫМІ КРЫЛАМІ

Што мы ведаем пра жыццё ў былой Заходняй Беларусі? Як быццам — нямала. У розны час напісана нямала мастацкіх твораў пра тагачасныя падзеі, шмат друкавалася ўспамінаў непасрэдных удзельнікаў іх. Але ж многія з гэтых публікацый (найперш тыя, што з'яўляліся ў гады таталітарызму) маюць аднабаковы характар. Як заззычай, асноўная ўвага засяроджана ў іх на рэвалюцыйнай барацьбе працоўных за сацыяльныя правы, а нацыянальныя моманты свядома замоўчваюцца. Больш таго, права выступіць у друку, як правіла, дазвалялася толькі тым, хто належаў да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, радзей маглі згадаць перажытае грамадзяне. Але ж у Заходняй Беларусі існавалі і іншыя палітычныя плыні і сілы і, калі не прымаць пад увагу ацэнку падзей іх прадстаўнікамі, нельга атрымаць аб'ектыўнае ўяўленне пра тое, што сапраўды адбывалася падчас панавання буржуазнай Польшчы і пасля вызвалення тэрыторыі і далучэння яе да савецкай Беларусі.

Праўда ж заключаецца ў тым, што ў рэвалюцыйным руху былой Заходняй Беларусі ці не на першы план выступалі нацыянальныя аспекты. Як і ў рэпрэсіях супраць сумленных людзей, якіх рабілі "ворагамі народа" — гэтаксама, як рабілі "ворагамі" сотні тысяч нявінных у трыццатыя гады.

Сёе-тое з падобных публікацый з'явілася на Беласточчыне. Прынамсі, у "Беларускім календары" за 1990 год, на старонках штотыднёвіка "Ніва" ў 1994—1995 гадах...Асобныя з іх пакладзены ў аснову кнігі "Лёс аднаго пакалення", што выйшла ў Беластоку.

Пад адной вокладкай сабраны ўспаміны чатырох чалавек. Самі іх прозвішчы мала што гавораць чытачу. Але ў гэтым адначасова і свая прыцягальнасць, бо пра перажытае згадваюць не хрэстаматыйныя "героі", якія "ведаюць", у якім аспекце ўсё падавалась, а звычайныя грамадзяне, у лёсе якіх у нечым адлюстраваны лёс пакалення, што гадавалася, сталела, гартавалася ў віхурных гады, сталася пакаленнем з апаленымі крыламі і нявыдзейсненымі марамі. Галоўнае ж — кожны з іх пакутаваў за адданасць нацыянальнай ідэі.

Старэйшы — Кастусь Сідаровіч ("Па жыццёвых сцежках") нарадзіўся ў Беластоку 90 гадоў назад. Ён сведчыць пра многія значныя падзеі з культурнага

раней, у думках запульсавала нечаканае: яна, Алаіза Пашкевічанка са Старога двара, яна — верыць, моцна верыць, што ёй, менавіта ёй, наканавана зрабіць для свайго спакутаванага краю болей, чым іншым кабетам беларускім. І гэта яна — адчула. Гэта дакладна ведае". І яна малілася свайму анёлу, каб ён дапамог ёй усё наканаванае здзейсніць, збярог яе дзеля справы, не дзеля сябе, а дзеля народа...

Так нараджаўся Паэт. Нараджалася Асоба.

Але разам з тым Цётка была і дзіцем свайго часу — таго рэвалюцыйнага, шмат у чым супярэчлівага, сацыяльна дэградаванага. І гэтыя супярэчнасці таксама адбіліся на яе творчасці. Толькі В. Коўтун не акцэнтуе на іх сваю ўвагу (заўважым, што пісьменніца падрабязна даследуе кароткі, але найбольш змястоўны перыяд жыцця паэтэсы: 1899—1906 гады). Сваю задачу яна бачыць у іншым — у спасціжэнні духоўнай і маральнай значнасці асобы паэткі і асветніцы. Але ж мы павінны ведаць, што хвалі рэвалюцыі запаланілі і душу Алаізы, запаланілі і яе чуйнае сэрца агнём помсты, агнём нянавісці — не да народа, канешне, з якім яна заўсёды размаўляла на яго роднай мове, а да тых, хто гэтым народам пагарджаў. У сваім уступным звароце да гераіні пісьменніца скажа: "Ты жыла Рэвалюцыяй, была яе дачкой і сястрой. Твая душа ўздыхнула з палёгкаю: нарэшце будзе народу воля. Ты хадзіла па вуліцах растрывожанай Вільні і гаварыла такія прамовы, якія запальвалі сэрцы работніц агнём веры і барацьбы, і якія пасля Ты ніяк не магла ўспомніць. Усё паглыналася хваляваннем.

"Мы дамо! Мы — сіла! Мы — права!"

Алаіза была палымянай рэвалюцыянеркай, бунтаркай, але ў першую чаргу рэвалюцыянеркай па духу, бунтаркай-асветніцай. Праўда, яе гарачкавы максімалізм не мог устаяць і перад моднымі тады барыкадамі, і яна заклікала да іх. Яна, вялікая гуманістка, якая ніколі не губляла Бога ў душы, скажа: "Цара павесіць трэба! Трэба..." Яна напіша "Хрэст на свабоду", "Мора", "Пад штандарам", "Прысягу над крывавымі разорамі" — яны распаўсюджваліся як рэвалюцыйныя пракламацыі, а пасля сталі хрэстаматыйнымі, заклікалі народ да рэвалюцыйнай барацьбы з царызмам. Але напіша і іншае: "Мужыцкую долю", "Сынок маленькі", "Муж не змяніўся", "Музыкант беларускі", "Родную вёску", "Лучынку" і шмат што іншае. Ідэйныя супярэчнасці паэткі — гэта супярэчнасці самой рэвалюцыі, супярэчнасці часу. "У кожнага з нас павінен быць свой шэсцьдзесят трэці год..." — скажа Алаізе Ажэшка. Год вялікіх надзей і спадзяванняў, і вялікіх узрушэнняў таксама. Для Цёткі такім годам быў год 1905.

Вобраз Цёткі ў прачытанні В. Коўтун — вобраз трагічны. Невыпадкова гераіня параўноўваецца ці, дакладней, асацыіруецца, то з блакітнай падстрэленай птушкай, то з акрываўленым голубам, то з "вялізным акрываўленым жоравам". Такі спрадвечны лёс усіх, хто адметны талентам, хто нясе на сабе крыж боскага наканавання. Крыж сумлення народнага. Крыж месіянства. "Я зразумела самае важнае, — скажа Алаіза пані Ажэшкавай, той, якую абагаўляла, за якую гатова была жыццё аддаць. — Усё, што прыйшло да нас ужо гатовым і праверaным, — усё трэба выпрабоўваць сумненнем... Выпрабоўваць сумненнем, значыць імкнуцца паляпшаць". У імкненні да паляпшэння і немагчымасці палепшыць — галоўная драма Паэта.

Эліза Ажэшка і Алаіза Пашкевіч — не проціпастаўляюцца, яны **працяг** адна адной. "Мне так рэдка даводзіцца бачыць маладых людзей, — звяртаецца Ажэшка да Алаізы, — у якіх я пазнаю сябе ранейшую... А ў вас пазнала... Дай вам бог быць лепшымі. І каб зрабіць болей за нас, і стаць шчаслівейшымі. І раднейшымі свайму народу. Гэта цяпер самае... Самае!" Дыялог дзвюх паэтак праходзіць праз увесь твор. Дыялог-скарга і дыялог-парада. Драма Э. Ажэшкі ў тым, што яна — рамантык ужо мінулых часоў. Цяпер, расчараваная ў жыцці, не мае надзеі на будучыню. Эстэтычная свядомасць Ажэшкі сярэдзіны XIX стагоддзя была намнога вышэйшай за свядомасць народную. Свабодалюбівыя ідэі паўстанцкага руху 1863 года народам не былі падтрыманы. Гэтак жа, як і рэвалюцыйная свядомасць Цёткі, цалкам заснаваная на нацыянальнай ідэі, народам таксама не была прынята.

У кнізе ёсць вельмі сімвалічная сцэна: адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч перадаў Алаізе "высокі драўляны крыж. Ужо цемнаваты, пабіты плямамі сырасці і холаду". І Алаіза прыняла яшчэ і гэты цяжкі крыж. Асветніцкі крыж, крыж духоўнай пераемнасці. Пазней Алаіза ўсвядоміць, што талент даецца чалавеку Богам невыпадкова. Чалавек "працягвае ўжо дагэтуль пражытае некім жыццё і павінен выканаць нечую важную, але яшчэ не споўненую да канца задачу. Не-не, задача тая ўжо быццам і не чужая, а твая, дадзеная лёсам". Сваіх папярэднікаў Алаіза адчувала "ўсёю істотаю", яны стаялі ў яе "за спіною" і глядзелі на яе "моцна і неадчэпна". Але ў справу, наканаваную ёй Богам і перададзеную папярэднікамі, яна павінна была ўліць "кроў уласнага сэрца, трапятанне сваіх нерваў і жар свайго жыцця", таму што "ні боль, ні роспач, ні радасць не падслухаеш з-за чужой спіны".

У працяг спрэчкі аб ролі паэта ў развіцці грамадства ў рамане ставіцца пытанне аб сутнасці мастацтва, яго філасофскім абгрунтаванні. У структуру рамана ўводзіцца вобраз віленскага багамаза, а пасля цвінтарнага вартаўніка Васіля Гразнова. Гэта важная частка дыскусіі, выніковая. Сапраўдная сіла мастацтва — стваральная. Гэта ад Бога-творцы. "Я заўсёды баяўся бачыць свет вачамі таго, хто ўмее толькі знішчаць..." — скажа Гразноў, ужо прайшоўшы праз сваю ўнутраную драму. Мікеланджэла, Бах, яны былі геніямі не толькі таму, што стаялі блізка да Бога, але яшчэ і таму, што задавальняліся нябеснымі ўзнагародамі. Усё здаецца правільным і слушным. І Гразнова хочацца падтрымаць, сапраўды зямны прагматызм абясцэніў мастацтва, здрабніў яго. Але разам з тым у словах багамаза нешта насцярожвае, і гэтае "нешта" неўзабаве акрэсліваецца ў відавочнае непрыманне. "У мяне, мілая, — звяртаецца мастак да Алаізы, — гэтае самае паняцце радзімы мае толькі эмацыянальныя межы. Любоў, нянавісць, вера. Мая радзіма... маё сэрца. Там няма ні Арла, ні Вільні. Няма і цара. І ніякага народа няма... мастацтва павінна ўзвысіцца над страсцямі зямнымі". Мастацтва без сацыяльнага зместу, без канкрэтнага чалавека, без страсцей і эмоцый? Але хіба тады гэта мастацтва? Алаіза бачыць тое, што адмаўляецца бачыць Гразноў. У статуі Медзічы яна бачыць яшчэ і вялікі адчай творцы, а не толькі служэнне мастака, абстрагаванае ад страсцей. Утрыруючы вялікага Мікеланджэла, Гразноў перакрэсліваў, адмаўляў і ёй, паэтцы, у праве на творчасць, бо яна пісала душою. Як і жыла. Мастацтва без душы — гэта памерлае мастацтва. Яно не мае водгуку ў душы другога чалавека. Так, Алаіза "думае вачамі", жыве "толькі адной хвілінай. Якую перажывае", але ж "гэтая хвіліна — не толькі мая. І не адна я жыву ў тую хвіліну. А — цэлыя народы... у адну хвіліну можа ўмясціцца ўсё. І смерць. І жыццё". Вось яно, паэтычнае крэда Цёткі.

Зусім невыпадкова, што менавіта ён, Гразноў-мастак, які адчувае сябе адказным за ўсё насілле на зямлі, за ўсё калецтва, за ўсіх старых і знямоглых, і вініўся за ўсіх іх перад тым, хто сядзеў на белым кані перад Брамаю, — гэты Гразноў у твары Алаізы ўбачыў тую незямную "таямнічую прасветленасць", якой заўсёды не хапала ягоным абразам. І ён цяпер зразумеў, чаму: "Бо паленаваўся духам, апусціўся да гардыні і не здолеў адшукаць фарбамі ў святых ліках зямны іерогліф жыцця і сэнс яго". І толькі напрыканцы свайго жыцця такі сэнс адшукаў у твары Алаізы. Цяпер ён нават пераблытаў, чые гэта вочы — Алаізы ці святой Ефрасінні Полацкай? Яны былі разам, тры святыя — Марыя Магдалена, Саламея і Ефрасіння Полацкая. Тры вялікія пакутніцы. І тры вялікія заступніцы народа беларускага.

Толькі не трэба ўсё гэта разумець як аргумент у карысць таго, што В. Коўтун стварае вобраз святой Алаізы. Яе гераіня зямная і рэальная. Яна жанчына, яна кахае, памыляецца, але зноў кахае — палымяна, аддана, пакутна. Яна з тых, пра каго згадваў Гейнэ, калі пісаў, "што хацеў бы знайсці на самай высокай вяршыні магутны дуб, вырваць яго, умакнуць вяршыняй у кратэр вулкана і напісаць ім на небе вогненнае прызнанне: "Ich liebe dich!" — Я кахаю цябе!"

Эліза Ажэшка неяк адзначыла, што рэлігія, яе "чыстая сутнасць" — гэта "вера ў бессмяроцце душы, у яе сапраўдную ўнутраную цягу да Боскай мыслі, да Боскай мэты... Прыйсці да Бога можна толькі па адной дарозе! Праўды і міласэрнасці". Такой дарогай ішла Алаіза. Праз няпросты цяжкі шлях духоўнага самасцвярджэння. Праз новае разуменне чалавека, яго каштоўнасці і непаўторнасці. Незадоўга перад тым, як пайсці з жыцця зямнога, яна зразумела галоўную ісціну: "Ніхто ў нас не вольны быць суддзёю іншых людзей. Роўна як і суддзёю аднаго чалавека". Як і Гразноў, Алаіза вініцца перад людзьмі і перад Госпадам за сваё ранейшае "паве-сіць..." Няважна цяпер — каго. Важна, што жыццё чалавечае — у руках Боскіх мае быць!"

Такі галоўны вынік духоўных пошукаў Алаізы Пашкевіч (Цёткі).

Я закранула толькі дзве тэмы рамана — рэвалюцыя і Цётка. Памеры газетнай рэцэнзіі не дазваляюць зрабіць больш падрабязны аналіз кнігі. А сказаць тут можна яшчэ шмат аб чым: аб майстэрстве пісьменніцы ствараць шырокія малюнкі жыцця і асобных гістарычных падзей, уменні карыстацца побытавай дэталлю. Гэта і мова: афарыстычная, ёмкая, народная... Твор В. Коўтун сур'ёзны і маштабны, крытыка яшчэ скажа сваё слова аб ім.

**Валянціна ЛОКУН**

---

даваеннага жыцця. І ўвогуле расказвае аб тым, як жылі беларусы да 1939 года. "Пачаткі беларускага руху", "Грамада", "Асветніцка-культурная дзейнасць", "Таварыства беларускай школы" — усё пададзена, як кажуць, з першых вуснаў. Няма тут шырокіх абагульненняў, але звесткі, якія прыводзіць аўтар, спатоляць цікаўнасць кожнага, каму неабыякавыя ідэі Адраджэння.

Юстыян Пракаповіч ("Жыццёвыя сцежкі") — родам з вёскі Кучкуны, што ў цяперашнім Стаўбцоўскім раёне. Ён паходзіў з сям'і, у якой моцным было пачуццё нацыянальнага гонару. Бацька Ю. Пракаповіча вітаў абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, прымаў удзел у Слуцкім збройным чыне. Сын жа ў гады Вялікай Айчыннай вайны партызаніў, але тым не менш трапіў у поле зроку нкусаўцаў. Абвінавацілі яго ў тым, што некаторы час хадзіў у беларускую школу, быў членам Саюза беларускай моладзі. На шчасце, Ю. Пракаповічу ўдалося ўцячы, падаўся ў Польшчу, таму і пазбегнуў сталінскіх лагераў.

А вось Янку Жамойціна лагерны лёс не абмінуў ("З пеаражытага"). Яго ўспаміны ў кнізе найбольш разгорнутыя, асабліва ў мясцінах, якія тычацца арышту, асуджэння, знаходжання ў няволі. Кожны з раздзелаў — "Першае зняволенне", "Зноў ПУР", "На новым этапе", "Зноў няволя", "Пад апеку контрразведкі", "Амерыканка", "Следства", "У этап", "Першае сутыкненне з лагерам" і іншыя — як бы дакументальныя навелы, напісаныя тым, хто сам перажыў і фізічны боль, і маральныя здзекі і ўсё ж ніколі не адмаўляўся ад сваіх поглядаў. Я. Жамойцін прыводзіць і згадкі пра вязняў з якімі яму давялося дзяліць нявольніцкую гаркоту ("Сустрэчы з цікавымі людзьмі"). Асабліва заслугоўвае ўвагі расказ пра юнака з Глыбоччыны Юзіка Пабяржына, які любіў паэзію і пісаў вершы. Урыўкі, якія прыводзяцца ва ўспамінах, сведчаць, што ён меў талент. За кратамі ж апынуўся за любоў да Беларусі. Трымаўся незалежна і тады, калі ў 1956 годзе ў лагер прыехала спецыяльная камісія для перагляду спраў палітвязняў. Звычайна тых, з кім камісія гутарыла, адпускалі. Пабяржына, аднак, пакінулі за кратамі: "...ён вярнуўся злосны. Уцягнуты членамі камісіі ў палеміку і разгневаны іх увагамі, заявіў (паводле яго слоў), што ён не бачыць ніякай сваёй віны і, калі надарыцца магчымасць, аддасць усе сілы барацьбе за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны. Прызналі яго "неисправимым" і вярнулі ў лагер".

А завяршаюць кнігу ўспаміны Віктара Ярмалковіча "На жыццёвых хвалях". Як і Я. Жамойцін, ён аказаўся на волі пасля смерці Сталіна, калі пачалася "хрушчоўская адліга". "Паспытаў" турам і польскіх, і савецкіх. Пра гэта і расказвае... Гучыць у В. Ярмалковіча і трывожны роздум над тым, як у розныя часы знаходзілі ахвотнікі закабаліць Беларусь, заняволіць яе: "Толькі за майго жыцця ўлада на нашай зямлі мянялася адзінаццаць разоў. Быў час, што край пераходзіў з рук у рукі. Чужынцы прыходзілі, забіралі не раз тое, што ім спатрэбілася, і адыходзілі".

"Лёс аднаго пакалення" — у нейкай ступені і выбраныя старонкі з "партрэта" Беларусі. Слушна наконт гэтага сказаў у прадмове Яўген Міранoвіч: "Успаміны Кастуся Сідаровіча, Юстыяна Пракаповіча, Янкі Жамойціна і Віктара Ярмалковіча... з'яўляюцца асаблівым дакументам гісторыі беларусаў дваццатага стагоддзя".

**Янка ЗМІТРОВІЧ**

---

Бліц-крытыка

# АД ЗАЗЕМЛЕНАСЦІ ДА ВЫШЫНІ

***У сённяшняй рубрыцы абмяркоўваюцца "Зацемкі з левай кішэні" Леаніда Галубовіча, якія друкаваліся ў "ЛіМе" і "Крыніцы". У абмеркаванні ўдзельнічаюць: Валянціна Аксак, Пятро Васючэнка, Адам Глобус, Таіса Грамадчанка, Галіна Дубянецкая, Наталля Кузьміч, Уладзімір Марук, Алесь Пашкевіч, Раман Тармола-Мірскі, Галіна Тычка, Галіна Шаблінская, Ірына Шаўлякова, Вольга Шынкарэнка. Парадак пералічэння прозвішчаў не супадае з парадкам друкавання адказаў.***

Не вельмі ўразіла. Часам ёсць цікавыя фрагменты, але ўсё збіваецца на вельмі дробнае, асабістае. Чытаючы падобныя творы, спадзяешся ўбачыць у іх сябе і іншых, а тут бачна толькі аўтара.

Канешне, Галубовіч — гэта Галубовіч, але мне "Зацемкі" не спадабаліся. Не зусім пастацку.

Мне "Зацемкі" цікавыя, але я б не сказала, што ўсё там прымаю. Таму што часам сустракаецца анатамічная драбната, якая выклікае ніякаватасць. Занадта прыземлена.

"Зацемкі" Галубовіча — не адваротны бок яго паэзіі, а яе натуральны працяг праз тыя ж спавядальнасць, несупынны боль уражлівай душы, нязмушанае далучэнне да таямнічага агню светаспасціжэння.

"Выбольвай слова перад развітаннем.
Яно — ты Сам".

Добра, што паэт мае магчымасць выказацца пра літаратуру. "Зацемкі" трэба сабраць з кішэняў у вялікую торбу і выдаць кніжкай.

"Зацемкі" чытаю, тое-сёе нават выпісваю. Цікава, што можа напісаць пра сябе чалавек майго ўзросту. Часам думае аўтар аднолькава са мной, але ж я пра гэта не пішу. Іншым разам сустракаецца такое, што я і не думаў. Стаўлюся ўвогуле трохі іранічна. Можа, таму, што зарана аўтар пачаў друкаваць свае дзённікі.

Ад "Зацемак" была ў захапленні. Хаця між імі траплялiся слабаватыя, але ўсе зацемкі ўвогуле набываюць гуманістычную вышыню і філасофскае абагульненне. Яны так па-майстэрску зроблены, што за канкрэтнымі момантамі паўстае агульначалавечае. Бліскучыя фрагменты — пра наведванне дома на Валадарскага, пра маці, якая не згаджаецца ампутаваць палец... Адчуваецца творчы рост Галубовіча. "Зацемкі" цікавей, чым яго вершы.

Я іх не чытаю, мяне, шчыра кажучы, не задавальняе іх роўнасць — у іх няма ні правалаў, ні ўзлётаў. Вельмі добра Галубовіч распавёў пра ЛПП — вось гэта чытаў з задавальненнем.

**Зацемкі — гэта і лазня, і венік,
Хвошчацца аўтар, нібы мазахіст,
Ёсць і разумнае, ёсць і... не вельмі
Проба сябе на мастацкі свіст...
Вось аб'яўляе, што Р. ужо геній,
Чайнік стаўляе на кніжку яго...
І на каго пачынаць тут маленне?
Трэба з траіх выбіраць аднаго!**

"Зацемкі з левай кішэні" — гэта публічны дзённік. Л. Галубовіч піша — разважае нібыта і для сябе, аднак з разлікам на ўдзячнага чытача, хутчэй нават літаратурную тусоўку. Гэта абсалютна не азначае майго негатыўнага стаўлення: "Зацемкі" — варыяцыя на тэму "споведзі", прычым, падобныя варыяцыі ў сітуацыі сучаснай літаратурнай прасторы — з'явы сімптаматычныя.

Бачыш надрукаванымі "Зацемкі" Галубовіча, — думаеш, што нешта ў іх вычытаеш. Часам што-небудзь і вычытаеш.

Пасля таго, як аўтар "разінтымніў" свае адносіны з жонкай (распавядаючы пра галенне), чытаць "Зацемкі..." не дужа прыемна.

Гэта — адна з лепшых празаічных з'яў у сённяшняй літаратуры. Высокі ўзровень прозы, асабліва апошняя публікацыя "Зацемак" у "ЛіМе" — над дзвюма з іх расплакалася. Натуральна, ёсць слабейшыя моманты, ёсць мацнейшыя. Але ў цэлым — высокая сучасная беларуская проза.

**Для наступных абмеркаванняў у рубрыцы "Бліцкрытыка" прапануюцца падарожныя нататкі Адама Глобуса, якія друкаваліся на працягу года ў газетах "Наша Ніва" і "Культура", і апавяданні Юрыя Станкевіча ("Крыніца", "Полымя", "ЛіМ"). Выказаць сваё меркаванне можна, патэлефанаваўшы рэдактару аддзела крытыкі "ЛіМа" Людміле Рублеўскай па тэл. 233-19-85.**

# ПАМЯЦІ КЛАСІКА

Ушанаваць памяць Якуба Коласа ў звязку з 90-годдзем пачатку яго літаратурнай дзейнасці вырашылі і студэнты-філолагі Белдзяржуніверсітэта. У гэтай навучальнай установе, як вядома, народны паэт працаваў у 20-я гады (выкладаў родную мову).

На сустрэчу былі запрошаны І. Шамякін, С. Грахоўскі, Л. Дранько-Майсюк, самадзейныя артысты са Стаўбцоўшчыны.

Прамоўцы — дацэнт БДУ, выкладчыца філфака В. Казлова (вядучая вечарыны), госці — гаварылі больш пра Коласа як настаўніка, настаўніка ў канкрэтным і шырокім разуменні слова. Народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін успомніў свае сустрэчы з дзядзькам Якубам, С. Грахоўскі прачытаў верш, прысвечаны песняру, Л. Дранько-Майсюк — вершы на маладзёжную тэматыку.

Песнямі і музыкай залагодзілі студэнтаў аркестр народных інструментаў "Славяначкі" і Народны вакальны ансамбль "Святлана" з радзімы песняра.

Кастусь СЦЕПАНЮК

# КАБ БЫЛІ ЧЫСТЫМІ КРЫНІЦЫ

Услед за раманам "Глыбокая плынь" выдавецтва "Мастацкая літаратура" перавыдала яшчэ адзін вядомы твор народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна "Крыніцы". Як вядома, у гэтым рамане аўтар да таго, як у краіне пачала весціся барацьба з культам асобы, праўдзіва выкрыў ахвотнікаў да неабмежаванай улады і гэтаксама праўдзіва адлюстраваў здаровыя сілы ў тагачасным грамадстве. Каб крыніцы жыцця былі чыстымі, не замутнёнымі — такі лейтматыў гэтага твора, які цяпер у першую чаргу адрасуецца школьнікам. Прадмову да кнігі напісаў Алесь Марціновіч.

# "ПАДКАЗАНАЕ НЁМАНАМ"

Такую назву даў сваёй першай кніжцы эсэ, якой суджана стаць у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" юбілейнай, сотай — галоўны рэдактар стаўбцоўскай раённай газеты "Прамень" Сяргей Галоўка. А тым самым чытачу прадаставілася мажлівасць прайсціся вядомымі сцяжынамі наднёманскай зямлі, а таксама тымі, якія яшчэ заслугоўваюць, каб пра іх ведалі.

С. Галоўка нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Ператок на Стаўбцоўшчыне. Пасля заканчэння Старасвержанскай сярэдняй школы скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. З краязнаўчымі нарысамі, артыкуламі, эсэ выступае ў друку. А што першая кніжка С. Галоўкі прыйдзецца даспадобы чытачу нацыянальна неабыякаваму, ужо сведчаць загалоўкі матэрыялаў, змешчаных на яе старонках — "Як называць вас, Стоўбцы?", "Панямонь — мястэчка вельмі выдатнае", "А славуты "ямшчык" з-пад Стоўбцаў родам", "Гісторыя няспраўджанага кахання Уладзіміра Жылкі", "Засульскае турэ" Каруся Каганца" і іншыя.

Прадмову да зборніка напісаў Генрых Далідовіч.

# "МАСТАЦТВА", N 11

Як вядома, тэатру імя Я. Коласа нядаўна споўнілася 70 гадоў. Да гэтага юбілею прымеркавана публікацыя дыялога Л. Грамыкі з В. Мазынскім "Настальгія па мастацтве", артыкул Б. Бур'яна "І ўсё чыталася ў вачах", у якім знакаміты крытык разважае пра акцёраў Г. Маркіну і Г. Дубава, гаворка У. Ганчарова з А. Лабанком "Я часта бываў белай варонай".

Змешчаны артыкулы А. Лакоткі "Менка" ў сям'і скансэнаў "свету", І. Мятліцкай "Магчымасць быць пачутым", Ю. Барысевіча "Пейзаж і ўлада", Я. Шунейкі "Вельмі польскі творца", нататкі Т. Мушынскай з Міжнароднага фестывалю харэаграфічнага мастацтва "Хто і чаму любіць балет?"

Сярод іншых матэрыялаў — "Успаміны пра страчаны рай" А. Саламахі (уражанні пра знаходжанне беларускай оперы ў Ізраілі), "Каталіцкая інструментальная музыка на Беларусі" Т. Ліхач, развагі Г. Багданавай "Эратычная кераміка Сямёна Саўрыцкага" ("Чаму лагойскі ганчар зацікавіў заходніх мецэнатаў"); "Амулеты-змеевікі" І. Каранеўскай ("Семантычны аналіз выяўленчых кампазіцый"), "Хроніка мастацкага жыцця".





Мікола МАЛЯЎКА



# "НІКОЛІ НЕ ПРАДАМ СВАЮ ДУШУ"

## КАНФЕЦІ

Новы год без жменькі снегу,
Быццам снегу больш няма,
Дажджавыя хмары ў небе
Доіць шэрая зіма.

Шэра і ў жыцці без сонца,
Шэра без дабра ў жыцці —
Зверху сыплецца бясконца
Абяцанак канфеці.

Трошкі жартаў, трошкі смеху,
Замяшаных на хлусні, —
Не хапае праўды снегу
І марознай чысціні.

Карагодзіць свята ёлкі,
Ды замест святла ў душы
Асядае смутак золкі,
Бы на свяце ты — чужы.

Дзе ён, думак свежы вецер?
Абяцанак канфеці
Прыкрывае ціха зверху
Гразь і горыч у жыцці.

З тупіка шукаем выйсце.
Свет няўтульны, як турма.
Доіць хмары дажджавыя
Невясёлая зіма.

Умацуй нас верай, неба,
Сілу дай у смуты дні,
Каб дажыць да праўды снегу
І марознай чысціні.

## СЁМЫ ДЗЕНЬ ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ...

*Генрыху ДАЛІДОВІЧУ*

Свет наш,
Ведаем здавён,
Бог стварыў
За шэсць рабочых дзён.
А на сёмы дзень
Спакойна Бог
Адпачыць на воблаку прылёг.

Свет ствараць — занятак боскі,
Ды адважыўся мастак
І стварае свет свой —
Гарады і вёскі,
Сцежкі палявыя
І бальшак,
Свет —
З зямлёй і небам,
Свет —
З людзьмі,
Работай і надзёным хлебам.
Каласіцца жыта,
Беляцца палотны.
І дыміцца войнаў след —
Ён прыгожы,
Ён пяшчотны,
Ён і жорсткі,
Гэты свет.
Цэнтр яго на радаводу схеме
Не ў біблейскім Віфлееме,
Не ў далёкім Рыме —
Тут ён,
На сваёй радзіме.
З гарадоў сталічных
І глухіх паўстанкаў
Налібокі клічуць,
Вёска Янкавічы,
Хутар Амшарок —
Спадчыннае поле,
Луг,
Барок.
Тут і першы крык,
І першы ўрок —
Цэнтрам свету
Стаў ён,
Родны хутарок.
Не кажыце, што малы,
Не кажыце, што былы,
Старасвецка-сумны, —
Тут і сення ходзяць думы,
Як духоўнасці паслы,
Шчанючок вішчыць нязлы,
Вокны свецяцца ўначы,
Каб не заблудзіўся —
У дзяцінства ідучы.

І мастак шчырэе,
Творыць не рукамі —
Сэрцам чулым.
Свет шырэе,
Свет яго глыбее —
У мінулым,
Страсці чалавечыя кіпяць —
Людзі гаспадараць,
Мараць,
Пад крыжамі спяць...

Колькі дзён прайшло —
Не ў галаве:
Ён, мастак,
Наступным днём жыве.
Сёмы дзень яшчэ наперадзе,
І душа — у творчым верадзе:
Шмат работы —
Вось такім парадкам
Свет стварыць
І перадаць нашчадкам.

## ЖАБРАКІ

Звёў іх, з торбамі, Бог.
На развілцы дарог.

— Адкуль, бабка, ідзеш?
— З дому, дзед.
— Што, бабка, нясеш?
— Пенсію на абед.
— А куды, бабка, ідзеш?
— На той свет.

І пайшла цераз сілу —
За парог небасхілу.

## БУСЛЫ

Падсуседзі мілыя над хатаю,
Бачыў я ў старой буслянцы
Вашы, так бы мовіць, танцы:
Смешна вы тапталіся, цыбатыя.

Клекаталі ўзбуджана ад радасці.
Ззаду цяжкая дарога —
З краю-выраю чужога
Прыляцелі вы вясновай раніцай.

А цяпер, гляджу, і вам нявесела.
Вёску клёкатам не будзіце,
Як і мы, бывае, людзі,
У гняздзе сваім насы павесілі.

Восень неба хмарамі зацягвае.
Як тут не павесіш носа?
Час збірацца ў вырай новы,
А дарога — дальняя і цяжкая.

Ці вясна сустрэчаю парадуе?
Вас, самотных і халодных,
Мне шкада цяпер, як родных,
Мікалаеўцы мае крылатыя.

## АКВАРЭЛЬ

Нябёсы журбою замглёны,
Зямля пабялела ўнізе.
Зімуюць у выраі кроны —
Адны ствалы засталіся.

Блакітны стажок у лузе.
Зялёны крыжык яліны.
І я тут недзе журуся —
За вузкім акенцам карціны.

•

Добрая ці дрэнная прыкмета?
Заляцела ў восень страказа —
І на вейцы бабінага лета,
Светлая, застыла, як сляза.

Я хацеў бы, каб і ты, каханая,
Заляцела так у маразы.
Загадаў жаданне —
І дыханнем
Дакрануўся да жывой слязы.

Пэўна, гэта добрая прыкмета:
Не скацілася ў нябыт сляза
З кветкі — вейкі бабінага лета,
А ўзляцела ўверх, як страказа.

## ПАВУЦІНКА

Адбуяла вясна,
Раскашуюць пад сонцам
Палеткі, лясы,
Ды ўплялася, гляджу,
У твае валасы
Павуцінка адна.

Дарагая цана
За памылкі мае,
За блуканні па свеце
Гэта першая нітачка
Восені ў леце —
Павуцінка адна.

Серабрыцца яна,
Як журботна-шчымлівы
Дакор мне, каханая,
На красёнцах жыцця
Заснаваная рана
Павуцінка адна.

•

Сваіх настаўнікаў любіце.
Яны выводзяць вас у свет,
Яны клапоцяцца як след
Пра школы ўсёй аўтарытэт, —
Сваіх настаўнікаў любіце.

Сваіх настаўнікаў любіце,
Ламайце дробных крыўд бар'ер
І іх апраўдвайце давер
І ў новым веку, і цяпер, —
Сваіх настаўнікаў любіце.

Сваіх настаўнікаў любіце,
Усіх, адсутных і жывых,
Каб вас любілі, як і іх,
На лёсу сцежках крыжавых, —
Сваіх настаўнікаў любіце.

•

*Л. П. КАРАБЕНКУ*

Жыццё крутое выпрабоўвае на злом,
Зачэпліць часам ноччу зорку
ці бярозу,
Як быццам хтосьці добры так,
сваім святлом,
І да майго жадае далучыцца лёсу.

Я не губляюся дома, у лясной глушы,
Не закруціў і вір
сталічнага вакзала —
Святло ў акне начлежным
і святло ў душы,
Як Божы знак,
з дарогі збіцца не давала.

Каб сіл набрацца, я,
знябыты пілігрым,
Вяртаўся ў маладосць,
да землякоў і мамы.
І не зламаўся, пэўна, дзякуючы ім,
Хоць і ў мяне на сэрцы
засталіся шрамы.

Яшчэ не раз мурашнік зла разварушу
І сам не раз, магчыма,
памылюся ў нечым,
Але ніколі не прадам сваю душу
Ніякім д'яблам —
у абліччы чалавечым.

Жыццё крутое выпрабоўвае на злом.
Я сам хачу зачэпліць зорку ці бярозу,
Я сам хачу не ценем,
а жывым святлом
Хоць трошкі далучыцца
да чужога лёсу.

## КВЕТКІ ЛЮБІМАЙ АКТРЫСЕ



**29 лістапада ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы прайшоў вечар, прысвечаны 60-годдзю народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч. Павіншаваць таленавітую і любімую актрысу прыйшлі ў купалаўскі тэатр калегі, прыхільнікі яе самабытнага таленту, шырокая грамадскасць беларускай сталіцы.**

*На здымку: у час юбілейнага вечара актрысы.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## ЮБІЛЕЙНЫ ВЕЧАР ВАЛЕРЫЯ ФІЛАТАВА



**У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы прайшоў юбілейны вечар заслужанага артыста Беларусі Валерыя Філатава. Павіншаваць акцёра прыйшлі калегі са сталічных тэатраў, тэатральная грамадскасць. А потым гледачы ўбачылі спектакль "Лес" паводле п'есы А. Астроўскага, дзе Валерый Філатаў сыграў Шчасліўцава.**

*На здымку: з юбілеем Валерыя Філатава віншуе старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў вядомы драматург Аляксей Дудараў.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## "ШЧЫРА ВАШ, ЯКАЎ НАВУМЕНКА", —

**такую назву мае новая сольная праграма вядомага эстраднага спевака, прэзентацыя якой адбылася ў Белдзяржфілармоніі.**

**Саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Якаў Навуменка — талент шматгранны. Яго ведаюць у рэспубліцы, як выканаўцу фальклорных, народных песень і сучасных эстрадных твораў. А апошнім часам спявак усё актыўней выступае ў ролі кампазітара. І гэта яшчэ раз засведчыла новая канцэртная праграма.**

**На вечары гучалі песні самога "імянінніка", беларускіх паэтаў і кампазітараў, рэтрашлягеры. Шмат апладысментаў заслужылі лірычныя кампазіцыі. А дапамагалі Якаву Навуменку ў стварэнні сапраўднага свята песні Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга, ансамбль "Камерата", вядучая канцэрта, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка. Усе песні гучалі ў жывым выкананні, без фанаграм.**

**Уладзімір МАЗГО**

Музыка

***З вялікай цікавасцю прачытала ў 46-ым нумары "ЛіМа" нататкі паважанейшага чалавека — народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча "Свята — гэта добра, але..." Яголыя думкі пра Рэспубліканскі фестываль "Іграй, гармонік!", па-прафесійнаму глыбокія і па-чалавечы шчырыя, уразілі мяне тым сапраўдным болем, які адчувае аўтар за будучыню нашай культуры, за яе духоўнасць, густ, сапраўдную народнасць.***

***Мяне наогул вельмі кранула тое, што чалавек такой велічыні цалюткі дзень прысвяціў сядзенню ў зале. І тое, як ён уважліва назіраў за дзеяй на сцэне. І тое, з якой павагай да яго ставіліся суседзі-гледачы, дзяды і бабулі — асноўныя "фанаты" фестывалю. І яго прысутнасць у зале стала для мяне той асаблівa важнай прыкметай значнасці гэтага нованароджанага свята. Таму палічыла неабходным прадоўжыць гаворку пра тыя фестывальныя дні.***

# БЛІЗКАЕ, ЖАДАНАЕ, ЧАКАНАЕ

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА ФЕСТЫВАЛЬ "ІГРАЙ, ГАРМОНІК!"

Я даўно ўжо думала над тым, чаму такі фэст на рэспубліканскім узроўні дагэтуль у нас не праводзіўся. Бо папулярнасць гармоніка і вялікая цікавасць да яго як у аматараў, так і ў прафесійных музыкантаў надзвычайная. Ведаю, што святы гармоніка ўжо праводзяцца ў многіх кутках Беларусі. Ды і сталічны фэст "Мінскі гармонік" з 1991 года стаў адной з адметных культурных падзей кожнай восені, выклікаючы цікавасць у мноства людзей.

Летась мне давялося папрацаваць на фэсце са сваім народна-інструментальным гуртом "Баламуты" Беларускага ўніверсітэта культуры. Настолькі цікава ўсё было арганізавана, што мы дагэтуль успамінаем! Тады ж адбылося пашырэнне межаў "Мінскага гармоніка": запрасілі гасцей з абласцей рэспублікі. І выявілася, што ад жадаючых няма адбою. Заявак было столькі, што давялося даволі жарстка адбіраць удзельнікаў.

Такім чынам, рэспубліканскае свята гарманістаў жыццём падказана, як кажуць, "знізу". Столькі талентаў, столькі самародкаў у нас на Беларусі, што павінны ведаць іх не толькі ў роднай вёсцы ці раёне. Ды і музыкантам хочацца паказаць сябе, на іншых паглядзець, новыя інструменты паслухаць, а то і памацаць. У добрай справе паўдзельнічаць ды людзей парадаваць. Як прызналася мне адна з удзельніц: "Ведаеце, як хораша, што магу я восенню гэтай са сваіх гумавых ботаў вылезці, узуцца прыгожа ды і на сталічнай сцэне паказацца. Ой, якое ж гэта для мяне свята!"

Так што ідэя фэсту не ў гарадскіх кабінетах выспела, карані яе ў самай глыбінцы. Дарэчы, аналізуючы штогод пастаўскі фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік", у журы якога працую, заўважыла, што гарманістаў сярод удзельнікаў з кожным годам усё больш. Конкурс "Хто каго", традыцыйны для гэтага фестывалю, спакваля робіцца спаборніцтвам менавіта гарманістаў — так многа іх з'язджаецца. Гармонік стварыў там вельмі моцную канкурэнцыю іншым інструментам, якія таксама павінны развівацца ў творчасці. Таму своеасаблівая "разгрузка" пастаўскага фестывалю — таксама важкі довад на карысць "фірменнага" фэсту для прыхільнікаў гармоніка.

●

Нарэшце, вось ён — Першы рэспубліканскі. Ужо з 10 гадзін раніцы Палац культуры Белсаўпрофа поўніўся народам. У фае разгарнулася цудоўная выстаўка музычных інструментаў з прыватных калекцый Уладзіміра Грома, Дзмітрыя Равенскага, Міхаіла Слізкага. Тут і духавыя, і ўдарныя інструменты, але найбольшую ўвагу прыцягнулі, вядома ж, гармонікі. Тым больш, што іх уладальнікі могуць самі паказаць, як трэба па-сапраўднаму на іх іграць, ды і ўсім жадаючым не адмаўляюць, калі тыя паспрабаваць інструмент захочуць. Так што не выстаўка атрымалася, а сапраўдная творчая лабараторыя. Дык жа якая карысць з інструмента, які не гучыць? Не было там няздарных нашых гармонікаў "Нарач", што штампуе вядомая беларуская фабрыка. Былі сапраўдныя інструменты, майстрамі зробленыя, з душой, з паняццем, з выдумкай. Іграць на такіх інструментах — мара і маіх "Баламутаў", вымушаных змагацца з "Нарачамі"... Што ж, серыйны выраб музычных інструментаў у нашай рэспубліцы, дзе спрадвеку была найвысокая народна-інструментальная культура, — сёння балючая тэма. Для асобнай размовы.

А фае між тым гуло і спявала, іграла ды танчыла, бо такія ўжо людзі там сабраліся. Здавалася, што калі б і не было арганізаванага свята на сцэне, фае жыло б сваім святам. У кожным кутку — свой гарманіст як цэнтр кампаніі, ля яго адразу пачынаюць сваё спаборніцтва прыпеўачніцы, не даючы адна адной перадыху. Пасярэдзіне ўжо танцы наладзілі. Тут табе і вальс, і падыспань, і нарэчанька, і полька, і кракавяк. Мужчыны ладна так падхопліваюць кабет і цырымонна вядуць іх у танцы. А тыя кабеты, каму недаставала кавалера, самі ў пары бяруцца. Бо як жа можна пад сценкамі туліцца, калі гучыць музыка. Ды грае не абы-хто, а баранавіцкі "Фэст" — гурт, вядомы ў рэспубліцы; спецыяльна запрошаны ў якасці госця на "Іграй, гармонік!"

А потым гульні наладзіліся, ды такія ж цікавыя! Удзельнічала ў іх усё фае, бо было там ну як у жыцці: дзве суседкі на гулянцы падбіраюць нявестку для трэцяй, у якой халасты сынок вельмі ж нясмелы. Таму выбраць дзеўку трэба бойкую ды языкастую. Вядома ж, з прыпеўачніц. Тыя за словам у кішэню не палезуць, з такою не знудзішся. Усёй грамадой выбіралі тую нявесту, а ўжо дзеўкі стараліся! Не за грамату якую ж спаборнічалі — за хлопца добрага. А ў наступнай гульні ўсе дружна дапамаглі дзяўчыне хлапца абраць, і вядома каго — з гарманістаў! Наладзіла гульнёвую праграму група "Каляндар", у якой бяруць удзел студэнты ўніверсітэта культуры. А рыхтуюць яны свае праграмы ў гарадскім цэнтры культурна-дзелавога супрацоўніцтва "Агмень" пад кіраўніцтвам Ніны Капусцінай.

У зале пачыналася галоўнае. Сапраўднымі імяніннікамі выглядалі на цырымоніі адкрыцця ўдзельнікі з усіх шас ці абласцей Беларусі і са сталіцы. Тут і сівыя белабародыя дзядкі і зусім малыя хлопчыкі і дзяўчаткі. Шмат моладзі. Усе ў прыгожых строях, у руках пераліваюцца на розныя колеры гармонікі...

Кіно

# МАСТАК ДЗЕЛІЦЦА АДКРЫЦЦЁМ

### РЭТРАСПЕКТЫВА ФІЛЬМАЎ АНДЖЭЯ КАНДРАЦЮКА

***Імя Анджэя Кандрацюка вядома ў нас пакуль толькі невялікаму колу сапраўдных знаўцаў кіно. Адкрыццё гэтага яркага таленту для беларускага гледача, як гэта нярэдка здаралася ў мінулым, адбываецца з вялікім спазненнем: першыя свае фільмы Кандрацюк зняў яшчэ ў сярэдзіне 1960-х гг. Для вечнасці трыццаць гадоў — імгненне. Для кіно — гэта шмат: сёння грамадскія прыярытэты сталі іншымі, што выклікала да жыцця іншага героя, папулярнасці набылі новыя жанры, істотна абнавілася кінамова, з'явіліся незвычайныя тэхнічныя магчымасці, якія выклікалі змены не толькі ў арганізацыі кінапрацэсу, але і ў эстэтыцы кінавідовішча, адбылася змена пакаленняў гледачоў, выхаваных ужо на іншых узорах. Можна толькі пашкадаваць аб тым, што наша сустрэча з А. Кандрацюком не адбылася раней.***

У наэлектрызаванай атмасферы сённяшняга дня фільмы Кандрацюка ўразілі сапраўднай цеплынёй, святлом і інтэлігентнасцю, якая, на вялікі жаль, адыходзіць з нашага жыцця: грамада аддае перавагу іншым каштоўнасцям. У тым, што Кандрацюк прыйшоў да нас цяпер, ёсць нейкая свая важная заканамернасць.

Гэтага не маглі не адчуць тыя гледачы, якія тры дні запаўнялі залу кінатэатра "Перамога", дзе праходзіла рэтраспектыва вядомага польскага рэжысёра, акцёра і сцэнарыста. Кінатэатр стаў свайго роду пасылам польскага кіно на Беларусі, не даючы сціхнуць цікавасці да кінематографа нашых суседзяў і захоўваючы даўнія традыцыі двухбаковых сувязей. Толькі на працягу апошняга года мінчукі змаглі пазнаёміцца з апошнімі работамі вядучых польскіх рэжысёраў, паглядзець рэтраспектыву Феліксa Фалька і Яна Якуба Кольскага. Важная роля ў развіцці гэтых кантактаў належыць супрацоўнікам Польскага інстытута і пасольства Польскай Рэспублікі ў Мінску.

У праграме паказу было прадстаўлена чатыры фільмы, якія дазваляюць меркаваць пра творчую эвалюцыю Анджэя Кандрацюка. Ужо ў ранніх фільмах ("Зачараваныя" і "Маналог трубача") на поўную сілу прагучала тэма, якая стане галоўнай ва ўсёй яго творчасці: непаўторнасць чалавечай асобы і яе права на недатыкальнасць. Дзіўна, што героі рэжысёра — не рафінаваныя інтэлектуалы з іх адвечнай раздвоенасцю, а так званыя звычайныя людзі, якіх цяжка вылучыць у натоўпе — настолькі яны падобныя на мільёны іншых такіх жа звычайных людзей. Але ёсць штосьці асаблівае, што робіць іх такімі абаяльнымі: яны бескарыслівыя і душэўна шчодрыя, і таму так жыва рэагуе глядач на перыпетыі авіяпадарожжаў двух сябрoў, якія выйгралі грошы ў латарэі. Замест таго, каб набыць сабе што-небудзь з "прэстыжнага набору" ў выглядзе аўтамабіля, дома, дачы, героі лётаюць па Польшчы, безаглядна і весела расстаючыся з грашыма, якія дасталіся ім выпадкова. Нават у тыя далёкія 1960-я яны хочуць выглядаць дзівакамі, якія ўпарта не жадаюць вярнуцца на зямлю і жыць "як усе".

З цёплым наказам фестывалю звярнуліся вядомыя людзі, сярод якіх разам з Нілам Гілевічам былі начальнік Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэцкі, старшыня журы прафесар Беларускай акадэміі музыкі Барыс Сінецкі. А потым магічна загучала старадаўняя дуда, ёй адказаў яшчэ больш сталы гармонік у руках музыкаў з фальклорнага гурта "Ліцвіны", які прыйшоў вітаць фестываль. Заспяваў вядомы гурт "Шчодрыца" мінскага Дома настаўнікаў. Адна з песень — "Іграй, гармонік", створаная мінскім гарманістам Міхаілам Слізкім спецыяльна да фестывалю, магла б стаць яго музычнай эмблемай.

Фэст гэты задуманы на конкурснай аснове: вызначаліся лаўрэаты і дыпламанты сярод салістаў і гуртоў. Прычым, што прынцыпова, у некалькіх намінацыях. Бо ці магчыма з адзінымі крытэрыямі падыходзіць да выканаўцы з кансерваторскай адукацыяй і музыкі-самавука з глыбінкі? Выступленні дзяцей таксама ацэньвалі асобна.

Каб расказаць пра сам конкурс, які доўжыўся з раніцы да паловы дзесятага вечара, патрэбна не адна газетная паласа. Колькі было цікавага, таленавітага, здзіўляючага! Былі гармонікі, якім па 100—150 гадоў, на якіх гралі яшчэ прадзеды сёлетніх выканаўцаў, былі такія порсткія пераборы, што і музыкавых пальцаў не ўгледзіш, былі кранальныя песні і жартаўлівыя "страданні". А яшчэ ўдзельнічалі музыканты, якія адным сваім з'яўленнем вымушалі замірацъ публіку, бо гэта былі людзі без зроку, без пальцаў, без рукі. Але як жа гралі! Я бачыла, як людзі плакалі ў зале, і, напэўна, не толькі ад зразумелага чалавечага жалю. Плакалі, кранутыя шчырым і майстэрскім выкананнем, творчым подзвігам гэтых незвычайных музыкантаў.

●

Фестываль першы — і гэтым многае сказана. Былі дасягненні, былі і няўдачы, як у выступленнях, так і ў арганізацыі. Але з цягам часу набудзецца вопыт, сфарміруюцца традыцыі і падыходы, і няўдач будзе менш. Галоўнае ж — свята адбылося і мела сваю незабыўную атмасферу дзякуючы выбітным выканаўцам.

Вось салісты-гарманісты. Многія з іх — вядомыя ў рэспубліцы карыфеі, удзельнікі ўсіх святаў і конкурсаў народнай творчасці, сапраўдныя віртуозы. Сярод іх М. Рубанік, А. Новікаў, К. Дамасевіч, С. Галубіцкая, В. Сальнік, М. Касцюкевіч, Л. Каралеў, М. Сіняк, Л. Сахно, І. Чарняк, В. Голік, І. Калевіч. Галоўнае ў гэтых людзях — іх адданасць гармоніку, адданасць назаўсёды. Цікава не толькі слухаць, але і глядзець, як яны граюць. Сапраўдная народная школа майстэрства, у педагагічнай сістэме якой моцна перапляліся спрадвечныя традыцыі і асабістыя творчыя знаходкі музыкаў-самародкаў! І як жа карысна, што ўсё гэта перадаецца дзецям. У вёсцы Опаль, напрыклад, што ў Іванаўскім раёне на Брэстчыне, ужо не адзін год дзяцей вучаць паводле народнай методыкі: без нотнага пісьма, як спрадвеку было на вёсцы — на слых, з рук настаўніка і ў сумесным з ім выкананні. Хораша гэта сёння ці дрэнна? А вось, мяркуйце самі: большасць опальскіх хлопцаў — адметныя гарманісты. А сям'я Голікаў па-свойму унікальная. Бацька, Васіль, мае пяць сыноў, і ўсе гарманісты. І дзед у іх іграў, і прадзед.

Дарэчы, колькі слоў пра ўдзел дзяцей у гэтым фестывалі. Цалкам падтрымліваючы думку Н. Гілевіча пра неабходнасць правядзення асобнага дзіцячага фестывалю народных музыкантаў, разумею, што сёння гэта, на жаль, вельмі цяжка. Прычына вядомая: фінансы. Пра гэта мы гутарылі і з арганізатарамі фестывалю. Але пакуль грошы знойдзем, дзецям таксама трэба недзе паказвацца, і ў гэтым сэнсе "Іграй, гармонік!" выявіў, безумоўна, і здабыткі. Ёсць і такое меркаванне на карысць "агульнаўзроставых" фэстаў. На погляд многіх спецыялістаў, удзел дзяцей у фестывалях народнай творчасці падкрэслівае прынцып непарыўнасці народных традыцый. Дзеці заўсёды пераймалі ў дарослых усе правілы сацыяльных паводзін, адносін, а таксама працоўныя і мастацкія навыкі. Існуе і дзіцячы фальклор, узгадаваны з матчынай калыханкі. Толькі праз далучэнне дзяцей да фальклору здзяйсняецца сувязь пакаленняў у нашай народнай культуры. А таленавітыя дзеці з асаблівай праніклівасцю ўбіраюць усё самае каштоўнае, самае адметнае з народнай спадчыны і з кранальнай непасрэднасцю ўвасабляюць гэта ва ўласнай творчасці. Іншая справа, што вельмі адказна трэба ставіцца да рэпертуару, які дзеці выконваюць на такіх фестывалях, засцерагаць маленькіх выканаўцаў ад бязглуздзіцы, недарэчнага капіравання дарослых, ад чаго вельмі мудра перасцерагае і Ніл Гілевіч.

І тым не менш, хочацца прыгадаць маленькіх "зорачак" фестывалю, якія сталі яго лаўрэатамі і дыпламантамі. Гэта пяцігадовая Насця Жыгалік з Гродзеншчыны, таксама пяцігадовы Дзіма Яромаў з Асіповіцкага раёна. Мне асабліва спадабалася чарнявая вастравокая Алена Глазкова з Горак Магілёўскай вобласці, надзвычай артыстычная, і да таго ж з моцным голасам.

Дыплом І ступені атрымаў юны баяніст-віртуоз з Мінска Саша Садоўскі, ІІ ступені — Віця Голік з Брэстчыны, ІІ ступені — Віця Дзік з Бараўлянаў Мінскай вобласці. Бясспрэчным пераможцам і адзіным лаўрэатам сярод дзяцей стаў Дзіма Астапчук з вёскі Радастава Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Прычым, адразу як прыпевачнік і як гарманіст. Хлапчук гэты — сапраўдны талент. Ён мае цудоўны музычны слых, чысты голас, дакладнейшую інтанацыю, моцнае ад прыроды вакальнае дыханне, добрую выканальніцкую тэхніку. Да ўсяго — пачуццё гумару. Іграць і спяваць ён навучыўся ў сям'і. Грае ў традыцыйнай для сваіх мясцінаў манеры, на цудоўным галасістым старажытным гармоніку — дзедавым падарунку.

Што да ўдзелу ў конкурсе прыпевачнікаў, дык шчыра скажу: не здарылася тут для мяне адкрыццяў. Абедзвюма рукамі падпісваюся пад тым, што напісаў у "ЛіМе" Н. Гілевіч, і дадам пару слоў. Жанр прыпевак карыстаецца ў нас асаблівай любоўю, бо заўсёды высока цаніў наш народ вострае слоўка, трапны вобраз, актуальнасць прыпеўкі. Пры знешняй яе прастаце гэта адзін з найскладанейшых жанраў народнай культуры, у сваім родзе сінтэтычны. Прыпевачнік мусіць быць не толькі спеваком, але і сапраўдным артыстам. Далёка не ўсім гэта ўдаецца, што і выявіў конкурс. Ну, а змест прыпевак? У сапраўднай народнай прыпеўцы ніколі недахоп густу не прыкрыеш моцным узвізгваннем. Ці яшчэ: на сцэне з'яўляліся спявачкі або зусім сіпатыя, або без музычнага слыху, спявалі проста фальшыва. Навошта ж такіх везці ў сталіцу? Думаецца, кіраўнікам на месцах неабходна было прагледзець праграмы, адабраць удзельнікаў.

Спаборнічалі і ансамблі народных інструментаў. Абавязковай умовай была наяўнасць у іх складзе гармоніка. Выканальніцкая палітра ансамбляў была даволі стракатая: ад перапоўненых трукамі нумароў мінскай "Дударыкаўскай гармошачкі" да лірычных шляхетных песень "Гудскага гармоніка" з Гродзеншчыны. І гэта вабіла, бо падкрэслівала шырокі дыяпазон нашай рэгіянальнай культуры. А вось рэпертуар... Пра гэта надзвычай дакладна сказаў ужо ў сваім артыкуле Н. Гілевіч. Не полькаю адзінай вызначаецца наша народна-інструментальная спадчына, і пра багацце рэпертуару неадкладна павінны паклапаціцца кіраўнікі інструментальных калектываў. Як і пра ўзровень выканальніцкага майстэрства. Было дзіўна, напрыклад, чаму Брэсцкая вобласць, якая мае моцныя калектывы ў народна-інструментальным жанры, паслала на фэст слабенькі ансамбль...

Асабіста мне спадабаўся дзіцячы ансамбль "Пацешкі" з Маладзечна (мастацкі кіраўнік М. Таўгень). Тут было майстэрства, умела падабраны рэпертуар, сцэнічная культура, разнастайны цікавы інструментарый. Дарэчы, і не варта абмяжоўваць інструментальны склад ансамбляў толькі гармонікам, бо ў традыцыі гармонік сустракаецца ў самых розных тэмбравых спалучэннях з іншымі народнымі інструментамі. А задача падобных фэстаў — выявіць традыцыю і шырока яе паказаць. Хацелася б толькі параіць кіраўніку "Пацешак" і самому граць на гармоніку, а не на шыкоўным баяне.

Як заўсёды яскрава выступілі нашыя знакамітыя "Дударыкі" — ансамбль з 11-й мінскай гімназіі (кіраўнік Д. Равенскі). У сваім надзвычай разнастайным тэатралізаваным прадстаўленні са мноствам рэквізіту дзеці дэманструюць валоданне рознымі інструментамі, харэаграфіяй, спевамі. Сапраўдныя артысты, яны і сталі лаўрэатамі.

Вясёлыя хлопцы з Веткі пад кіраўніцтвам С. Байдука стварылі ансамбль гарманістаў з адпаведнай назвай "Вясёлыя музыкі" і таксама сталі лаўрэатамі. Гралі і спявалі нядрэнна, але вельмі ўжо шаблонны быў у іх рэпертуар: усё тыя ж "прымачэнькі", просценькае папуры на тэмы папулярных беларускіх песень. І ўсё ж у калектыву добры патэнцыял, тым болей, што грае там моладзь. Трэба толькі папрацаваць над рэпертуарам, пашукаць непаўторны мясцовы фальклор, пацікавіцца выканальніцкай адметнасцю мясцовых традыцыйных музыкаў і сёе-тое пераняць.

Вызначыліся на конкурсе і ансамблі-дыпламанты, і ўладальнікі спецпрызоў. Думаецца, для кожнага ўдзельніка фестываль стаўся і добрай школай, і незабыўным успамінам.

●

Завяршыўся фестываль грандыёзным гала-канцэртам у Палацы культуры МАЗа, дзе выступілі пераможцы. Але яшчэ з паўдня ўсе музыканты ўзялі ўдзел у вялікім гулянні, што было наладжана на плошчы перад палацам і куды з'ехаліся прыхільнікі народнай музыкі з усяго горада. Кожны з удзельнікаў меў за гонар паказацца тут, перад патрабавальнай сталічнай публікай, нягледзячы на халоднае, з пранізлівым ветрам надвор'е. Дарэчы, многія выказвалі пажаданне, каб "іграў гармонік" на які тыдзень раней, калі яшчэ стаяць сонечныя дзянёчкі "бабінага лета". Але гэта як ужо атрымаецца...

Вялікую работу правялі Міністэрства культуры, Мінскі гарадскі арганізацыйна-метадычны цэнтр народнай творчасці (дырэктар М. Агароднікаў, вядучыя спецыялісты А. Карыпанава ды І. Галуза) і інш.

Шаноўнае журы, цярплівa, на працягу многіх гадзін, слухала і глядзела конкурсныя праграмы. Добразычлівасць, прынцыповасць, дакладнасць у вызначэнні пераможцаў пацвярджала і публіка — сваімі апладысментамі ў час узнагароджання. І гэта не дзіўна, бо ў склад журы ўваходзілі вядомыя дзеячы беларускай культуры, музыканты-прафесіяналы, артысты. Большасць іх — сапраўдныя гарманісты-віртуозы, што яны і даказалі на гала-канцэрце, узяўшы ў рукі гармонікі.

Першы рэспубліканскі надоўга запомніцца яго ўдзельнікам і слухачам яскравымі канцэртамі і гуляннямі, асаблівым духам сапраўды народнага свята, блізкага, зразумелага і жаданага кожнаму. Цяпер я ўжо канчаткова пераканалася ў слушнасці вядомай народнай прыпеўкі, якая стала дэвізам фестывалю: "І пакуль гармонік грае, беларусы будуць жыць!"

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ,**
**дацэнт кафедры народна-інструментальнай творчасці Беларускага універсітэта культуры**

---

У ранніх фільмах А. Кандрацюк дэманструе прыродную схільнасць да гумару (дарэчы, і вучыўся ён у Лодзінскай вышэйшай кінашколе ў вядомага рэжысёра Тадэвуша Хмялеўскага, аўтара знакамітых некалі камедый "Ева хоча спаць" і "Дзе генерал"), якая выліваецца ў востры гратэск у "Маналогу трубача". Герой фільма спрабуе адстаяць свае правы на індывідуальнасць, але сістэма не можа гэтага дапусціць... Аднак чалавек аказваецца мацнейшым, таму што ён можа смяяцца з сістэмы. Сістэма можа прыніжаць альбо знішчыць чалавека, але не можа пазбавіць яго індывідуальнасці.

Фільм "Pelnia", назва якога не паддаецца прамому перакладу (шматзначная) і можа быць перакладзена як "Поўня" або "Паўната жыцця" ў залежнасці ад нашай трактоўкі, выйшаў на экраны ў 1979 годзе — якраз напярэдадні тэктанічных падзей у грамадска-палітычным жыцці не толькі Польшчы, але і ўсёй Еўропы — і побач з фільмамі А. Вайды, К. Занусі, пачынаючых К. Кесьлёўскага, Ф. Фалька характарызаваў духоўныя пошукі польскай інтэлігенцыі ў перыяд, калі рабілася відавочным, што сістэма асуджана, бо не ў сілах забяспечыць прагрэсіўнае развіццё грамадства. Тым не менш сістэма была яшчэ вельмі моцная, і таму выйсце з прыніжанага становішча раздвоенасці, калі слова абавязкова раздзялялася са справай, бачылася ў духоўнай эміграцыі: калі ты бачыш фальш і крывадушша сістэмы і змяніць нічога не можаш, то ці не больш сумленна будзе вярнуцца назад да прыроды і жыць простым натуральным жыццём, не будучы ніякіх славалюбных планаў, але і не чакаючы іншай узнагароды, акрамя як ад... месяца, які залівае ўсё наўкола сваім бляклым таямнічым святлом, ці ад птушак, што спяваюць на досвітку?

Зрабіць свой выбар няпроста, бо чалавек звязаны з грамадствам мноствам ніцяў: ёсць сям'я, сябры, абавязкі, — і разарваць усталяваныя сувязі дадзена не кожнаму, але для героя фільма ў цудоўным выкананні Томаша Заліўскага дні, праведзеныя ў маленькай вёсачцы на беразе возера, — гэта момант ісціны, калі чалавек пераасэнсоўвае ўсё мінулае жыццё і спрабуе вызначыць для сябе будучую лінію. Герой пачынае адчуваць сябе не проста асобай, але часткай велізарнага свету, усяго Сусвету, дзе ўсё ўзаемазвязана і ўзаемаабумоўлена. Калі дысгарманічная душа чалавека, то не будзе гармоніі і ў прыродзе. І наадварот: прыслухайся да прыроды, угледзься ў яе фарбы, удыхні яе пахі — і ты набудзеш спакой і гармонію, а значыць — і сілы прадаўжаць жыць.

Менавіта гэтае незвычайнае адчуванне еднасці чалавека і прыроды робіць фільмы А. Кандрацюка такімі арганічнымі і паэтычнымі. На апошнім кінафестывалі краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Лагове рэжысёру надалі спецыяльны прыз журы за новы фільм "Верацяно часу". Калі прыгадаць дэвіз фестывалю — "Новы цудоўны свет", — робіцца зразумела, чаму менавіта Кандрацюка выбрала журы. У той час як свет сярэдзіны 1990-х гадоў наўрад ці можна назваць "новым" і "цудоўным" (ён яшчэ толькі ўзнікае; ідуць складаныя працэсы хваляванняў, якія вылучаюцца супярэчнасцю і рэзкасцю), Кандрацюк стварае рэальнасць, важнейшымі рысамі якой з'яўляюцца цяпло, святло і гармонія.

"Верацяно часу" развівае тэндэнцыі, што праявілася ў яго фільме 1984 года "Чатыры пары года", які апавядае пра апошняе лета, якое падарылі сваму паміраючаму бацьку Януш і Анджэй Кандрацюкі. Але яшчэ ў большай ступені гэта фільм пра чалавека ў Сусвеце.

Адыход рэжысёра ў галіну ўзаемаадносін чалавека і прыроды разглядаўся некаторымі крытыкамі як уцёкі ад праблем сённяшняга дня. Але можна задаць і сустрэчнае пытанне: а ці не рэакцыя гэта на гэтыя праблемы? Якраз сёння, калі ўсё так рэзка мяняецца ў нашым успрыманні свету (ён праходзіць праз цяжкі працэс якасных і колькасных зменаў), так важна захаваць цэласнасць і гармонію душы ў яе самых патаемных і інтымных праявах. Летні дамок на беразе рачулкі робіцца сімвалам свету, у аснове якога ляжаць любоў, давер, спачуванне да ўсяго жывога і перш за ўсё да самых дарагіх і блізкіх для цябе людзей. Кандрацюк дазваляе гледачу зазірнуць усярэдзіну свайго дома, але робіць гэта так тактоўна і з вялікай доляй гумару і самаіроніі, што адразу адчуваеш дыстанцыю паміж Кандрацюком-мастаком і Кандрацюком — дзейнай асобай яго фільмаў.

Фільмы рэжысёра няспешныя, але ў іх прысутнічае ўнутраная дынаміка, якая захоплівае гледача. Яго прырода жыве такім інтэнсіўным жыццём, што ты ўвесь час адкрываеш для сябе ўсё новыя яе ўласцівасці і фарбы. Дзіўна, але хочацца слухаць цішыню яго лесу, плёскат вёслаў па вадзе, кудахтанне курэй: Кандрацюк валодае незвычайным дарам стварэння аб'ёмнага вобраза. Пры гэтым яго фільмы апошніх гадоў практычна пазбаўлены сюжэта. Кандрацюку-сцэнарысту і рэжысёру сумна займацца распрацоўкай сюжэта, бо ў расказанай гісторыі няма тайны. Затое ёсць тайна ў незвычайным ракурсе месяца або дрэвах, што гнуцца пад штармавым ветрам. І таму ён можа гадамі шукаць гэты ракурс, асаблівае спалучэнне фарбаў, нечаканыя з'явы прыроды, спрабуючы спыніць адно-адзінюткае імгненне, якое ніхто іншы не змог убачыць.

І гэта не капрызы таленту, а высокая патрабавальнасць мастака, які менавіта таму выступае як сцэнарыст, рэжысёр і прадзюсер сваіх фільмаў, што не хоча быць ні ад кога залежным. Ён хоча мець прывілею чакаць — перадналівальнічнага неба, сонечнага надвячорка ў канцы лета, жабіных вяселляў... І таму яго фільмы — гэта яшчэ і фільмы настрою.

У іх няма шалу фарбаў і пачуццяў. Як сапраўдны інтэлігент, Кандрацюк працуе на паўтанах, нюансах. Аголенае пачуццё, відаць, падалося б яму грубым, неэстэтычным. Яго карціны вытанчаныя і рафінаваныя, што дае падставу крытыцы гаварыць пра манернасць і эстэцтва кінематографа Кандрацюка, але наўрад ці гэта справядліва. Цяпло, якое зыходзіць ад яго герояў і прыроды, сярод якой яны жывуць, стварае незвычайную атмасферу, якая перадаецца гледачу. Яго фільмы — як глыток свежай вады, як першы сонечны прамень, што абуджае ў табе жаданне жыць. Бо жыццё — гэта цуд! Зрабіўшы гэтае адкрыццё, мастак хоча падзяліцца ім з намі. Глыбокая ўдзячнасць яму за гэта.

**Юрый СТУЛАЎ,**
**прафесар**

## ПАД СУЗОР'ЕМ СКАРПІЁНА



**Пачуцці ўзнёслыя і пяшчотныя, мілагучныя і пранікнёныя — яны не толькі адпавядаюць стылістыцы і зместу акварэльных аркушаў мастака Уладзіміра Рынкевіча, але і ствараюць у мінскім гарадскім палацы шлюбу, што над Свіслаччу, пэўную аўру і эмацыянальную атмасферу. Менавіта тут праходзіць персанальная выстаўка твораў "Пад сузор'ем скарпіёна" вядомага ў рэспубліцы і далёка за яе межамі мастака-акварэліста.**

**Адметнасць гэтай экспазіцыі ў тым, што яна складаецца з работ, якія створаны аўтарам у гэтым годзе і дагэтуль нідзе не экспанаваліся. Выстаўка пакідае добрае ўражанне сваёй разнапланавасцю. Некаторыя з акварэльных аркушаў нясуць у сабе яўна эксперыментальны характар, іншыя прыцягваюць вобразнымі і фармальнымі пошукамі.**

**Серыя краявідаў Паазер'я ўвасабляе замілаванне аўтара прыродай роднага краю. Гучныя акорды фарбаў адыходзячага дня і складаныя варыяцыі нюансаў ранішняга часу, чыстыя люстэркі азёраў і мазаіка разнатраўя — усё дорага і люба мастаку.**

**Незвычайнасць і складанасць тэхнічнай манеры ўласціва нацюрмортам аўтара, краявідам роднай Бацькаўшчыны, якія аўтар назапасіў падчас творчых вандровак.**

**Больш за дваццаць гадоў творчай працы мастак удзяльнічаў у шматлікіх рэспубліканскіх і замежных выстаўках, яго творы знаходзяцца як у музеях, так і ў зборах замежных прыватных калекцый і галерэй.**

**Сваімі ведамі і майстэрствам мастак шчодра дзеліцца са студэнтамі Беларускага універсітэта культуры, дзе выкладае больш за пятнаццаць гадоў.**

**Як адзначылі мастакі-калегі на адкрыцці выстаўкі У. Рынкевіча, мастак шчыра любіць сваю Радзіму і ўлюбёны ў акварэль, бо толькі з такой творчай апантанасцю можна стварыць такую прыгажосць.**

**Уладзімір МАСЛЕНІКАЎ, мастак, выкладчык Беларускага універсітэта культуры**

## "ПРАЛЕСКА", N 11

**Галоўны рэдактар "Пралескі" А. Сачанка выступае са сваім чарговым лістом — "Стоп! Падумай..." Гэтым разам ён запыняе ўвагу на тым, як неабходна беражліва ставіцца да здароўя (ці не ў першую чаргу дзяцей) і менш паддавацца ўплыву рэкламы розных дзяжкоў ад медыцыны. А. Наркевіч выступае з артыкулам "Што ні слова — зіхаценне", у якім пільна прыглядаецца (і чытачоў запрашае гэта зрабіць) да мовы народа. Змешчаны артыкулы В. Чэчата "Усё пачынаецца з дзяцінства", Я. Каламінскага і Л. Панько "Вялікі гуманіст сучаснасці" (да 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага даследчыка псіхікі і свядомасці чалавека, аднаго з буйнейшых псіхолагаў XX стагоддзя, ураджэнца Беларусі Л. Выгоцкага), "Майстар, мастак, чараўнік" (да 95-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Я. Чарушына). У перакладзе на беларускую мову публікуецца яго апавяданне "Чаму Цюпа не ловіць птушак"... У "Чытанцы "Пралескі" — верш А. Дзяржынскага "Сонечны зайчык", а на апошняй вокладцы часопіса — "Залатая восень" Я. Пушчы.**

# ПАДАРУНАК

## ДА 75-ГОДДЗЯ СЦЯПАНА АЛЕКСАНДРОВІЧА

Не скажу, што я быў блізкі Сцяпану Хусейнавічу чалавек, але мы адзін адным цікавіліся. Я захапляўся ягонымі змястоўнымі кнігамі, ён — маімі публікацыямі. Разы са два мы з ім і сустракаліся. Першы раз прыкладна ў 1975 (мо ў 76-ым) годзе я наведаў яго ў сухотным дыспансеры пад Навінкамі. Тады ў выдавецтве "Народная асвета" выйшла яго новая кніжка "Тут зямля такая" — своеасаблівае перавыданне, дапоўненае і дапрацаванае, ранейшай яго кніжкі "Незабыўнымі сцежкамі". Мяне ўразіла, што ў нарысах пра Францішка Багушэвіча знікла шмат арыгінальных фотаздымкаў: у першым выданні іх было значна больш.

У папярэдняй кнізе быў фотаздымак паэта ў маладыя, перад паўстаннем, гады, былі фота кушлянскай каплічкі-альтанкі, мемарыяльнай дошкі ў жупранскім касцёле, Віленскага акруговага суда, каменя-помніка паэту ў ваколіцах Кушлян, фотаздымак будынка Віленскага універсітэта, дзе калісь знаходзілася гімназія, якую скончыў у свой час Ф. Багушэвіч. Усяго гэтага не стала ў перавыдадзенай кнізе. Вось і вырашыў пацікавіцца ў самога аўтара, што здарылася.

Мы хадзілі мо з гадзіну ў ваколіцах дыспансера. Сцяпан Хусейнавіч дзяліўся творчымі задумамі, выказваў меркаванні, дзе яшчэ, у якіх архівах могуць быць дакументы пра Ф. Багушэвіча, ягоныя пісьмы. Бедаваў, што хвароба яго абвастраецца, што яму не зусім "зручна" з ёй вандраваць, што не можа спыніцца ў сваіх знаёмых, каб належна пажыць у тым ці іншым горадзе, дзе ёсць архівы. Адсутнасць жа ў новым выданні здымкаў патлумачыў звычайнай эканоміяй ліставу для іншых нарысаў. І толькі ўсяго? А я падумаў, што з нейкай іншай прычыны: ці нехта забараніў — на тую пару гэта было звычайнай з'явай, ці то яшчэ што... Ва ўсякім разе, як на маю думку, не было ніякай падставы іх здымаць, зганяць здымкі павінны былі быць і ў другім выданні кніжкі.

Пасля тае сустрэчы Сцяпан Хусейнавіч пра мяне не забываўся. Прыгадваецца такі момант.

...Тэлефонны званок. Бяру трубку. Чую: "Уладзімір Ільіч? Гэта Александровіч... Я вас папрашу... Тут энцыклапедыя заказала мне невялікі артыкульчык пра літаратурны Багушэвічаў музей у Жупранах. Але мне вельмі нядужыцца. Я папрасіў бы гэта зрабіць вас. Як зробіце, напішаце, занясіце ў энцыклапедыю і аддайце. Там будуць чакаць ад вас гэты матэрыял... Я дамовіўся на ваша аўтарства".

Вядома, я з прыемнасцю прыняў прапанову, быў рады, што такі прызнаны даследчык і вучоны даручае і давярае напісаць на прапанаваную яму тэму энцыклапедычны артыкул мне, куды менш спрактыкаванаму калегу. Той артыкул я неўзабаве напісаў. Ён быў надрукаваны ў першым томе ЭлімБела. Артыкул быў для мяне нібыта асаблівым падарункам ад Александровіча. Ва ўсякім разе, гісторыя яго напісання менавіта такая.

Гэта быў адзін з апошніх званкоў да мяне. Неўзабаве Сцяпан Хусейнавіч памёр...



Пяць гадоў таму Дом літаратара ладзіў вечарыну з нагоды сямідзесятых угодкаў слыннага даследчыка. Прапаноўвалі і мне сказаць слоўка. Але я адмовіўся. Мне падалося, што ёсць шмат людзей, якія больш ведаюць Сцяпана Хусейнавіча, больш, чым я, сустракаліся з ім. Хаця пасля, калі добра падумаў, разважыў, то адзін толькі эпізод з перадачай ім мне "сваёй" тэмы шмат пра што гаворыць. Сцяпан Хусейнавіч дбаў пра даследчыцкую змену, лічыў мяне годнай, вартай яго зменай, турбаваўся аба мне, далучаў мяне да самага аўтарытэтнага выдання. Гэта найперш і помніцца.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

# РУЖОВЫ ПРЫВІД

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Пакуль Хрушчоў з Мазуравым і Цімашэнкам абменьваліся ўражаннямі аб паляванні, пад дубам заклапочаныя тэнт, пасталі два раскладныя сталы ўпрытык, алюмініевыя табурэткі з нацягнутым брызентам і мяккі стул — "галоўнаму паляўнічаму". Гаспадарнікам памкнуліся памагчы малойцы з "вачамі на лбе і патыліцы" — целаахоўнікі, — але Хрушчоў заўважыў: "Толькі замінаеце..." — І раптам, ажыўлены, папрасіў: — Лепш распаліце вогнішча... Сто гадоў не грэўся ля вогнішча..."

Цімашэнка пабляжліва захітаў галавой: "Ах, Мікіта Сяргеевіч — сто гадоў... Да ста, як да неба..."

Чалавек пяць кінуліся збіраць ламачча, і хутка насупраць сталоў загарэлася вогнішча. Дубовае сухалле кідала гарачае — блізка не падыходзь — полымя.

На стале, як салдаты, павыстройваліся зялёныя бутэлькі, з талерак выпірала ікра, паўзнімалася стажкамі каўбаса і спрачаліся між сабою фаршыраваны судак з дунайскім селядцом, касавурачыся на фарэль у белым віне.

Поўны, утульны Хрушчоў гупнуў на галоўнае месца, падабраў пад стул кароткія ногі і даў знак рукою астатнім: можна. Праваруч заняў месца Мазураў, леваруч прымасціўся Цімашэнка. Астатнія паселі хто дзе. Двое не селі, шпацыравалі за спіною ў Хрушчова.

Забулькала з рыльцаў гарэлка. Хрушчоў першы кульнуў чарку — знак, што можна і ўсім. Пілі да дна — "не пакідалі злосці". Крадком я пасачыў за Хрушчовым: з чаго пачне — з ікры ці судака?

Пратыкаючы відэльцам каўбасу, Хрушчоў прадэкламаваў:

Нет на свете краше птицы,<br>
Чем свиная колбаса, —

і пахваліўшы "Белавежскую" гарэлку — "не пячэ, а бярэ", — пранікліва пагледзеў на Мазурава:

— Што-што, а гэта ў вас умеюць...

— У нас умеюць шмат чаго, — не спудлаваў Мазураў. — Умеюць рабіць трактары, аўтамабілі, станкі...

Хрушчоў замахаў рукамі, нібы адганяў дым.

— Гэта заслуга не беларусаў... Вам набудавалі заводаў, навучылі. Ад лапцяў — да станка...

— "Чаму ён ставіць беларусаў у нішто? — не разумеў я. — Той раз абазваў нахлебнікамі на шыі ў Расіі і Украіны, цяпер зноў..." Зірнуў на Мазурава: як успрыняў ён тэзіс: "Ад лапцяў — да станка"?

Не спяшчаючыся, Мазураў уладкаваў думкі і пачаў акуратна адспрэчваць:

— Нам будавалі — і мы будавалі. Напрыклад, задоўга да рэвалюцыі амаль усе чыгункі ў Расіі правялі беларусы, паклалі пачатак тэхнічнаму прагрэсу.

З душы ў мяне рвалася "ўра" Мазураву — не разгубіўся і на гэты раз.

Ружовыя вушы Хрушчова тырчэлі пагрозліва, твар загіпсаваўся — насоўвалася бяда. Гэта адчуў і Мазураў, спрытна адвёў бяду — усяго некалькі слоў спатрэбілася:

— Нам памагаюць і мы памагаем — так і павінна быць, так вось і наблізім Камунізм. Ужо недалёка.

Я здагадаўся, навошта гэта сказаў Мазураў: ад імя партыі Хрушчоў абвясціў на ўвесь свет: "Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры Камунізме", — і ўказаў тэрмін: 1982 год. Усяго дваццаць гадоў пачакаць.

Панадныя словы Мазурава размякчылі Хрушчову душу:

— Правільна разважаеш, Кірыл Трафімавіч, — падабрэў Хрушчоў. — Паднімем тост за Камунізм.

Выпілі яшчэ і яшчэ. Разумеючы, што гэтаму канца не будзе, Мазураў піў асцярожна, бярогся, а Хрушчоў куляў па-мужыцку — "донца пад сонца"...

Я чую, што Хрушчоў на падпітку любіў хваліцца і жартаваць. З чаго пачне?

Па твары Хрушчова прабегла развітая ўсмешка, пачаў:

— "Прывід блукае па Еўропе, прывід Камунізму". Прыблукаў да нас...

"Прыбіўся..." — запярэчыў у думках я.

— ...Прыблукаў і прыклеіўся, робіцца явай. Абраў нас, а не іх... — солодка працягваў Хрушчоў. — Ведае, дзе яго сустрэнуць хлебам-соллю.

Слухаючы, Мазураў памахваў галавой і штосьці думаў. Пра што? Можа, пра тое: хутчэй бы кончылася застолле, хутчэй бы пакінуў рэспубліку "вялікі госць"?

Яшчэ толькі пераваліла за поўдзень, а было падобна на вечар — пад шатамі загусалі суцінкі. Падкінулі сухалля на вогнішча, успыхнула полымя, кінула барвовыя выбліскі на твары застольнікаў. "Акурат першыя жыхары раю..." — прыйшло раптам мне ў галаву. Не зводзіў воч з Хрушчова: ружовыя былі цяпер не толькі вушы, загарэліся ад выпіўкі шчокі, лоб — сядзеў чалавек нібы ружовы прывід.

Над вершалінамі закрумкаў груган — крум, крум... Хрушчоў раптам падняўся — за ім паўзнімаліся астатнія, — узяў стрэльбу і, зляціўшы руляй гругана, стрэліў. Усе паўзнімалі галовы. Груган плаваў над верхавінамі, але крумкаць перастаў.

— Высока. Не дастаць шротам, — заўважыў Цімашэнка.

Хрушчоў апусціў стрэльбу — згадзіўся: шротам не дастаць, куляй не папасці. Пахітваючыся, пракасалапіў да вогнішча, паўскідаў на яго асмалкі. Кінуліся яму памагаць, але ён паказаў на сталы: сядайце, — і на гэты раз сеў апошні.

— Працягнем нашу залатую бяседу, — сказаў ён, нечага ўсміхнуўшыся, і паляпаў Мазурава па плячы: — Кірыл Трафімавіч выкруціўся ад кукурузы, як некалі выкручваўся я ад Сталіна.

Стрымліваючы смех, Мазураў папрасіў:

— А вы б расказалі, Мікіта Сяргеевіч... Раскажыце.

Мабыць, гэта ўсцешыла Хрушчова:

— Ну, раз просіце... Кіне, бывала, Сталін мяне голага ў вір, а я выплываю адтуль апрануты...

Цімашэнка зайшоўся рогатам, хапаўся за жывот:

— Ой, памру... ой, магаты няма... Мікіта Сяргеевіч, не дайце памерці...

Хрушчоў успрыняў гэта за любаванне ягоным розумам, ягонай дасціпнасцю, і працягваў:

— Кіне Сталін мяне апранутага ў вір, а я выплываю адтуль голы... — Усмешка на твары ў Хрушчова нечакана знікла, пабарабаніў тоўстымі пальцамі па стале. — Жарты жартамі, а мне пашанцавала. Патанула тады ў віры больш, чым выплыла... Вось пішуць, гавораць: Хрушчоў выкрыў культ асобы Сталіна.. Не культ я выкрыў, а хітрага тырана. Працаўнікі, бачыце, у яго былі. Ды яны і ў мяне былі, ягоныя ж прыхваснi — Молатаў, напрыклад, Кагановіч... Я і пальцам не крануў іх. Даў пенсію. Адпачывайце, адмывайце рукі...

Шапатлівa прабег па вершалінах вецер, панёс сарванае лісце над вогнішчам. Хрушчоў апусціў на далоні цяжкую галаву з тужлівымі вачамі, зацягнуў няўстойлівым барытонам:

Дывлюсь я на нэбо<br>
Тай думку гадаю...

"Зараз падхопяць..." — чакаў я.

Хрушчоў змоўк — не паспелі. Хтосьці раптам папрасіў:

— Мікіта Сяргеевіч, зрабіце ласку: раскажыце, як прыходзіў да вас на прыём ЯГО сын... Васіль...

— Прыходзіў. Спыніўся каля стала — і бух на калені, у вачах слёзы. Ці паверыце — у мяне таксама накруціліся слёзы. Падымайся, кажу, камуністы на каленях стаяць не павінны. Пытаю ў Мікаяна: што будзем рабіць з ім? Пасадзіць — прападзе і не пасадзіць — прападзе...

Запыталі, што ён натварыў.

— Зноў п'яны лез у самалёт. Добра, што вартавы сцягнуў за ногі.

— Можа, хацеў у Амерыку пераляцець?..

— Такое г... амерыканцам не трэба. Ганьба — салдат цягнуў за ногі генерала, сына нядаўняга правадыра ўсіх народаў...

Выслухаўшы пра сына Сталіна, пачалі дапытвацца: як арыштоўвалі Берыю?

Хрушчоў уздрыгнуў плячамі, як ад холаду.

— Ён ужо ўнутраныя войскі падцягваў... Спазніся мы на колькі гадзін... Тут жа арыштаванага і расстралялі. Цьфу... — Хрушчоў адвярнуўся, плюнуў. — Як цэліў з пісталета ў яго, затросся, вочы выкаціліся, павіслі...

Чуўся векавы шум пушчы. Хрушчоў задумліва пагледзеў у вузкі прагал між выносістых ялін — верхавіны рыплівa пакалыхваліся.

— Ніколі не паляваў на глушцоў. Кажуць, вельмі цікава. — Зірнуў на мяне: — Многа ў пушчы глушцоў, Апалон?

— Развялося, — адказаў я. — На глушцоў цікава паляваць ранняй вясной. Удодні. Надзенеш на боты чуні, крадзешся...

Пачалі збірацца — ужо не рана. Зноў закрумкаў груган. Хрушчоў, задумлівы і строгі, насупіўся: дурны знак — гругaнова крумканне над галавой.

●

На глушцовае паляванне Хрушчоў не прыехаў. Праз год увосень адбыўся загавор у Крамлі — Хрушчова знялі з пасады кіраўніка камуністычнай партыі. У газетах напісалі, сам папрасіўся на пенсію. Стаміўся чалавек.

ЭСЭ

# "Я БЫЛА ТАКОЙ ШЧАСЛІВАЙ..."

***Марыя Апанасаўна Багдановіч. Вечна юная Маці вечна юнага Паэта. Сышла ў вечнасць у 27 гадоў 4 кастрычніка 1896 года, 100 гадоў таму. Пахавана ў Гародні.***

## НАСУПРАЦЬ БЕЛАЙ ЦАРКВЫ

Яе магілка — якраз насупраць белай царквы. Пад цяжкім помнікам-каменем, і спрэс — у камені. Кветкі можна толькі прыносіць, не пасадзіш, Ні лапінкі жывой зямлі. Але добра, што і так. Ёсць і магіла. І помнік. Ёсць куды прыйсці.

Месца магілы вызначылі дзякуючы надзвычайнай педантычнасці Адама Ягоравіча. Ведаў ці прадчуваў, што славы яго роду не пазбегнуць, што патрэбна будзе беларусам ведаць месца, дзе пахаваў сваю Марыльку. Таму дакладна апісаў тое месца. Такі ўважлівы, такі клапатлівы, так кахаў яе! Перажыў на сорак чатыры гады. І ні разу магілку не наведаў. Як зразумець? Хіба так: меў прыгожую, але мармуровую душу. Інакш бы яна столькі страт не вытрымала.

## МАРЫЛЬКА

Яе вобразаў, як мне тое ўяўляецца лепш за ўсё адпавядае менавіта такая форма імені — Марылька. Не высока-ўрачыстае, велічнае — Марыя, не ласкава-ўзнёслае — Марыля. І тым больш ніяк не Маша на расійскі лад, як зваў сваю сястру Адам Ягоравіч.

Марылька — так падпісвала свае лісты да каханага мужа. І ён часцей менавіта так — у адказ. Сышла ў вечнасць такой юнай. Па сутнасці, зусім дзяўчынкай, паспеўшы нарадзіць чатырох дзяцей.

Ці было каму ў дзяцінстве гладзіць яе мілую галоўку, пяшчотна, як толькі ўмее мама, кажучы: Марылька... Спакутаваная ад бясконцых нястач родная маці Таццяна Восіпаўна ці мела сілы на такую ласку. Не з дабра ж дзетак у прытулак мусіла аддаць. А выхавацелька, губернатарша Пятрова, хоць і міласэрная пані, але ўсё ж — чужая.

Мо таму і называла яна сябе Марылькай, што не спатолена была ў дзяцінстве смага пяшчоты, якой так прагла яе чулая душа. Не толькі аддаваць, але і мець. Пэўна ж, ён, Адам Ягоравіч, нядрэнны ўсё-такі псіхолаг, бо адчуў, як патрэбна ёй праяўленне гэтага пачуцця. І таму звяртаўся да яе: "мілая Марылька". Адсюль, пэўна, і дзіцячыя слоўкі-пяшчоткі ў яе лістах. "Адамка", "коцік". Як дзе так, дык і не да месца. А тут — і зразумела, і кранальна.

А мо яна сама папрасіла мужа так сябе клікаць? Ніколі не даведаемся.

## ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ

Чакаць ад Марылькі высока развітога пачуцця нацыянальнай годнасці, безумоўна, ніяк не выпадае. Ні каранёў адпаведных, ні ўплываў. Яшчэ са школьных гадоў уяўлялася, што яна, маці Максіма, мусіла быць шчырай беларускай. Гэта не так. Сям'я Багдновічаў была, як і большасць інтэлігентных сем'яў таго часу, рускамоўнай. Усё ж хочацца верыць: калі б лёс дараваў Марыльцы дажыць да юнацкіх гадоў Максіма, яна падтрымала б і зразумела яго захапленне беларусікай. Апекавалася б, канешне, як магла. У цяпле трымала б. Гэта ж не Адам Ягоравіч з ягонай празмернай амбітнасцю і жаданнем наперад усё вылічыць: што выгадна, што — не. Беларусіка, безумоўна (і ў гэтым ён меў рацыю), ва ўсе часы — не. І пралічыўся ў рэшце рэшт. Бо менавіта Максім прынёс славу сям'і Багдановічаў, якой так прагнуў бацька. Максім — беларускі паэт.

Першае сутыкненне Максіма з жывым, натуральным, стыхійным беларускім асяроддзем адбылося ўлетку 1885 года, калі Марылька з сынамі адпачывала ў сваёй сястры Стэфы ў Вяззі. Даследчыца спадчыны паэта В. Бяляўская піша пра гэта: "Думаецца, якраз тут, у Вяззі, запала ў сэрца і стала такім родным і пажаданым беларускае слова для Максіма Багдановіча". Мо і так. Але ж яму тады было ўсяго тры з паловай гадочкі. І побач маці, якая з непрыхаванай скрухай піша ў лісце да мужа: "Вот только плохо, что стали говорить по-белорусски..." А мо я са сваім "калі б лёс дараваў" памыляюся? Мо яна стала б актыўна супраціўляцца таму, што стала для Максіма справай жыцця?

Як зразумець цябе, маці Марылька? Думаецца, яе проста палохалі тыя грубыя словы з вуснаў яе анёльчыкаў, якім яны вучыліся ад вясковых дзяцей. Але ж тыя словы наўрад ці з'яўляюцца беларускімі. "Иногда такое словечко выпалят, что хоть сквозь землю провались", — з жахам піша Марылька ў тым жа лісце. Але ж тое, пэўна, пра "славуты" расійскі мат.

Не дачакалася Марылька, каб прачытаць вершы свайго Максіма на той мове, якой яна палохалася. Ніколі не паверу, каб мова яго вершаў падалася б ёй непрыгожай, нявартай. Але, калі б дачакалася, то ці мелі б мы Паэта?.. Пра тое — крыху пазней.

## ГАРОДНЯ

"Славу гораду, як і зямлі , робяць славутыя людзі. У гэтым сэнсе Гародні пашэнціла — у ёй жыло нямала выдатных, славутых людзей, і сярод іх — наш першы інтэлігент у літаратуры, тонкі і трагічны Максім Багдановіч", — пісаў Васіль Быкаў.

Сям'я Багдановічаў пражыла ў гародні чатыры гады і чатыры месяцы. Быццам і няшмат. Але калі гэта — шостая частка ўсяго Максімавага жыцця, амаль такая ж — Марылькі, Лёвы, прыблізна чацвёртая Вадзіма і ўрэшце цэлая палова — сям'і Марылькі і Адама Ягоравіча, то гэта вельмі, вельмі шмат.

Так, Максім сказаў Зосьцы Верас, што "ён з Гродна помніць адно — смерць сваёй маці". Але адкуль тады Нёман у яго паэзіі? Хіба ж не вадзіла Марылька дзяцей да Нёмана ў розныя часы, і ў час паводкі таксама? Адтуль, думаецца, з тых дзіцячых уражанняў выліліся ў верш "Перад паводкай" яго наглядныя, зрокавыя вобразы, якія, не пабачыўшы, не ўявіш гэтак ярка:

**І пад птушы крык і гоман,**
**Даўшы хвалям вольны ход,**
**Прыпадыме бацька Нёман**
**На хрыбце магутны лёд.**

Адтуль і верш "Над Нёманам", напісаны да новае рэдакцыі "Вянка". А наша Швейцарская даліна — праўдзівая легенда Гародні! З якім захапленнем расказваюць пра яе старажылы горада. Мне яе бачыць не давялося. Знішчылі бальшавіцкія вандалы, як і фару Вітаўта, у якой хрысцілі Лёву, Ніну, адпявалі Марыльку.

У тыя пяць месяцаў у Мінску Максім нікому не казаў пра тое, што яго маці — так блізка. Ці хацеў ён наведаць магілку? Так, магчымасці не было, Гародня — пад немцамі. А каб была? Няўжо не прыехаў бы?

І ўсё ж гэтая назва — Гародня — ёсць у Максімавых творах. Няхай сабе ўпамінаецца адзін толькі раз. Пра тое хораша напісаў гродзенскі гісторык Аляксандр Госцеў: "Перачытаем яшчэ раз першы на Беларусі паэтычны пераклад урыўка са "Слова аб палку Ігаравым" — "Песню пра князя Ізяслава Полацкага", 1910 год. Ці выпадковы выбар урыўка? Бо не аб Нямігі крывавых берагах тут ідзе гаворка. Значыць, не аб Менску, які паэт, безумоўна, любіў, успамінаў ён у той момант. Не. Максім Багдановіч стварыў маленькі шэдэўр, заключны радок якога знянацку, з асаблівай вастрынёй выкрывае боль і нуду паэта па роднай старонцы: "...І жалобна, сумна трубы ў Гародні граюць".

Не хацелася б, каб гэта — пра Гародню і Максіма — успрымалася як наш гарадзенскі правінцыйны патрыятызм. Бо, урэшце, сапрадны патрыятызм менавіта такім і бывае: ..."к тому месту..."

## СТУЖКА-ЭСТАФЕТА

Так ужо склалася, што святыні ў Гародні падзяліліся па нацыянальнай прыкмеце. Для беларусаў — гэта найперш Каложа і магіла Марылькі, для палякаў тое, што звязана з імем пані Ажэшкавай. Вось толькі у расійцаў, хоць і пачуваюць яны сябе гаспадарамі, сваёй святыні тут няма. Да Марылькі прыходзяць нямногія, бо і беларусаў нямнога. Нехта з іх прынёс на магілку кветкі і абвязаў іх стужкай. Тонкім паяском. Бел-чырвона-белага колеру. І кожны з нас, хто сюды прыходзіць, выкідае ўжо засохлыя кветкі і абвязвае паяском свае. І мае бледныя астры таксама абвіла тая стужка-эстафета. Бачыш, Марылька, ты ёсць і будзеш у памяці менавіта тых, хто шануе беларускую мову і нашы спрадвечныя колеры-сімвалы. І сама ты, такая далёкая ад беларускасці, стала яе сімвалам.

## НІНАЧКА

Не на шчасце з'явілася на гэты свет адзіная дачушка Марылькі. Стала міжвольнай прычынай невылечнай хваробы маці. Памерла, маючы ўсяго толькі восем месячыкаў. У анёльскім узросце. Як цяжка было вытрымаць Марыльцы расстанне з дзецьмі ў тое апошняе яе лета! Яна ж ніколі з імі не расставалася. Усё было зроблена, каб адпачыла, каб вылечыць ад хваробы, ад якой тады не лячылі.

Асаблівы клопат маці — пра немаўлятка. "Больш за ўсё ў мяне крывёю душа абліваецца па Ніначцы. Вочкі яе блакітненькія, так у мяне перад вачыма заўсёды і стаяць", — з ліста да мужа. Колькі скрухі ў гэтым прызнанні, колькі непапраўнага гора!

І як цудоўна трымаецца Адам Ягоравіч. Захапляюць не столькі метады ягонага выхавання, колькі тое, як ён апавядае пра гэта ў лісце да Марылькі: "Пакрычаўшы хвілін дзесяць з перапынкамі, быццам абмяркоўваючы мае доказы, яна, з'яўляючыся дзявіцай ад прыроды разумнай, але толькі сапсаванай дрэнным выхаваннем, прыйшла да высновы, што па сутнасці намнога зручней спаць у калысцы, дзе нішто цябе не турбуе, чым на руках, ведаючы, што ўсё роўна цябе пакладуць у калыску, і ты мусіш праз сон лавіць гэты момант, каб выказаць неразумны пратэст". Колькі тут светлага гумару, каб падтрымаць, развесяліць няшчасную маці. Што ж, трэба трымацца. А гэта Адам Ягоравіч умеў заўсёды.

Адзіны фотаздымак Ніны — у труне. Сапраўды анёлчык. Светлая, яшчэ бязгрэшная душа. Нібы заснула. Нібы не ў труне, а ў дзіцячым ложачку. Ці памятаў Максім гэты тварык, гэтае — назаўсёды — супакаенне, што адбілася на ім? Калі і не памятаў, то фотаздымак быў напамінкам.

Апошняе дзіцятка Марылькі першым пайшло ўслед за маці.

## ЯКОЮ ЯНА БЫЛА?

"Маці паэта — сама прыгажосць і дасканаласць", — так пра Марыльку паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Хораша, проста і ўзвышана.

Паслухаем таго, хто ведаў Марыльку найлепш, — Адама Ягоравіча: "Рухавая, заўсёды вясёлая, з іскрыстымі вачамі, з незвычайна вялікаю касою, яна да ўсяго ж валодала пяшчотай кацяняці і той чароўнай прыгажосцю, якую называюць жаноцкасцю". Як бачым, галоўнае ў яго аповедзе — не партрэтная дакладнасць, не апісанне рысаў твару, фігуры, а тое незвычайнае ўражанне, якое яна выклікала і якое ён захаваў праз столькі гадоў. Вочы — якія? Якога колеру? — "Іскрыстыя"! Калі здольныя сыпаць іскры — прамяністыя, жывыя і, безумоўна, — прыгожыя. Адзіная канкрэтная дэталь — незвычайна вялікая каса. Сімвал жаночай прыгажосці.

Добра ўсё-такі, што гэты педант не стаў з фатаграфічнай дакладнасцю выпісваць яе аблічча, вымерваць яе постаць. Тады мы не ўбачылі б у ёй гэтага галоўнага — жаноцкасці. Разумным быў... Здолеў паказаць яе нам такой, якой бачыў сам, якой захапляўся, якую кахаў. Так, гэта каханне вадзіла ягонай халоднай рукой, калі ён пісаў успаміны. Ну і што, што яе ўжо даўно не было? Ну і што, што былі іншыя? Ён кахаў яе. А каханне не памірае.

І далей — пра тое, што ёсць толькі мёртвым адбіткам, але што мы сёння адно і маем: фотаздымкі: "Яе фотакарткі не даюць ніякага ўяўлення як аб яе душы, так і аб выглядзе знешнім. Гэта — маска, пазбаўленая жыцця; а яна была ўся — ясная, спеўная, рухавая, усцешная, захопленая..." Тое ж, што мы ведаем і пра адзіную выяву Марылі Верашчакі, Міцкевічавага кахання: ніякага падабенства з арыгіналам. Толькі людзі з мармуровай прыгажосцю здольны быць на фотаздымках гэткімі ж, як і ў жыцці...

## АДЗІНЫ ГРЭХ

"Адзінае, у чым яна была непапраўна перакананая і крышку грашыла супраць справядлівасці, дык гэта ў тым, што лічыла сваіх дзяцей непараўнальна лепшымі за ўсіх іншых, якіх ведала". Ах, Адам Ягоравіч! Як жа тонка, далікатна ўмеў ён узвысіць жанчыну, сапраўды вартую таго. Бо а як жа: гэтая жанчына — яго жонка, яго абранніца, маці яго дзяцей. Якой значнасці, гонару дабаўляе гэта яму! Яго кахала такая, бездакорная ва ўсім жанчына! Значыць, і ён — бездакорны.

Кажучы пра гэты "грэх" Марылькі, Адам Ягоравіч захапляецца ёю. Захапляецца тым велічным пачуццём мацярынства, якое яна там арганічна пераплятала з вялікім каханнем да яго. Пра каханне, пяшчотнае, глыбокае, сапраўднае — у лістах. Пачуццё ўзмацняецца ўсведамленнем таго, што ён вельмі патрэбны. І нават так: без яго і ім не выжыць. Як не выжыць няшчаснай удаве з малымі дзеткамі з адзінага вядомага твора Марылькі "Перад калядамі".

"Апроч мяне, маці нікому дзяцей не давярала, а дома ад іх не адыходзілася", — піша ён. Значыцца, ён, бацька, варты такой маці.

І гэта — адзіны грэх? Бязгрэшная!

## АПОШНІЯ МЕСЯЦЫ МАРЫЛЬКІ

Сарамлівая. І гэта — маючы чатырох дзяцей! Толькі калі пасля нараджэння Ніны ёй стала зусім блага, дазволіла лекару агледзець сябе. "Да таго моманту, — як сцвярджае Адам Ягоравіч, — жонка з пачуцця жаночай сарамлівасці не дазваляла сябе паслухаць ніводнаму лекару".

Яе апошні ліст — бы не яе. Раздражненне, папрокі. Ёй балела. Боль быў неадступным, пакутлівым, жахлівым. І тэмпература, якая знясільвала. Звесткі з лістоў пра тэмпературу ўражваюць: 38 — гэта яшчэ добра! Яна задыхаецца. Ёй холадна. На вуліцы — лета, а яна мусіць хутацца ў паліто. (Тое, што мінулым летам ў Мінску справіла і якое так многа клопатаў прынесла?) Невыносны боль цела, невыносны боль душы: за дзяцей. Боль знішчаў яе. Гэта ўжо была не яна. "Што зрабіла хвароба з гэтым вясёлым, жыццяздольным, прыгожым і целам і душою, цудоўным стварэннем? Жахліва ўспамінаць яе воблік... Скура ды косці. Уся згарэла ад гарачкі. І гэтая скурчаная ў клубочак фігурка, што сядзіць на ложку з прыціснутымі да ўпалых грудзей каленямі, каб заглушыць бясконцы кашаль, ад якога калаціўся гэты жывы, спакутаваны клубочак?" Адчуваецца, Адам Ягоравіч не толькі спачувае, ён пакутуе, яму баліць таксама.

Адна з апошніх яе думак, выказаная ізноў жа яму: "Навошта мне доўга жыць, калі я была такой шчаслівай..."

Яе апошнія месяцы былі часам згасання. Ужо не яе часам.

## ПАЭТ ПАЧЫНАЕЦЦА З ТРАГЕДЫІ

У Доме Максіма ў Гародні — гаспадыняй паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Яна найбліжэй да Максіма. І да Марылькі. Менавіта ад яе пачула такую парадаксальную па сутнасці, але абсалютна праўдзівую думку: сваёю смерцю маці нарадзіла Паэта. Бо паэт і сірата — сінонімы. Бо Паэт пачынаецца з трагедыі. Магчыма, гэта быў бы талент, але — выпеставаны, прыгладжаны, цяплічны.

Яна, што так любіла сваіх дзяцей, што не адпускала іх ні на крок, дазволіла б Максіму зведаць той боль, тыя пакуты, якімі ён жыў? Якія прапускаў праз сваю душу, гартуючы яе, ачышчаючы? Боль адчужанасці, адзіноты ў сям'і, няшчаснае каханне? Гэтага не было б. Яе апека звязала б яму крылы. Яна занадта любіла сваіх дзяцей, каб дзяліць іх з некім. Хай нават з Радзімай. Урэшце, што для яе Радзіма? Усё самае велічнае і значнае ў яе жыцці — яе дзеці.

Яна адпусціла б Максіма на Беларусь у 1911 годзе? Магчыма. Але навошта ім увогуле патрэбна было б пакідаць Беларусь? І не было б у Максіма чароўнай мары, была б мо не лепшая рэальнасць.

Яна адпусціла б Максіма на Беларусь у 1916 годзе — у пекла, у прыфрантавы горад? Ніколі!

Ён паміраў бы адзін у Ялце? Ніколі! Яна адчула б сэрцам сваім. Гэта не "стары верабей" Адам Ягоравіч, у якога — "справы". У яе самыя важныя справы — яе дзеці. Ды яна б здолела пешшу дайсці туды. І даглядала б, і суцяшала б, і ратавала б...

Сваёю смерцю адпусціла дзяцей на волю.

Не ўратавала сябе, каб уратаваць Беларусі — Паэта.

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**

*г. Гродна*

## ВЯДОМЫ ЯК ДРАМАТУРГ

**Літаратурнай дзейнасцю Іосіф Дорскі (нарадзіўся 17 снежня 1911 года, памёр 7 снежня 1964-га) займаўся з 1930 года. Напісаў разам з К. Губарэвічам драму "Цэнтральны ход", якая была пастаўлена ў 1948 годзе і лірычную камедыю "Алазанская даліна" — пастаўлена ў 1949 годзе. Аўтар п'есы "Права на шчасце", якая набыла жыццё на тэатральных падмостках у 1956 годзе пад назвай "Шчасце".**

**Нарадзіўся І. Дорскі ў Мінску. Скончыў курсы кінасцэнарыстаў, завочна вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага (1939—1941). Працаваў у друку, з 1935 года быў загадчыкам літаратурнай часткі, з 1948-га — дырэктарам тэатра імя Я. Коласа, а ў 1961—1964 гадах — дырэктарам кінастудыі "Беларусьфільм".**

## У РОЗНЫХ ЖАНРАХ

**працаваў Іосіф Васілеўскі, з дня нараджэння якога споўнілася 85 гадоў (памёр 20 красавіка 1994 года). З першымі вершамі выступіў у 1931 годзе ў часопісе "Маладняк", а перад гэтым скончыў Аршанскія педагагічныя курсы, тэатральна-драматургічныя курсы ў Мінску. На доўгі час звязаў лёс з тэатрам. З 1931 года па 1952-гі (за выключэннем службы ў арміі з 1933-га па 1937 год) быў акцёрам БДТ-2, працаваў у тэатрах Смаленска, Жытоміра, Днепрадзяржынска, Усць-Каменагорска, Разані, Іжэўска, Калугі. У 1967 годзе пераехаў у Мінск.**

**Кнігі паэзіі І. Васілеўскага выходзілі ў Смаленску, Мінску, а ў Маскве не толькі паэтычныя зборнікі, а і нарыс "Оружием сатиры". Пісаў І. Васілеўскі і для дзяцей — кнігі "Птичья тревога", "Диковины", "Веселый поезд" і іншыя. Працаваў як перакладчык, узнаўляючы па-руску творы беларускіх паэтаў.**

## ПРЫДАСЦА Ў ЖЫЦЦІ



**Раздзел па вывучэнні гісторыі беларускага ручніка, уменні яго вышываць уведзены ў праграму навучання Гомельскага прафесійнага вучылішча N 126 народных промыслаў.**

*На здымку: навучэнка другога курса Святлана Проніна.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## "СЛЕД ЧОРНАГА ВЕТРА"



**— так называецца збор сачыненняў школьнікаў Беларусі, напісаных на чарнобыльскую тэму. Сабраныя ў адну кнігу, больш за сотню дзіцячых апавяданняў уражваюць. Кніга выйшла ў свет напярэдадні 10-годдзя трагедыі, але сваёй актуальнасці не губляе і сёння.**

*На здымку: адна з аўтараў зборніка Алена Кавенка (справа) з Рэчыцы са сваёй сяброўкай Таццянай Майсеенкай і бібліятэкарам Галінай Асіпенкай.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

# ШТО ДАЎ НАШАЙ МОВЕ РЭФЕРЭНДУМ-95?

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

адраджэння нашага роднага слова. Ведаючы наперад, як гэтага нялёгка будзе дамагчыся, хацеў бы параіць браткам-беларусам не траціць надзею, верыць у свае сілы. Давайце і надалей жыць паводле разумнай парады нашага выдатнага песняра з такім жа цяжкім лёсам, як і ў самога беларускага народа — Алеся Гаруна:

**Дык шануй, Беларус, сваю мову —**
**Гэты скарб нам на вечныя годы;**
**За пашану радзімаму слову**
**Ушануюць нас брацця-народы!**

## 3. НЕАДЭКВАТНАЯ РЭАКЦЫЯ ДЗЯРЖАВЫ І ГРАМАДСТВА НА ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМУ

Пасля рэферэндуму для дзяржаўных інстытутаў, што займаюцца рэгуляваннем моўнай праблемы, узнікла надзвычай складаная сітуацыя. Яна была б прасцейшай, калі б трэба было беларускай мове надаць статус роўнай з рускай. У такім выпадку ўсе сферы эканамічнага, грамадска-палітычнага жыцця, установы навукі, культуры і адукацыі трэба было б проста падзяліць на дзве роўныя часткі, адну з якіх аддаць пад беларускую мову, другую — пад рускую і няхай кожная сумленна выконвае сваю ролю. Але прарабы рэферэндуму, наадварот, паставілі мэтай зраўняць рускую мову з беларускай. А гэта азначае пазбавіць першую, як гэта дзесяткі гадоў таму было зроблена з другой, усіх функцый у службовым справаводстве, у дзейнасці навукова-даследчых інстытутаў, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Іншага шляху функцыянальна ўраўняць рускую мову з беларускай не існуе. Надышоў час для органаў улады і кіравання дзейнічаць менавіта ў такім напрамку, хоць ён і вельмі нявыгадны для рускай мовы. Але што зробіш? Гэтага пажадаў народ, значыць, нешта ж трэба рабіць...

Яшчэ і па сёння памятаю, з якой цікавасцю праглядаў кожны дзень газеты, каб пазнаёміцца, што ж канкрэтнага робіць дзяржава для ўраўнання сацыяльных функцый дзвюх славянскіх моў. Мінае месяц, другі, а справа — ні з месца. Поўная бяздзейнасць дзяржаўных органаў усіх рангаў! Відаць, адразу ўцямілі, што калі паспрабаваць выканаць выказаныя народам пажаданні ў час рэферэндуму, дык неадкладна трэба выводзіць рускую мову адусюль, дзе не функцыянавала беларуская мова. Роўнасць дык роўнасць! Можа, на такі крок і пайшлі б апаратчыкі-прафесіяналы, калі б у самых высокіх эшалонах улады не кішэла шмат асоб з дыпломамі кандыдатаў і дактароў навук далёка не беларускай арыентацыі, якіх на працу ў шыкоўных кабінетах прывабілі сацыяльныя выгоды. Вось гэтыя асобы, відаць, і змікіцілі: калі пайсці на ўсталяванне роўнасці рускай мовы з беларускай, дык не толькі прадпрыемствы і ўстановы, але і самі дзяржаўныя органы застануцца без усялякага сродку камунікацыі, якім такі працяглы час служыла ім руская мова. Гэтыя ж асобы выдатна разумелі, што ўсе практычныя крокі па пераўвасабленні ідэй рэферэндуму ў жыццё непазбежна прывядуць да вельмі крытычнай сітуацыі: узнікненню моўнага вакууму, які невядома чым можна было б запоўніць.

Польскай мовай нельга, хоць носьбітам яе і з'яўляецца блізкі нам суседні славянскі народ. Тым больш нельга было выкарыстоўваць у гэтых мэтах французскую, кітайскую, японскую... мовы. Нельга таму, што сусветная практыка сведчыць: чыя мова пануе на зямлі, той народ рана ці позна стане і гаспадаром яе. А хто ж з нас хоча апынуцца пад уладай палякаў, англічан, немцаў, французаў, кітайцаў, японцаў..?

А ці ж было якое-небудзь выйсце з такога моўнага вакууму? Думаю, было, толькі ніхто яго сур'ёзна не шукаў. Каб не заставацца без сродку камунікацыі, была магчымасць увесці ў практыку як мінімум тры мовы: эсперанта, латынь, царкоўнаславянскую. На шчасце, яны не належаць аніводнаму канкрэтнаму народу, таму не ўзнікла б рэальнай пагрозы для беларусаў трапіць у залежнасць ад каго-небудзь. Першай з названых моў, на мой погляд, павінны былі б карыстацца дзяржаўныя, адміністрацыйна-гаспадарчыя і вайсковыя органы (дазваляе вельмі сцісла выказваць думкі, падаваць каманду), другой — усе тыпы навучальных устаноў і навука (вопыт у гэтым ёсць у Беларусі, прыкладам, абслугоўванне даных сфер у перыяд сярэднявечча), трэцяй — установы культуры, асабліва прафесійнай, смела і ў поўным аб'ёме запазычваючы дзеля гэтага багатую практыку праваслаўнай царквы. З усіх пералічаных вышэй моў царкоўнаславянская найбольш пасуе і для правядзення на ёй сесій Саветаў усіх рангаў, канферэнцый, семінараў, сімпозіумаў, "круглых сталоў"...

Любы з разгледжаных мною шляхоў пераадолення моўнага вакууму патрабаваў дзеля яго ажыццяўлення вялікіх высілкаў ад органаў улады і кіравання, таму ў краіне практычна ўсё заставалася без змяненняў у пытаннях мовы. А калі што і мянялася, дык толькі на карысць рускай мовы. За час, што мінуў пасля рэферэндуму, высокія эшалоны дзяржаўнай улады нават і пальцам не скранулі, каб зраўняць сацыяльны статус дзвюх славянскіх моў.

Калі нічога не рабілася па лініі такіх дзяржаўных органаў, гэта зусім не азначала, што аналагічную пазіцыю павінны былі заняць у гэтым пытанні міністэрствы і ведамствы, прадпрыемствы і ўстановы. Многія з іх вельмі перапалохаліся, што, выконваючы волю народа, давядзецца ў межах сваёй дзейнасці пазбавіць рускую мову тых функцый, якія тут не выконвала беларуская мова. Асабліва гэта непакоіла апарат Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, бо ў агульнаадукацыйныя школы яшчэ толькі-толькі пранікала беларуская мова і не існавала на ёй аніводнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы. Звесці тут на такі ўзровень і рускую мову — гэта азначала б разбурыць на Беларусі ўсю яе нацыянальна-рускую сістэму адукацыі. Што ж тады скажа наша ўсходняя суседка?! Належны тэарэтычны ўзровень, багаты прафесійна-кваліфікацыйны вопыт, высокая ступень русіфікацыі работнікаў рэспубліканскага, абласных, раённых (гарадскіх) апаратаў гэтага міністэрства, рэктаратаў і дырэкцый сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў усцераглі іх ад такіх небяспечных для рускай мовы дзеянняў. З хуткасцю маланкі да іх галоў прыйшоў вынайдзены яшчэ ў канцы 50-х гадоў "архідэмакратычны" метад апытання бацькоў аб мове навучання дзяцей у агульнаадукацыйных школах. Паколькі ўжо і пад той час на Беларусі не мелася аніводнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы на нацыянальнай мове, апошняя не ўжывалася ў службовым справаводстве, апытанне бацькоў дало ашаламляльныя, "бліскучыя" вынікі на карысць рускай мовы. Рост колькасці рускамоўных агульнаадукацыйных школ у гарадах за кошт беларускамоўных набыў такі размах, што з апошніх засталіся толькі адзінкі ў якіх-небудзь пазаштатных гарадках, размешчаных удалечыні ад адміністрацыйна-палітычных цэнтраў. Становішча ж беларускай мовы на момант правядзення рэферэндуму было значна горшым, чым у канцы 50-х гадоў, таму апаратчыкі Міністэрства адукацыі і навукі ніколькі не сумняваліся, што вынікі апытання бацькоў будуць аналагічнымі з тагачаснымі. Так і сапраўды сталася. У новым, 1995-96 навучальным годзе абсалютная большасць дзяцей па волі іх бацькоў ужо пайшла вучыцца не ў беларускамоўныя, а ў рускамоўныя школы. Больш таго, пры непасрэдным садзеянні саміх настаўнікаў многіх дзяцей другіх-пятых беларускамоўных класаў сталі пераводзіць у рускамоўныя. Я зусім не схільны вельмі ўжо вінаваціць за гэта настаўнікаў, бо яны ж не атрымалі адпаведнай нацыянальнай адукацыі, у пераважнай большасці добра не валодаюць беларускай мовай, а самае страшнае — маюць моцна дэфармаваную нацыянальную самасвядомасць. У тых умовах, у якіх на працягу апошняга пяцідзесяцігоддзя жыве беларускі народ, надзвычай цяжка сфармавацца сапраўдным нацыянальным патрыётам.

Складаныя, цяжкія выпрабаванні выпалі пасля правядзення рэферэндуму на сродкі масавай інфармацыі, дзе таксама дужа шмат праблем існавала па ўраўнанні рускай мовы з беларускай. Цяпер ужо трэба было тым, хто працуе на радыё і тэлебачанні, дзеля дасягнення такой роўнасці запрашаць да сябе ў студыю і такіх партнёраў, якія на пастаўленае пытанне па-руску маглі адказваць па-беларуску, бо далей жа нельга было прытрымлівацца толькі запанаванай дзесьці з сярэдзіны 60-х гадоў практыкі, калі на сфармуляванае пытанне па-беларуску цалкам задавальняюцца тым, што суразмоўца шпарыць па-руску. Не ведаю, чым кіраваліся на радыё і тэлебачанні, але на забеспячэнне сапраўднай роўнасці для рускай і беларускай моў яны не пайшлі. Наадварот, насуперак выказанай народам волі падчас рэферэндуму адбываецца далейшае паглыбленне няроўнасці паміж гэтымі мовамі на карысць рускай. У нас на сёння няма аніводнага радыё- і тэлежурналіста, які асмеліўся б задаць пытанне па-беларуску прэзідэнту ці прэм'ер-міністру! А гэта ж менавіта тыя дзяржаўныя асобы, якія больш за ўсіх ускладвалі надзей на тое, што рэферэндум нарэшце прывядзе да роўнасці рускай мовы з беларускай, паглыбіць дружбу паміж іх носьбітамі. Многія журналісты не без дрыжыкаў у голасе задаюць пытанне па-беларуску міністру і нават кіраўніку прадпрыемства. Смеласці ў іх хапае толькі, каб звярнуцца на родным слове беларуса да радавых людзей. Але варта ад іх пачуць хоць адно рускае слова, нават вымаўленае выпадкова, як адразу ж уся гаворка пачынае весціся на рускай мове.

Зусім не лічацца з выказанай на рэферэндуме воляй народа рэдакцыі нашых газет і часопісаў. Колькасць рускіх перыядычных выданняў цяпер перасягае беларускія ў дзесяткі разоў, а іх тыраж — у сотні. Ад некаторых беларускіх газет засталіся толькі адны найменні, дый то іх набіраюць намнога меншымі літарамі, чым даецца назва гэтай жа газеты ці часопіса па-руску. З закрыццём мінскай гарадской беларускай газеты "Добры вечар" у сталіцы суверэннай Рэспублікі Беларусь не выходзіць за кошт сродкаў дзяржавы аніводнай газеты на нацыянальнай мове. Гэта унікальны выпадак на ўсю Еўропу! Мала дзе сустрэнеш гэта ў Азіі ці Афрыцы. Нават у самы пік існавання ў СССР сталінскай таталітарнай сістэмы ў сродках масавай інфармацыі Беларусі было больш нацыянальнага, чым пасля хвалёнага майскага рэферэндуму 1995 года!

А як негатыўна ён паўплываў на візуальнае афармленне тэрыторый нашых гарадоў і вёсак, прадпрыемстваў і ўстаноў! З-за лесу рускамоўных рэклам, афармленых велізарнымі літарамі, толькі дзе-нідзе натрапіш на сціплыя ва ўсіх адносінах беларускамоўныя тэксты.

Масавы адыход ад выкарыстання беларускага слова назіраецца ў напісанні назваў тавараў, якімі гандлююць дзяржаўныя і кааператыўныя прадпрыемствы, прыватнікі. А зусім жа нядаўна ў многіх месцах тут для беларускай мовы быў сапраўдны рай. А які беларускамоўны лікбез праходзілі пакупнікі! Не раз даводзілася чуць, як хтосьці чытае "вяршкі", "разынкі", "тлушч" і таму, хто побач з ім і не ўсё разумее, перакладае: "сливки", "изюм", "жир". Так што, шаноўныя ўрадоўцы, якія не валодаюць і не паважаюць беларускай мовы, прыміце да ведама, што абуджаныя ад летаргічнага сну людзі вельмі ахвотна пацягнуліся да роднага слова, і каб іх не збілі з панталыку рэферэндумам, ужо сёння нашым палітыкам і інтэлігенцыі было б сорамна размаўляюць з беларусамі не на іх нацыянальнай мове. Можна толькі пазайздросціць, з якім спрытам нядобразычліўцы беларускай мовы выкруціліся з такой нязручнай для іх сітуацыі. Толькі ці надоўга?

## 4. РЭФЕРЭНДУМ І МІЖАСАБОВЫЯ ЗНОСІНЫ

Па сваім характары я, як і большасць беларусаў, законапаслушэнец. І калі ў адпаведнасці з рэферэндумам у краіне павінна была ўсталёўвацца роўнасць паміж рускай і беларускай мовамі, такога правіла вырашыў прытрымлівацца і ў сваім сямейным жыцці, у час гаворкі з блізкімі і знаёмымі людзьмі. Ды, відаць, не толькі я адзін, бо ад многіх даводзілася чуць, з якімі цяжкасцямі і перашкодамі яны сутыкаюцца пры спробе забяспечыць роўнасць гэтых дзвюх моў у час узаемаадносінаў між сабою. Згодна з рэферэндумам некаторыя з іх, пачуўшы беларускую мову, адразу ж пераходзілі на рускую і наадварот. І што ж атрымалася? А тое, што, калі ў першым выпадку суразмоўцам быў беларус, яго твар адразу ж біла на плямы, і пасля раздражнёных слоў: "Во як на цябе падзейнічаў усенародны рэферэндум!" спынялася ўсялякая гаворка. Зусім іншая рэакцыя ўзнікала ў другім выпадку, калі трэба было на рускую мову адказаць па-беларуску. Тут часцей за ўсё чулася такое: "Гаварыце па-руску" ці "Вы што? Не ведаеце, якія вынікі прынёс рэферэндум? Руская ж мова прызнана дзяржаўнай!"

Чуў ад сваіх сяброў скаргі аб немагчымасці ці неверагоднай складанасці забеспячэння парытэту рускай і беларускай моў у сям'і. Не раз думалася, як добра, што ў мяне, беларуса, жонка руская. Дзякуючы такой беларуска-рускамоўнай сям'і мы не зведвалі ўсяго таго, на што скардзіліся мае

сябры і знаёмыя. Строга прытрымліваючыся вынікаў рэферэндуму, мы адразу ж у няцотныя дні пачалі зносіцца паміж сабою на беларускай мове, а ў цотныя — на рускай. Але ўжо дзесьці на трэці дзень схамянуліся: на працягу ж года няцотных дзён больш, чым цотных і, значыцца, мы будзем больш карыстацца беларускай мовай, чым рускай, што супярэчыць рэферэндуму. Таму давялося ўнесці пэўныя карэктывы, і ў нашай сям'і ніводная мова не засталася ў крыўдзе. Затое нічога не атрымлівалася тады і не атрымліваецца цяпер з прапарцыянальным выкарыстаннем беларускай і рускай моў у час сну. У мяне, як прадстаўніка карэннай нацыянальнасці нашай краіны, гэта найчасцей і спраўней адбываецца па-беларуску, а ў рускай паводле паходжання жонкі — па-руску. Да якой пары гэта будзе доўжыцца, цяжка сказаць, але будзем імкнуцца задзейнічаць усе фактары, каб толькі строга па чарзе сніліся сны на беларускай і рускай мовах. Мы ж людзі законапаслухмяныя, добра выхаваны ў духу пралетарскага, сацыялістычнага інтэрнацыяналізму.

### 5. РЭФЕРЭНДУМ І ЯГО ДЗЯРЖАЎНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ

Я не браўся б за пяро толькі дзеля гаворкі з чытачом пра тое, як майскі рэферэндум 1995 года ўскладніў моўную сітуацыю, абцяжарыў сучаснае нацыянальна-культурнае Адраджэнне. Нам вельмі важна ведаць і пра шляхі выхаду з гэтай складанай, заблытанай сітуацыі. Іх — нямала. Але самы галоўны і эфектыўны — гэта нагрузіць беларускую мову ў сябе дома такім аб'ёмам сацыяльных функцый, якім нагружана ў Расіі руская мова, у Польшчы — польская, у Літве — літоўская, у Францыі — французская, у... Планамернай, мэтанакіраванай загрузкай беларускай мовы такімі функцыямі павінна займацца дзяржава. Таварыства беларускай мовы не справіцца з такой задачай, дый у яго зусім іншыя мэты. Толькі вось не ведаю, калі мы нададзім беларускай мове такі высокі сацыяльны статус, як Расія надала рускай мове, Польшча — польскай, Літва — літоўскай, Францыя — французскай... Як жа тады рэальна ўсталяваць у нас роўнасць рускай і беларускай моў? Колькі часу ні баўлю на развязванне гэтага пытання, ніяк не знаходжу на яго адказу. Усё часцей закрадваецца ў галаву трывожная думка: а мо і ў дзяржаўных органаў няма адказу на такое каверзнае пытанне, таму яны зусім і не займаюцца, пусцілі на самацёк ажыццяўленне тых задач, якія вынікаюць з рэферэндуму? Калі і сапраўды вышэйшыя эшалоны ўлады не бачаць магчымасці ў адпаведнасці з апошнім зрабіць рускую мову роўнай з беларускай, дык аб гэтым не трэба саромецца адкрыта заявіць народу. Моўная праблема — а тым больш на Беларусі — адна з самых складаных, на якой вельмі лёгка спатыкнуцца, прычым і адразу на дзве нагі. Яе трэба вырашаць не натоўпам, а абавязкова праз выкарыстанне тонкага розуму людзей з адпаведнымі высокімі прафесійна-філалагічнымі ведамі, багатым практычным вопытам. Нельга тут ігнараваць і магчымасцямі гісторыкаў, філосафаў, правазнаўцаў, якія добра дасведчаны ў пытаннях нацыянальна-культурнага развіцця сваёй Бацькаўшчыны, небыякавыя да яе лёсу. І галоўнае — не марудзіць, бо гэта толькі на шкоду беларускай і на карысць рускай мове. Апошняя (як да рэферэндуму, так і пасля яго) уладарыла і непадзельна ўладарыць, з ласкі дзяржаўных органаў, ва ўсіх відах службовага справаводства, у навуцы, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, сродках масавай інфармацыі, а беларуская мова стаіць пад дзвярыма ў чарзе, сагнуўшыся ад знемажэння ў тры пагібелі. Таму калі ў дзяржавы ёсць рычагі, з дапамогай якіх ідэю рэферэндуму аб моўнай роўнасці можна зрабіць рэальнасцю, іх неадкладна трэба ўводзіць у дзеянне. Народ падтрымае такія крокі, а тыя, хто не ўхваляў і не ўхваляе рэферэндум, пры першых жа поспехах яго рэалізацыі не будуць з'едліва сцвярджаць, што ён з'еў вялікія грошы, а беларускай мове паказаў дулю.

Прымусіць запрацаваць майскі рэферэндум 1995 трэба яшчэ і таму, каб не абясцэніць у вачах людзей такую форму вырашэння лёсавызначальных пытанняў, як усенароднае апытанне, да якой, як сведчаць падзеі сённяшняга дня, наш малады кіраўнік яшчэ не раз будзе звяртацца.

Упэўнены, нішто так не павысіць аўтарытэт дзяржавы ў карэннага насельніцтва Беларусі, яе суседніх краін, славянскай супольнасці народаў, сусветнай цывілізацыі, як дасягненне станоўчых зрухаў у нацыянальна-культурным Адраджэнні, што магчыма і рэальна толькі праз выратаванне, росквіт беларускай мовы.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар**

Тэатр

# І "ГУКАВАЯ ЛАБАРАТОРЫЯ" З "ЭНЕРГЕТЫЧНАГА ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ"...

## ВОДГУЛЛЕ ДРУГОГА МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ МОНАСПЕКТАКЛЯЎ "Я"

"Калі б не Фонд Сораса, калі б не Алесь Анціпенка, ягоны супрацоўнік, калі б не ягоная каманда, якая дасканала спрацоўвала па кожным пытанні й пункце праграмы, фестывалю не адбылося б", — выснавала Марына Бартніцкая (супрацоўнік СТД, адна з арганізатараў фестывалю) пра важкасць удзелу, унёску ды дапамогі. Напэўна, менавіта такая дапамога і дала падставу спраўдзіцца бальшыні фестывальных намераў.

Затое было крыўдна, калі ў праграму прасіліся да ўдзелу, а беларускі бок не мог яго забяспечыць (бо і праграма была ўжо складзена, і часу не заставалася), — аўтары й выканаўцы монаспектакляў з Нарвегіі, Японіі, Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі. Камусьці бракавала грошай толькі на праезд, а Беларусь яго не здолела аплаціць... Адбор спектакляў ажыццяўляўся з удзелам рэгіянальных фондаў Сораса і аддзяленняў Міжнароднага інстытута тэатра. Канчатковае рашэнне прымалася паводле прагляду відэакасет і рэцэнзій (часцей рэкламы). Вядома, па вялікім рахунку, такі адбор не самы дасканалы, але ім не грэбуюць ва ўсім свеце, — бачыце, так танней. Праўда, адзін са спектакляў, — "Шынель" Гогаля, упадабаны арганізатарамі па відэа, пакуль ехаў з Казахстана да Беларусі, — змяніўся непазнавальна. Акцёр стараўся як мага ўразіць публіку: распрануўся літаральна. Голым. Але мастацкага эфекту ягонага голага цела на сцэне (як цяжкога гумару) беларуская публіка не ацаніла.

Усяго фестываль (а доўжыўся ён з 10 па 14 кастрычніка) прадставіў чатырнаццаць спектакляў. На чале журы быў Аляксей Дудараў, які ў свой час сказаў (у інтэрв'ю), што ў тэатр аднаго акцёра не верыць. І ў монадраматурнію — таксама. Бо для таго, маўляў, каб нешта на сцэне адбылося, патрэбны плюс і мінус, рознапалюсныя зарады, — толькі тады між імі іскра праскочыць. Але ў сваім постфестывальным каментарыі "ЛіМу" Аляксей Ануфрыевіч засведчыў, што ў большай ці меншай ступені, але ўсе ўдзельнікі абапіраліся на п'есы, — матэрыял самага рознага кшталту быў аформлены як п'есы. Перадусім жа беларускі фестываль монаспектакляў — гэта вялікі паказ акцёрскіх магчымасцяў. І найлепш гэтыя магчымасці, паводле А. Дударава, выявіліся якраз у тых спектаклях, чыёю падставаю сталіся зусім не п'есы... Фотас Фаціядзес, акцёр з Кіпра, прадставіў... лабараторыю вымаўлення грэчаскіх гукаў: ён іграў свой спектакль на старажытнай грэчаскай мове (на якой, натуральна, сёння ніхто не размаўляе) і з самога гучання слова выходзіў на жэст, адметна выводзіў з аднаго руху пластычны малюнак мізансцэны і да т.п. Самі акцёры, паглядзеўшы кіпрскі спектакль, уразіліся сваімі ж, акцёрскімі, магчымасцямі...

Балгарскі крытык Нікола Вандаў засведчыў, між тым, што варта было ўбачыць работу Алеся Лабанка (Віцебск) і Уладзіміра Шэлестава (Мінск) з матэрыялам Гогаля і Дастаеўскага, каб упэўніцца, што для беларускага мастацтва значыць монаспектакль і як паслядоўна беларускія акцёры засвойваюць ягоныя законы, як ладна разумеюцца з "метадамі" работы, як удасканальваюцца. Алесь Лабанок быў другім у адметным акцёрскім спаборніцтве, Уладзімір Шэлестаў падзяліў трэцяе месца з балгаркай Антаанетай Петравай і Аленай Унукавай, прадстаўніцай Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Беларусі. Першым аднагалосна быў прызнаны Януш Сталярскі: крытыкамі, гледачамі, членамі журы. Ягонае "Hesse Homo" паводле Ніцшэ адметна прадэманстравала не толькі выбітны ўзровень акцёрскага майстэрства, але і тое, як творцы самі сабе выбіраюць мастацкія шляхі ды тэмы. Акцёры традыцыйна шмат працуюць з Гогалем, з Дастаеўскім, не абмінаюць сучасных або модных аўтараў. Але цікавасць да Ніцшэ і ягонае прозы акцёра Тэатра польскага з Пазнані (агульнавядома — моцны, дыхтоўны тэатр!), выпускніка Кракаўскай таэтральнай акадэміі не выдае на раптоўную. Бо ў выпадку Януша Сталярскага матэрыял вымагаў не адных толькі прафесійных акцёрскіх выбітнасцяў. Рэжысуры, — дакладнай, трапнай, годнай, — спектаклю таксама не бракавала!

Праўда, паводле Марыны Бартніцкай, акцёры не падманвалі самі сабе: большая частка з іх, выканаўцаў, сцэнічных валадароў, усё-такі не грэбавала цвёрдаю рэжысёрскаю рукою. А калі тою рукою кіравала адмысловая галава... Шэраг акцёрска-рэжысёрскіх звязаў уражваў сваім суладдзем ды паразуменнем. Аднак... праваліўся ж акцёр Андрэй Бубашкін у "Каханні смешнага чалавека" (ізноў Дастаеўскі, але трагічна няспраўджаны), магчыма, дзякуючы якраз... рэжысуры. Або — кінематаграфічнаму абыходжанню са сцэнічнымі ўмоўнасцямі — якраз рэжысёра.

Без рэжысёра працавала і Алена Унукава, сваю пластычную фантазію "Я жадаю быць каханай..." яна ствapала з харэографам Марынай Дударавай. Уладзімір Шэлестаў працаваў з рэжысёрам Уладзімірам Забэлам (вядомым як рэжысёр тэлевізійны). Акцёр прадэманстраваў адметную творчую форму і, як сказала Марына Бартніцкая, для самога сябе высока ўзняў выканаўчуюліштву. І вялікі дзякуй за гэта Галіне Дзягілевай, кіраўніку тэатра аднаго акцёра "Зніч". Спадарыня Галіна, ведаючы акцёраў, працягвае адкрываць іх для гледачоў. І... для іх саміх, для акцёраў. Па вялікім рахунку, тэатр "Зніч" мог бы сам сабе наладзіць фестываль монаспектакляў і яму было б што паказаць. Г. Дзягілева (балазе, актрыса!) як ніхто, напэўна, дбае пра тое, каб акцёр выказаўся й паказаўся.

Абвясціць пра сваё "я" літоўскім акцёрам дае магчымасць "Эдмундас студыё 3" з Шаўляй. Аднак, на думку Марыны Бартніцкай, якраз з Мінска тэатр паехаў пакрыўджаным: яго проста не зразумелі. Увогуле вартасці монаспектакля вельмі цяжка раскласці "па палічках", каб належна ацаніць, — надта ўжо нетрадыцыйная, надта ўжо датклівая гэтая сцэнічная форма — монаспектакль! Эдмундас Леанавічус з рэжысёрам Аўдроне Багацірытэ прыдумалі свае паказы здзяйсняць у мастацкіх галерэях (у іх тры супольныя пастаноўкі, якія называюцца проста "праектамі"). Працуюць без адзінага... мастацкага або чалавечага гуку: без слоў, без музыкі. Вымагаюць ад сябе ды ад публікі адметнага духоўна-энергетычнага ўзроўню: разам з гледачамі намагаюцца заглыбіцца ў нейкую духоўна-энергетычную містэрыю. "Духоўнымі спаткання з гледачом" называюць яны свае праекты, або яшчэ — "пунктам гледжання". (Уяўляеце сабе духоўны пункт гледжання?) Гэта — найцікавая пошукавая праца, вельмі рызыкоўная і, як на беларускім фестывалі, — няўдзячная. Часам.

"Людзі, львы, арлы і курапаткі", — акцёр з "Чырвонага факела", што ў Новасібірску, Уладзімір Лемяшонак, разумеўся з іхняй кампаніяй, рыхтуючы сваю творчую вечарыну. У Новасібірску, вядома. Выбіраў акцёрскія маналогі (скажам, Трэплева, Шчасліўцава, Мармеладава), ператвараў у цэльнае відовішча пра цяжкую акцёрскую прафесію. І давёў нават мінскай публіцы, што прафесія гэтая — лепшая ў свеце. І ягонае выкананне сведчыла, што такому акцёру цяжка хіба дабірацца да сцэны — па жыцці. А на сцэне яму і жыццё робіцца лягчэйшым...

На нашым сённяшнім тэатральным фоне фестываль монаспектакляў "Я" — падзея яркая. Разлічаны не на стадыён, не на шырокае кола, не на маштабнасць ды ахоп, монаспектакль для ягоных стваральнікаў ды выканаўцы — хіба што дбанне пра купку аднадумцаў, якіх ніколі не бывае шмат. М. Бартніцкая, для якой гэты фестываль стаўся "арганізатарскай школай", выснавала яшчэ і пра абазнаных тэатральных аматараў: яны перапаўнялі залы й залачкі, пляцоўкі ды пляцовачкі (для гледача, натуральна. адведзеныя). Марына, бадай, як ніхто, задаволена, што спектаклі глядзелі і самі спадары акцёры: "Нават тыя, хто не заняты шчыльна ў рэпертуары сваіх тэатраў, глядзелі і бачылі: выйсце — толькі ў рабоце. Тады яно, выйсце, ёсць. Трэба рызыкаваць!" А. Дудараў яшчэ і яшчэ раз нагадаў акцёрам пра іхнія магчымасці, пра тыя магчымасці, якія (з розных прычын) не выкарыстоўваюцца ў тэатрах, асабліва ў тэатрах акадэмічных: "Чым больш акадэмічны тэатр, тым менш уважлівы ён да артыста. Як ні дзіўна. Але акцёр не ў працы быць не можа, не мае права, бо дыскваліфікуецца. Пачынае без працы сумаваць, псіхаваць, гарэлку піць. Бо яму патрэбна ўвага як умова работы: увага прафесійная, увага глядацкая..."

На заканчэнне, вядома, няможна было не папытаць у старшыні журы, паводле якіх крытэрыяў трапілі на фестываль беларускія монаспектаклі. І спадар Аляксей сумленна адказаў, што у іх, як у арганізатараў фестывалю, надарылася магчымасць паказаць свайго як мага — і таму беларусы паказалі ўсё, што толькі магчыма было. І мелі рацыю, якую пацвердзілі тыя, хто ацэньваў вартасць паказанага.

**З Марынай БАРТНІЦКАЙ**
**і Аляксеем ДУДАРАВЫМ**
**сустракалася Жана ЛАШКЕВІЧ**



**Калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" выказвае глыбокае спачуванне рэдактару выдавецтва КАЎРУС Л. І у сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю бацькі.**

Рэпліка

# ПРА "ПЕСНУ" І "ПЕННЕ"

Не ма-гу больш! Мой далікатны музычна-філалагічны слых пакутуе ад слоў, у якіх не можа ўлавіць ні гукавой эстэтыкі, ні фармальнай логікі, а ўлоўлівае толькі недарэчнасць. "Благавешчанне", "благачыннасць", "благатворны", "бескарысная дапамога", "бескарысныя шчырыя людзі", "дзяржаўныя статысты" і г.д., і г.д., і г.д.

Апошнім часам прычынай пакуты майго слыху сталася слоўка, укаранёнае ў беларускамоўным эфіры (радзей — у друку) дзякуючы ўвазе да не так і даўно вызваленай з-пад афіцыйнай забароны рэлігійнай музыкі. Напэўна, складанае слова "песнопение" прыйшло ў сучасную рускую мову праз царкоўнаславянскую, як калька са старажытнагрэцкай. Само па сабе таўталагічнае, яно з чыёйсьці лёгкай рукі ператварылася ў зусім ужо недарэчную квазібеларускую кальку: "песнапенне". Хто-небудзь задумваўся, ад якіх "каранёў" утворана гэта, найвысакароднае паводле сэнсу, слова?

Прыслухайцеся, задумайцеся! "Песна"... Што такое па-беларуску "песна"? Можа, "песня" ўсё ж? "Пенне"... Так і цягне на каламбуры. Можа, "спеў", "спевы", "спяванне"?

Гэтае штучнаўтворанае "песна-пенне", або "песна-пенні" ў маёй лімаўскай мове так і не прыжылося. Замяніў яго я даўно — на "песняспевы" ды "песняспеў". Маю ў рэзерве яшчэ адзін варыянт: "песняпевы".

Няўжо ж страцілі слых, смак, густ і любоў да слова прафесійныя філолагі-стылісты?!

**Лімавец**

Ігар ЗАПРУДСКІ

# СТАТЫСТ

## ХРОНІКА

*"Тады Пілат, жадаючы дагадзіць народу, адпусціў ім Вараву, а Ісуса, пабіўшы, аддаў на ўкрыжаванне".*

Евангелле ад Марка

### ВЕЧАРНІЦА

Іх было трое. У іх былі трыццаць тры паперчыны, спіс сыноў і дачок цярпення, якія самі ўжо не маглі прыйсці, каб сказаць, што згодны менавіта гэтак цярпець і далей, і скрынка, у якой трэба было схаваць тайну іх жаданняў.

Быў шэры туманны адвячорак. Першай бабульцы даводзілі доўга і старанна, што хочуць атрымаць ад яе "за" ці "супраць" на сем пытанняў. Яна недаўменна слухала, бо, відавочна, чакала ўжо толькі пераўтварэння. Потым, канчаткова вымархаўшыся ад пачутага, папрасіла літасці — не ставіць яе перад незразумелым выбарам. "У мяне разбалелася галава, зрабіце так, як знаеце", — баючыся пакрыўдзіць, умольна папрасіла яна. Двое паглядзелі на статыста. Ён маўчаў. Муштраванне беднае кабеты пачалося зноў. Статысту было балюча, што зараз толькі ён прычына яе няшчасця. Двое таксама дарэшты станіліся, не могучы дабіцца свайго. Тады статыст не вытрымаў, пашкадаваў дачку цярпення і тых дваіх і выйшаў на вуліцу. Ён думаў, што калі трыццаць тры разы стане сведкам такога мучэння, то проста сканае, зробіцца яшчэ большым саўдзельнікам... Двое хутка выйшлі ўслед. Статыст сказаў ім, забыўшыся на самім сабой ускладзены на сябе абавязак: "Я не буду глядзець у вочы праўдзе, толькі не мучце больш гэтак астатніх трыццаці двух..."

У наступнай халупцы з зямляной падлогай у куце вісеў дзіўна-светлы абраз. Яны прывіталіся. Жанчына, што немачна ляжала на палацях у кучы рызманоў, ціха спыталася: "Дзеткі, можа, вы прынеслі смерць?"

Потым памаўчала і разважыла сама сабе: "Нешта яна доўга па мяне не йдзе". Статыст адчуў у сэрцы ржавы цвік. Двое таксама зніякавелі. Але цярпенне ёсць цярпенне. І другі лісцік быў укінуты ўсё ж у скрынку тайнаў. Адзін з трох на нейкі момант выратавальна атупеў і не думаў пакуль пра свае перакананні.

Далей была хатка з заткнутымі на покуці вербнымі пруткамі. Яе ўладальнікі, муж і жонка, былі дома. Іх росту не ставала, мусіць, каб зачапляцца за бэлькі столі, але статысту і аднаму з двух прыйшлося прыгінацца. У куце пад ложкам, на якім ляжала гаспадыня, капашыліся і папісквалі мышы. Гаспадар быў глуханямы. Ён жэстамі паказваў, што жонка зусім хворая і не можа ўстаць, і паслужліва даводзіў, што зробіць усё што трэба і за яе. Два подпісы, дзве паперкі, на якіх ён старанна закрэсліваў не "за" ці "супраць", а самі пытанні. І кожны раз уздымаў вочы — ці слушна робіць. Двое неяк наканавана кожны разківалі галовамі ў знак згоды.

Статыст маладушна падумаў: "А, можа, яму больш і не хадзіць, а проста пастаяць у тумане (які згусціўся яшчэ больш)? Яго ж ніхто не прымушае". "Хочаш ашчадзіць сябе? — з дакорам спытаўся другі ён жа. — А ці можна ашчаджаць сумленне?" Потым першае і другое "Я" знайшлі паразуменне: "Ён проста апарат, які запісвае на відэакамеру памяці гэтыя карціны. Інакш спапялее сэрца. Трэба і мне пацярпець колькі гадзін".

Але ўвайсці ў прастрацыю не атрымоўвалася. "Вось гэта мой народ, — разважаў ён. — Народ-людзі, якіх ён так горача любіў. Народ-Айчына, дзеля шчасця якіх гатовы быў аддаць жыццё". З нядаўняга часу, пасля аднаго памятнага, як першы пацалунак, майскага дня, пачуцця любові ўжо не было. Засталося толькі спачуванне і шкадаванне. А нярэдка і злосць. А мо ён і сам вінаваты? Родная цётка, якая памятала яго маленькім плаксівым камячком, неяк сказала, "Ты знялюбеў мне, бо нараіў паставіць некалі подпіс за нацыяналіста". "Значыць, гэтае туманнае пекла — расплата за тое, што любоў стала не толькі шкадаваннем, але і злосцю", — зрабіў ён выснову.

Пабач, падумай, зразумей, пакайся!

У гэтым дамку іх даўно чакалі. Яны былі жаданыя госці. Пакінутыя ўсімі людзі радыя былі іхняй увазе: "Не забыліся, не прамінулі. Нам не важна, што мы скажам, істотна, што з нашым меркаваннем хоць зрэдчас нехта-недзе можа і палічыцца. Экран уключаны, з яго просяць дапамагчы, кажуць шчыра. Мы верым, што менавіта гэтак нам будзе лягчэй цярпець. Мы не пакінем просьбу без увагі. Мы гатовыя дапамагчы. Але галоўнае, што не забыліся — прыйшлі".

Затым у двары іх сустрэў сын і паведаміў, што пазаўчора пахаваў маці, да якой цяпер вось нечакана прыйшлі. Ён прабачыў ім. Але сказаў, што сам на ніякія пытанні адказваць не будзе. Двое яго зразумелі і не ўгаворвалі.

Статыст нічога не гаварыў, толькі адчыняў і зачыняў веснічкі, бараніўся ад сабак, што паўсюль ахоўвалі прытулкі нэндзы, няёміўся, калі заносіў бруд у хату, і прыглядаўся да ўсяго. Двое яго спадарожнікаў таксама гаварылі мала. Раз пра нейкую ўдачлівую дзяўчыну, што "ўварвала" сабе цудоўнага хлопца, другі — пра адказ лысага рыжаму, нібыта ён сам адмовіўся ад рыжай чупрыны.

Час не стаяў. І трое рухаліся ў прасторы туману і суцэльнага панавання жабрацтва.

На вуліцы сустрэлася маладая дачка цярпення, якая папрасіла іх проста тут выявіць тайну сваіх жаданняў. Двое зірнулі на статыста і адмовілі: "Вы яшчэ мала цярпелі і вас няма ў спісе трыццаці трох. Схадзіце ў вялікі дом, дзе жаданні выяўляе большасць". Яна ўзялася прасіць, ледзь не маліць, даводзіць, што ёй зараз пільна трэба цярпець на ферме... Статыст апусціў вочы долу. І лісцік з "як усе" быў прасунуты ў шчыліну скрыні. Статыста вярэдзіла не само жаданне быць "як усе", а тое, што адна з дваіх мусіла ўвесь час падказваць, як зрабіць, каб быць "як усе". У гэты вечар не сустрэўся ніводзін, які б гэта ведаў сам.

Пасля гэтага выпадку двое паспакайнелі, вырашылі, што сапраўды можна не зважаць на прысутнасць статыста. Ім самім ужо апрыкрала сённяшняе недарэчнае хаджэнне, яны імкнуліся яго хутчэй скончыць. Рубікон быў пяройдзены.

Далей усё пайшло гладка. Знядужаных не мучылі, а ненавязліва дапамагалі зрабіць выбар. Статыст ужо не задаваўся пытаннем, навошта ён тут рухаецца ў тумане. Ён зразумеў, што гэта чысцец, якім ён пакараны за пыхлівую веру ў магчымасць зрабіць нешта ўжо сёння. Нешта кардынальнае.

Сыны і дочкі пакуты — даверлівыя, як дзеці. Большасць з іх, што мела яшчэ рэшткі моцы, была пераканана, што можна знайсці вінаватых за іх празмернае цярпенне. Яны лічылі, што ўсё роўна наўрад ці атрымаецца, каб усе былі багатымі, сталі дзецьмі шчасця, значыць лепш і надзейней (ёсць большая пэўнасць), каб усе былі беднымі і аднолькава вымушанымі цярпець.

Далей пайшоў калейдаскоп ужо бачанага, з рознымі неістотнымі адценнямі. З яго выпадала хіба адна сутычка. Трое доўга таўкліся на ганку дамоўкі, грукалі ў дзверы, стукалі ў вокны, у якіх гарэла святло. Адтуль чуліся галасы. Нарэшце ў сенцы выйшаў адзін з сыноў цярпення, якога двое і хацелі заспець. Але ён ужо ўжыў лекі ад пакуты і таму не адчыніў, а рашуча і гучна пачаў крычаць словы... Трое хутка выйшлі са двара, але яшчэ далёка іх чулі.

Але горшае было наперадзе.

### НОЧ

У вялікім доме, дзе раскрылі тайну жаданняў, статыста ўразіла страшная лічба "за" — 666. Мозг пачала свідраваць адна навязлівая думка: "Я не ў сваёй рэальнасці. Мне трэба самому пераўтварыцца". У пакоі з паперкамі жаданняў усіх было 13. Статыст адчуў, што лішні і мусіць пайсці адсюль. І пайшоў.

Туман згусцеў настолькі, што не было відаць нічога за некалькі крокаў перад сабою. Толькі шызая сцяна наўкол. Яго душа ўжо не выносіла гэтага туману. Статыст ішоў і думаў: "Дзе пераўтварыцца і як гэта лепш зрабіць, каб дакладна і бязбольна трапіць у сваю рэальнасць?".

І ўвайшоў ён ужо ўначы ў аб'ём звычайнага існавання свайго. Хаця ён і хацеў быць толькі статыстам, але цяпер адчуваў сябе зняверaным, брудным і не жадаў зараз нічога, а прагнуў знікнуць, перастаць адчуваць.

Памыўшы рукі, ён пакінуў ліст і пераўтварыўся.

### ЗВАР'ЯЦЕЛЫ (ПАСМЯРОТНЫ ЛІСТ)

Дакуль можна прыціскаць правы меншасці, мяшаць з брудам усё для яе святое? Датуль, пакуль не загоніш яе ў кут, калі простая роспач не стане безвыходнасцю, пакуль адчай не народзіць прагу здзерства, жаданне не проста працаваць у невыносных умовах, а крышыць, нішчыць, руйнаваць, выпальваць, ператвараць у друз усё супярэчнае табе, тваім поглядам на свет, тваім перакананням, тваёй натуры, твайму другому "я". Нельга ўвесь час не быць сабою. А быць сабою ў такіх умовах няма як. Гэта нараджае імкненне зрабіць крок, здзейсніць падсвядомыя мары, спыніць штодзённы духоўны гвалт. Натура, як загнаны звер, шукае выйсця, яна прагне адэкватных рэакцый на ўціск, на прымус. Вы бачылі вочы зацкаваных? У іх няма пытання "за што", у іх адно дзікае жаданне памсціцца, развязаць вузел безвыходнасці, упіцца зубамі ў горла ворага і давесці хаця б аднаго з іх да скону. Толькі тады ўласная згуба набывае які-ніякі сэнс.

Вам кажуць: "Вы ёсць ніхто, вы непатрэбныя, такіх, як вы, трэба баяцца і зліквідоўваць, калі не атрымаецца — знівеліраваць". Значыць, барацьба непатрэбных — гэта толькі барацьба за жыццё, за ўласнае фізічнае існаванне, якое цяжка ўявіць без існавання духоўнага. І ступень набліжэння да прорвы, у якую хочуць нас саштурхнуць, прама прапарцыянальна адчаю, і безвыходнасці, і празе рэваншу, а гэта значыць — празе жыць.




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-660





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4822
Нумар падпісаны 12.12.1996 г.
Заказ 7800/Г

П 123456789101112
М 123456789101112


Надзённае

# СУЦІШАНАСЦІ ПРАГНУ — І ПРАШУ

**Гэтым летам мы разам з калегай-журналісткай Валянцінай Шымановіч абышлі пяшком уздоўж дзяржаўнай мяжы ўсю Беларусь. Наша адасобленасць ад палітычных страсцяў на працягу чатырох месяцаў не была часам абыякавасці. Мы сустракалі людзей самых розных узростаў, поглядаў, перакананняў. Мы слухалі свае сэрцы. Паступова выспявала перакананне: мудрасць і спакой — вось неабходныя ўмовы для таго, каб вырашыць сённяшнія супярэчнасці. Мудрасць і спакой патрэбны як для прыняцця грамадскіх законаў, так і для развязвання балючых вузлоў у нашых сем'ях, у кожным чалавечым сэрцы.**

**З мудрасцю і спакоем браліся калісь нават за самыя дробязныя справы вялікія людзі. З мудрасцю і спакоем твырыліся справы дзяржаўнай важнасці. Кажуць, толькі ў спакойным стане чалавек здольны чуць голас свайго сэрца — голас праўды, не скрыўлены страсцямі, амбіцыямі, палітычнымі лозунгамі.**

**Хай жа Мудрасць і Спакой запануюць урэшце над Беларуссю. Над яе сынамі і дочкамі, якія сёння выбіраюць, хто свядома, а хто па чужой падказцы — і свой, і нашагульны шлях у будучыню. Выбар сапраўды выспявае ў нашых сэрцах (а часцей — у галовах...) задоўга да дзеі. Але ж заўсёды былі і вечна будуць Найвышэйшыя Законы, па якіх уладкавана высокая і таемная дзея — само Жыццё.**

**Акіян будучыні — ці то беспрасветнае, ці то сонечна-іскрыстае — пачынаецца з маленькіх ручайкоў: з волі кожнага з нас. Мы робім выбар — і благаслаўляем, даём права нарадзіцца той народнай праўдзе, якая стане рэальнасцю на Беларусі праз год, два, тры...**

**Прапаную ўвазе чытачоў трыпціх "Конадзень". *Конадзень* — гэта, інакш кажучы, пярэдадзень, той патаемны час, калі з надрэальнасці пачынае праяўляцца *Наканаванае*.**

**Аўтар**

Іван ЖДАНОВІЧ

## КОНАДЗЕНЬ

*ТРЫПЦІХ*

### 1. СУЦІШАНАСЦЬ

**Чакае ціха першынца суседка —
І бога чуйна слухае знутры:
Ён палюсы нязмірныя змірыў,
Каб выспела
Жыцця
жывая кветка.**

**Ён асвятліў спакоем твар
жаночы —
І німб, як шчыт, яе абараніў
Ад шумнай навакольнай таўкатні.
І
Вечнасць
сузіраюць ціха вочы.**

**Знутры, з цяпла вырастае
Святло,
Дзень заўтрашні,
якому ўсё магчыма...
А быў жа твар з пакутнымі вачыма:
Хвароба выракала род у тло..
Малілася... І верыла заўсёды,
Што Богу ўсё пад сілу: гэта ж
Бог...**

**...О, Беларусь!
Чаму ж сярод трывог
Ты страчваеш надзею на свабоду?**

**Чаканнем спаланёная, не плача
Вагітная.
Спакой —
яе браня.
А твой спакой шалёная гайня
Ірве, шматае
з жорсткасцю сабачай.
Суцішанасці прагну — і прашу.
Спакой і цішыня — як цуда-лекі,
Бо ў злосці нараджаюцца калекі
І дыбяць болем выбухі душу.**

### II. НАКАНАВАНАСЦЬ

**Наканаванаму — адбыцца.
Як ні адпрэчвай — споўніць лёс:
Дзіцятка мусіць нарадзіцца,
Лісток павінен распусціцца,
Расток — з зямлі
на свет прабіцца,
Калі ўжо з зернейка прарос.**

**Народзіць ваўчанят ваўчыца...
Разродзіцца няшчасцем злосць...
Наканаванаму — адбыцца:
Ад сонца —
промнік заіскрыцца,
З крыніцы — выпырсне вадзіца...
На стол упала лёсу косць.**

**На роды выспела прычына —
І затрымаць іх немагчыма.
...Ды толькі там,
дзе згасла вера,
Народ на свет народзіць звера.**

### III. ПРЫМІРЭННЕ

**Як прымірыць агонь з вадою,
І ці магчыма прымірыць?
Праменьчык лучыцца з расою —
І ўсходзіць кветка маладою,
І немаўлятка ў лоне спіць...**

**Той мір спрадвеку ладзяць двое
Ля патаемнае мяжы:
Агонь іскрынкаю святою
Ваду асвечвае — і
Тое,
Што лона выпаўнена тоіць,
Ужо жыццём жывым гарыць.
Любоў — згаранне на крыжы...
З тае распятасці жывое
Усё, што ў свеце, стала жыць.
Хай сэрца ў радасці трымціць:
Агонь вадою не згасіць.
З іх паяднанасці жывое
Усё жыве — і прагне жыць.**

*Верасень, 1996 г.*